ПРАЛЕТАРЫ УСІХ КРАЕУ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!




# КААПЭРАЦЫЯ БССР



ЧАСОПІСЬ БЕЛКААПСАЮЗУ і БЕЛСАМПРАМСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У 20 ДЗЁН

1 чэрвеня—10 ліпеня

№ 4-5

МЕНСК — 1930

# ЗЬМЕСТ



Галоўлітбел № 2257. Заказ № 2576—1500 экз. Друкарня «Палесдрук», Гомель.

**НЯХАЙ ЖЫВЕ XVI ЗЬЕЗД УсеКП(б)!**

**Пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі спажывецкая коопэрацыя— магутная зброя ў барацьбе за соцыялізм**

Г. Хаскін

# Праца спажывецкай коопэрацыі БССР

(за пэрыод паміж III і IV сходамі ўпаўнаважаных БКСаюзу)

Пэрыод паміж сходамі ўпаўнаважаных спажывецкай коопэрацыі БССР складае амаль што $2^1/_2$ гады. За гэты час спажывецкая коопэрацыя БССР прайшла цяжкі шлях і мае пэўныя дасягненьні. За гэтыя $2^1/_2$ гады значна павялічылася ўдзельная вага спажывецкай коопэрацыі ў гаспадарчым жыцьці нашай рэспублікі. Значна ўзрасло ахапленьне коопэраваньнем пролетарскіх мас гораду і асноўных мас вёскі; значна павялічыўся коопэрацыйны гандлёвы зварот; узрасла роля спажывецкай коопэрацыі ў мерапрыемствах партыі і ўлады, накіраваных да ўздыму культурнага ўзроўню працоўных мас. Гэтыя дасягненьні пацьвярджаюцца наступнымі лічбамі: на 1/X-28 г. у гарадох БССР мелася пайнікаў 151873 чал., у сельскіх мясцовасьцях—501737 чал , проц. коопэраваньня беднаты складаў 44,4, а на 1/VI-30 г. колькасьць пайнікаў у гарадох узрасла да 290 тыс. чал., што дае ахапленьне членаў профсаюзаў у 90 проц., у сельскіх мясцовасьцях колькасьць пайнікаў узрасла да 900 тыс. чал., а проц. коопэраваньня беднаты складае ўжо 78,1 проц. Тут важна адзначыць, што за гэты час фонд коопэраваньня беднаты (які складаецца шляхам штогадовага адлічэньня ад прыбытку) узрос да 700 тыс. руб., за кошт яго коопэравана 220534 беднякі, у тым ліку 49254 бяднячкі.

У галіне паянамнажэньня на 1/X-28 г. паявыя капіталы ў рабочай коопэрацыі складалі 1 млн. 278 т. р., у спажывецкіх таварыствах—2 млн. 880 т. руб.; на 1/VI-30 г. паявыя капіталы ў рабочай коопэрацыі ўзрасьлі да 3 млн. 313 т. руб., а ў спажывецкіх таварыствах—да 9 млн. 305 т. руб., сярэдні пай на 1/X-28 г. у рабочай коопэрацыі складаў 9 р. 70 к., у спажтаварыствах—5 р. 74 к., тады як на 1/VI-30 г. у рабочай коопэрацыі ён ужо складае 13 р. 13 к., а ў вясковай сетцы—10 р. 69 к.

Гандлёвая сетка ў горадзе і на вёсцы ўзрасла з 2705 на 1/X-28 г. да 3550 на 1/VI-30 г., значна ўзрос зварот сыстэмы. Увесь агульны зварот спажывецкае коопэрацы і за 1928-29 г. узрос на 46 проц. супроць 27-28 г. і складаў 431 млн. р. За першае паўгодзьдзе 1929-30 г. зварот узрос на 50 проц. Такі ўзрост зваротаў коопэрацыі азначае значнае дасягненьне коопэрацыі ў ахопе насельніцтва і амаль поўнае выцісканьне з рынку прыватніка. За гэты час значна разгарнулася будаўніцтва новых хлебазаводаў, сталовак. Пабудавана ўжо 5 новых хлебазаводаў, будуецца яшчэ 4. Пабудаваны шэраг буйных сталовак. Будуецца ў Менску фабрыка-кухня, якая будзе даваць 24000 абедаў у дзень. Такую самую фабрыку-кухню намечана пабудаваць і ў другіх нашых пролетарскіх цэнтрах: Віцебску і Гомлі. За гэты-ж пэрыод коопэрацыя ўзялася за новую працу па організацыі прыгарадных гаспадарак.

Гэтыя значныя дасягненьні ў сваёй аснове сталі магчымымі толькі дзякуючы таму бурнаму ўзросту соцыялістычнага будаўніцтва, якое

мы маем за апошнія гады, аснованаму на правільнасьці генэральнай лініі нашай комуністычнай партыі ва ўсім соцыялістычным будаўніцтве.

Аднак, гэтыя дасягненьні спажывецкай коопэрацыі далёка ня вычэрпваюць усяе сумы вялікіх заданьняў, ускладзеных партыяй і рабочай клясай на спажывецкую коопэрацыю.

Вынікі першых $1^1/_2$ год пяцігадовага пляну вялікіх работ з усёй яскравасьцю паказваюць, што спажывецкая коопэрацыя значна адстае ад агульных тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і далёка не перабудавала сваю працу, каб забясьпечыць выкананьне задач, ускладзеных на яе пяцігадовым плянам соцбудаўніцтва.

Апошняя пастанова ЦК УсеКП(б) ад 15/V, пастанова XIII зьезду КП(б)Б, пастанова ЦК КП(б)Б ад 22/VI з усёй рашучасьцю і абсолютнай правільнасьцю ўскрылі шэраг вялікіх недахопаў у справе спажывецкай коопэрацыі і абавязваюць нашую сыстэму хутка і рашуча пераключыцца на высокія тэмпы, паказваючы асноўны пералік неабходных дзеля гэтага мерапрыемстваў, і адначасова даюць шэраг дырэктыў парторганізацыям аб патрэбным падтрыманьні і дапамозе спажывецкай коопэрацыі.

З гэтага кожны коопэрацыйны працаўнік і ўся сыстэма ў цэлым павінны зрабіць вывад, што асноўны і буйнейшы недахоп у працы спажывецкай коопэрацыі заключаецца ў тым, што мы ў сваёй рабоце да апошняга часу ня мелі такіх тэмпаў у працы, якія забясьпечылі-б хуткае і пасьпяховае выкананьне задач, якія вынікаюць з агульных задач соцыялістычнага будаўніцтва. У гэтым, менавіта, галоўная бяда большасьці нашых коопэрацыйных організацый, у асноўным толькі ў гэтым прычына прарываў у нашай рабоце.

Падводзячы ітогі нашай працы, мы павінны рашучым чынам ніяк не марудзячы і ў поўнай адпаведнасьці з дырэктывамі нашай партыі ўключыцца ў агульныя тэмпы нашага соцыялістычнага будаўніцтва, забясьпечваючы поўнае выкананьне асноўных і важнейшых задач.

Разгортваючы працу па організацыі соцыялістычнага разьмеркаваньня на аснове сапраўднага ўменьня манэўраваць таварнымі масамі, накіроўваючы яе на важнейшыя вучасткі, захоўваючы пры гэтым сапраўдныя клясавыя прынцыпы, дабіваючыся сапраўднага ўменьня гандляваць, кожная організацыя спажывецкай коопэрацыі павінна з усёй настойлівасьцю дабівацца пашырэньня харчовай базы, забесьпячэньня рабочае клясы.

Упартым змаганьнем трэба дамагацца стварэньня і выкарыстоўваньня мясцовых рэсурсаў. Неабходна раз і назаўсёды коопэрацыйнаму працаўніку зразумець, што коопэрацыйныя організацыі па сваёй сутнасьці павінны зьяўляцца ня вузка-гандлёвымі адзінкамі, але і організацыямі гаспадарчымі і грамадзка-рознабаковымі.

Наша сыстэма, праўда, яшчэ далёка нерашуча ўзялася за разьвязваньне шэрагу новых вытворча-гаспадарчых задач, якія пашыраюць базу снабжэньня і тым самым паслабляюць тое напружанае становішча, якое мы перажываем зараз у забесьпячэньні рабочых — гэта прыгарадныя гаспадаркі, малочныя фэрмы, сьвінаводныя гаспадаркі, гадоўля птушак і трусоў і наогул шырокая пастаноўка пытаньня аб разгортваньні коопэрацыйнай прамысловасьці.

Аднак, некаторыя думаюць, што гэта работа спажывецкай коопэрацыі часовая. Трэба сказаць, што гэтую работу ні ў якім разе нельга разглядаць як часовую; яна ня толькі вынікае з таварных цяжкасьцяй, а, як правільна сказаў тав. Бадаеў, „гэта адзін з элемэнтаў суцэльнасьці работы спажывецкай коопэрацыі“.

З гэтай прычыны тое, што мы зрабілі ў гэтай галіне, ні ў якай меры ня можа нас задаволіць. Нам

трэба патроіць будаўніцтва прыгарадных гаспадарак, сур'ёзна паставіць вырашэньне задачы організацыі сьвінагадоўчых гаспадарак, малочных фэрмаў, а таксама разгортваньне цэлага шэрагу новых галін, як гародніны, консэрваў і г. д. Тав. Бадаеў праў і тады, калі ён кажа, што „многія нашы організацыі ня толькі акруговыя, але і абласныя ўяўляюць з сябе і гаспадарчую і організацыйную куды большай ступені „контору“, чым суцэльную пролетарскую організацыю“. А з разуменьня конторы вынікае ня толькі гаспадарчае малакроўе, але і конторскія мэтоды, конторскія тэмпы працы, бюрократызм, яе слабае разгортваньне грамадзкасьці і шэраг іншых грахоў“.

Мы ні ў якім разе не павінны захапляцца паасобнымі дасягненьнямі. Нам неабходна ўлічыць усе нашы недахопы, прарывы, выяўленыя толькі што скончанай чысткай апарату спаж. сыстэмы, дзе было дадзена вельмі шмат каштоўных прапаноў. Мы павінны надалей працягваць ачышчэньне коопэрацыйнага апарату ад чужых і варожых нам элемэнтаў, скрыўляючых генэральную лінію партыі.

Дырэктыва партыі аб узьняцьці рэальнага ўзроўню зарплаты рабочае клясы ва што-б та ні стала павінна быць выканана, таму спажывецкая коопэрацыя ў цэлым павінна ня толькі дабіцца зьніжэньня цэн на важнейшыя тавары і продукты, але і максымальна забясьпечыць ахапленьне рабочага бюджэту, асабліва па групе с.-г. продуктаў, якая вельмі адстае. Тое становішча, якое мы маем зараз, калі роля рынкавага прыватніка гэтымі прадуктамі ў бюджэце рабочага ўзрасла і тым самым дае рост бюджэтнага індэксу па гэтых продуктах, у далейшым абсолютна нельга цярпець.

Узмоцненай працай у бліжэйшыя месяцы мы павінны дамагчыся адчувальных посьпехаў.

Наша праца на вёсцы вельмі адказная. Сваёй умелай працай мы павінны садзейнічаць ня толькі замацаваньню, а і шырокаму разгортваньню, пад кіраўніцтвам партыі, далейшага росту колгаснага будаўніцтва. Скрыўленьні і перагібы, якія мелі месца ў пэрыод „галавакружэньня ад посьпехаў“, маюць дачыненьне і да нашых паасобных організацый, а таму наша задача— быць актыўным дапаможнікам партыі ў барацьбе з гэтымі скрыўленьнямі і перагібамі. Прад намі стаіць



Паравоз-падарунак ад рабочых Бранскага заводу XVI зьезду ЎсеКП(б), зроблены ў няўрочны час.

зараз шмат адказных задач у справе коопэраваньня. На вёсцы надыходзяць хлебазагатоўчая кампанія і шэраг іншых відаў загатовак, вакол якіх клясавая барацьба будзе разгортвацца з усёй сілай. Мы павінны разгарнуць грамадзка-масавую працу навакол гэтых кампаній, асабліва трэба разгарнуць працу з беднатой і батрацтвам, організаваўшы іх вакол гэтых задач дзеля рашучай барацьбы з клясавым ворагам—кулаком. Асаблівую ролю спажывецкая коопэрацыя павінна адыграць у наступаючай уборачнай кампаніі.

За апошні час мы мелі шэраг буйных прарываў, скрыўленьняў, злоўжываньняў і г. д. у некаторых нашых арганізацыях і ў горадзе і на вёсцы.

Рэорганізацыя сыстэмы зьверху данізу, якая праводзіцца зараз, зробіць яе гэтым самым больш гібкай, больш таннай, больш прыстасаванай да лепшага абслугоўваньня спажыўца, павінна таксама ў значнай меры наблізіць масы да спажыўкоопэрацыі, узмацніць масавы контроль над працай коопэрацыйных арганізацый, тым самым зьнішчыць моманты адарванасьці нашых паасобных арганізацый ад мас, бюрократызму паасобных нашых апаратаў і г. д.

Важнейшаю задачаю зьяўляецца выкананьне плянаў набыцьця сродкаў у сыстэме, у выпадку невыкананьня якой мы ня здолеем выканаць цэлы шэраг важнейшых мерапрыемстваў па будаўніцтву. Вынікі за першае паўгодзьдзе 1929-30 г. гавораць аб вялікай пагрозе ў гэтай галіне. Даволі сказаць, што ў гарадзкой рабочай коопэрацыі гадавы плян выканан на 23 проц., а ў вясковай--на 42 проц. Каб пераканацца ў неабходнасьці прыняцьця шэрагу рашучых мер, каб пазбавіцца гэтых прарываў, неабходна дабіцца поўнага выкананьня пляну паянамнажэньня, укладаў, скарачэньня таварных рэштказ і рэнтабельнасьці працы. Аднак, некаторыя нашы арганізацыі думаюць, што рэнтабельнасьці працы можна дабіцца толькі мэтодам павялічэньня процантаў накладаньня; такой рэнтабельнасьці ў працы ніхто нам не дазволіць. Нам трэба рэнтабельнасьць працы пабудаваць выключна на базе максымальнай экономіі ва ўсёй працы, рацыяналізаванай справай, змаганьнем з усякімі ўтрускамі, уцечкамі, „грызунамі“.

У нас і цяпер яшчэ ёсьць вялікае ліха—гэта растраты і крадзяжы, якія ня толькі скарачаюцца, але растуць. Калі іх было к 1/X-28 г. на 333.000 рублёў, дык на 1/X-29 г. стала 466.000 руб. Трэба рашуча ўзяцца за выкарчоўваньне гэтага зла, узмацніць грамадзкі контроль над працай кожнай паасобнай ячэйкі нашай сыстэмы.

Узмацніць апарат нашай сыстэмы адданымі пролетарскімі людзьмі з рабочых, беднякоў, батракоў, колгасьнікаў і г. д.

Таму ў нашай сыстэме проблема кадраў зьяўляецца надзвычайна актуальнай, і нам прыдзецца за вырашэньне яе ўзяцца з усёй сілай.

Сходу ўпаўнаважаных спажывецкай коопэрацыі БССР прыдзецца пад лёзунгам бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі падвесьці ітогі праробленай працы, па-пролетарску ўскрыць яе недахопы. І пад лёзунгам поўнага выкананьня задач, ускладзеных партыяй на коопэрацыю, пры строгай дысцыпліне ўнутры сыстэмы, разгарнуўшы соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва ў рабоце, пайсьці па шляху далейшых дасягненьняў і перамог на фронце цяжкасьцяй.

**Выканаем баявое заданьне партыі—зьнізім цэны, палепшым якасьць абслугоўваньня пайнікаў, павялічым рэальную зарплату**

# Вітаем IV сход упаўнаважаных спаж. коопэрацыі Б.С.С.Р.

**Абгаворым дасягненьні, выявім недахопы**

I. Гармізэ

## Да складаньня контрольных лічбаў на 1930-31 г.

Зараз мы ўступілі ў пару складаньня контрольных лічбаў на 1930-31 г. Складаньне контрольных лічбаў якраз супадае з падрыхтоўкай матар'ялаў да IV сходу ўпаўнаважаных БКС. У гэтым знаходзіцца даволі ўдалае сумяшчэньне: з аднаго боку, падагульненьне вынікаў дзейнасьці сыстэмы за апошнія два гады (ад часу апошняга склікаfor ньня ўпаўнаважаных), а з другога—распрацоўка програмы працы спажывецкай коопэрацыі на 1930-31 г., якія зьяўляецца трэцім годам пяцігодкі.

Пролетарыят Савецкага Саюзу выявіў цьвёрдую волю да выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, і тым выдатней зьяўляецца плянуемы год, паколькі яму давядзецца ў значнай частцы завяршыць вялікую програму пяцігадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры.

Кінуты і падхоплены ўсімі творчымі пролетарскімі сіламі краіны лёзунг „дагнаць і перагнаць" яшчэ больш рэльефна павінен будзе выявіцца ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

Спажывецкая коопэрацыя, якая займае адно з самых адказьнейшых месц у агульнай сыстэме народнага гаспадарчага разьвіцьця, павінна будзе ўключыцца ў агульныя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва. Новыя вялізарнай важнасьці патрабаваньні, прад'яўляемыя да спажывецкай коопэрацыі рэконструкцыйным пэрыодам, патрабуюць ад усіх зьвеньняў сыстэмы яшчэ большага згуртаваньня вакол генэральнай лініі партыі, якая вядзе да далейшых неаслабных тэмпаў у індустрыялізацыі краіны, да далейшага выкарчоўваньня рэшткаў капіталізму, да далейшай ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі, да далейшага рашучага адпору ўсякім праяўленьням дробнабуржуазных настрояў, аднолькава з якога-б боку яны ні выходзілі.

Контрольныя лічбы спажывецкай коопэрацыі павінны быць прасякнуты асноўнымі народна-гаспадарчымі задачамі, паколькі проблемы і задачы яе разьвіцьця цесна і органічна пераплятаюцца з задачамі індустрыялізацыі краіны, колектывізацыі сельскай гаспадаркі і соцыялістычнай перабудовы быту.

Спажывецкая коопэрацыя ўступіла ў паласу новых першараднай важнасьці задач, значна папаўняючых і ўскладняючых рух і аб'ём яе дзейнасьці. На асобных вучастках коопэрацыйнага будаўніцтва контрольныя лічбы вызначаюць далейшыя неаслабныя тэмпы росту.

У галіне коопэраваньня перад спажывецкай коопэрацыяй стаіць задача пагалоўнага коопэраваньня амаль усяго дарослага працоўнага насельніцтва ў гарадох і ў соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі. Па лініі сельскага сэктару таксама павінны быць уцягнуты ўсе бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі, якія да гэтага часу яшчэ н

ўцягнуты, і значна пашыраны контынгент другіх членаў сям'і.

Такі маштаб уводзіць нас у паласу ленінскага пляну пагалоўнага коопэраваньня.

У пляне павінна знайсьці зусім акрэсьленае выражэньне падвышэньня якасьці абслугоўваньня аж да стварэньня нормальных умоў, якія даюць магчымасьць пайнікам задавальняць свае спажывецкія патрэбы. Патрабаваньні і мерапрыемствы ў гэтых адносінах павінны быць катэгорычнымі і вычэрпваючымі.

Далейшае пашырэньне сеткі, рацыяналізацыя тэхнікі гандлю, мобілізацыя ўсяе пролетарскай грамадзкасьці, сапраўднае ўкараненьне соцыялістычных форм і мэтодаў павінны пер態тварыцца ў зброю дзейнасьці за падвышэньне якасьці абслугоўваньня спажыўца. Рашучага пералому павінна дабіцца спажкоопэрацыя ў галіне рабочага забесьпячэньня.

Поўнае забесьпячэньне рабочага насельніцтва продуктамі і таварамі спажываньня, першачарговае абслугоўваньне рабочага насельніцтва, зьніжэньне цэн да межаў дасягненьня сапраўды адчуваемых вынікаў на падвышэньне рэальнага ўзроўню зарплаты, разьвіцьцё ўласнай сельскагаспадарчай вытворчасьці і поўнае захаваньне клясавага прынцыпу ў разьмеркаваньні тавараў—усё гэта павінна стаць цэнтральным пытаньнем пляну, у сэнсе яго поўнага вырашэньня.

З асаблівай увагай павінны быць прапрацаваны пытаньні фінансавай гаспадарчай сыстэмы. Усе звеньні сыстэмы, уся коопэрацыйная грамадзкасьць павінны дабіцца рашучага вызваленьня дзяржаўных сродкаў з коопэрацыйнага звароту. Мала гэтага, спажывецкая коопэрацыя, як організацыя спажыўцоў, павінна максымальна мобілізаваць сродкі на патрэбы індустрыялізацыі краіны. Неабходна дабіцца рашучага пералому ў справе мобілізацыі сродкаў насельніцтва.

Вялікую важнасьць набывае далейшае пашырэньне хлебапячэньня і грамадзкага харчаваньня. І на гэтым вучастку спажывецкая коопэрацыя павінна дабіцца рашучага пералому як у сэнсе інвэнтару, так і асабліва па лініі якаснага ўдасканаленьня надзвычайна важных галін коопэрацыйнага абслугоўваньня.

Пастанова ЦК УсеКП(б) аб спажывецкай коопэрацыі павінна стаць абавязковым наказам пры складаньні програм працы на 1930-31 г.

Сама прапрацоўка контрольных лічбаў павінна быць баявою задачаю ўсіх звеньняў сыстэмы. Вопыт мінулых гадоў паказаў нам, што сыстэма ящчэ не зразумела ўсяе важнасьці сталае прапрацоўкі гадавых плянаў. На гэтую працу глядзелі, як на нейкі прымусовы абавязак. Аддаць усю энэргію і грамадзкую ўвагу гэтай справе будзе лепшым выкананьнем усіх галоўных проблем далейшага коопэрацыйнага будаўніцтва.

Л. Мазелеў

# Вытворчая дзейнасьць спажывецкай коопэрацыі

Пытаньне правільнай організацыі, пашырэньня і палепшаньня грамадзкага харчаваньня і хлебапячэньня мае занадта важнае політычна-экономічнае значэньне. Рабочая кляса патрабуе рашучых мер да палепшаньня гэтае галіны народнае гаспадаркі, бо дрэнная яе праца б'е па рэальнасьці зарплаты; гэтага-ж патрабуе і праводзімая зараз рашучая кампанія па ўзьняцьці вытворчасьці працы, выкананьні

і перавыкананьні прамфінпляну. Гэта таксама патрэбна і ў інтарэсах аздараўленьня насельніцтва і г. д.

Спажывецкая коопэрацыя ў справе разьвіцьця грамадзкага харчаваньня мае шэраг колькасных дасягненьняў: так, на 1/X-28 г. па ЦРК было: сталовых—42, буфэтаў—34, чайных—3, а на 1/V-30 г. па ЦРК было: сталовых—92, буфэтаў—70, чайных—7.

На 1/X-28 г. па спаж. т-вах было: сталовых—23, буфэтаў—7, чайных—14, а на 1/V-30 г. па спаж. т-вах было: сталовых—168, буфэтаў—н/в., чайных—20.

Колькасьць адпушчаных абедаў узьнялася з 4,5 міл. у 27-28 г. да 22 міл. у 29-30 г., а зварот—з 5,1 міл. да 21,5 міл руб. Але ўсё гэта нават у мінімальнай ступені не задавальняе патрэб рабочае клясы і працоўнага насельніцтва. Як вынік дрэннай організацыі і кіраўніцтва гаспадаркай і працай, а таксама недастатковасьці сталовых і вострага недахопу кадраў, маем бруд, цеснату, дрэнную якасьць продукцыі і абслугоўваньня. Пры ўсім гэтым амаль зусім ня прыцягнута грамадзкасьць да кантролю над грамадзкім харчаваньнем і хлебапячэньнем.

У гэтым годзе спажкоопэрацыя зрабіла сур'ёзныя зрухі ў справе наладжваньня абслугоўваньня сэзоньнікаў грамадзкім харчаваньнем, але гэта было зроблена толькі пасьля рашучага націску на спажывецкую коопэрацыю, пры чым яно праводзілася вельмі марудным тэмпамі, і ў выніку выявілася бездапаможнасьць шэрагу організацый спажкоопэрацыі ў наладжваньні гэтае справы і простае нежаданьне з боку іншых організацый. Усяго маецца 40 сталовых для будаўнікоў, 6 для сплаўнікаў і 14 для тарпянікаў.

Сёлета організавана 77 сталовых у сац. сэктары с/г. (50—у колгасах, 27—у саўгасах). Трэба сказаць, што з боку большасьці орнанізацый ня было шчырага жаданьня наладзіць гэтую справу, дзякуючы чаму адкрыцьце гэтых пунктаў харчаваньня ня было праведзена ў часе сяўбы. Таксама ня былі ясны і ўзаемаадносіны спаж. т-ваў з колгасамі. Зараз гэтая справа вырашана ў тым напрамку, што спажкоопэрацыя павінна зябясьпечваць колгасы абсталяваньнем для сталовых, якія будуць адкрывацца па ініцыятыве саміх колгасаў, і што на даным этапе гэтак можа і павінна пайсьці праца па організацыі грамадзкага харчаваньня ў колгасах.

Дрэнна абстаіць справа з забесьпячэньнем сыравінай сталовых. Катэгорычныя паказаньні на організацыю правільнага забесьпячэньня і нарыхтовак для сталовых на водпуск сталовым продуктаў па сабекаштоўнасьці і добрай якасьці злачынна сабатуюцца многімі організацыямі. Таксама спажкоопэрацыя адносіцца да справы падрыхтоўкі кадраў. Тое-ж па шэрагу організацый назіраецца і ў політыцы цэн: вялізарнейшыя накідкі на адпускныя цэны, водпуск сталовым продуктаў з падвойнаю накідкай, неправядзеньне дырэктывы аб дыфэрэнцыяцыі цэн—непрадастаўленьне ільготнага водпуску абедаў для шматсямейных і для бяручых абеды да дому.

Вялікім дасягненьнем зьяўляецца мэханізацыя хлебапякарнай прамысловасьці ў БССР. На сёньняшні дзень мы ў шэрагу гарадоў маем мэханізаваныя або паўмэханізаваныя хлебазаводы (пякарні), будуем новыя хлебазаводы. Гэтак, укладаньняў на новае будаўніцтва па хлебапячэньні ў 28-29 г. было 392 т. р., у 29-30 г.—910 т. р., а на 30-31 г. вызначана па 1-му варыянту каля 3 міл. Колькасьць выпякаемага хлеба ўзьнялася (па ЦРК і спаж. т-вах н/в) з 25 тыс. тон у 27-28 г. да 66 т. тон у 29-30 г. Усё

менш становіцца колькасьць гарадоў, адпушчаючых насельніцтву муку замест хлеба.

Але, ня гледзячы на гэта, ёсьць цэлы шэраг дрэнных паказальнікаў у працы; дрэнная організацыя і кіраўніцтва працай па хлебапякарнай прамысловасьці, недастатковая мобілізацыя масы праз ЧКК, вытворчыя нарады, соцспаборніцтва і сапраўднае ўдарніцтва (ёсьць шэраг выпадкаў ілжэўдарніцтва) навакол пытаньняў узьняцьця якасьці хлеба і пытаньня сабекошту—зьмяншэньня накладных выдаткаў, эканоміі сыравіны, павялічэньня прыпёку, зьмяншэньня роспылу і г. д. Гэта прыводзіць да таго, што ў той час, як Гомель, Рэчыца і Ворша дапушчаюць жытні хлеб па 12 к. кілё, усе іншыя організацыі адпушчаюць па 10 к. кілё. Дрэнна пастаўлены транспорт хлеба; да гэтага часу яшчэ не наладжаны ўласны транспорт хлеба. Зусім ня рыхтуюцца новыя кадры. Сыстэма не атрымоўвае ад БКС ніякага кіраўніцтва ў спажыўтэхнолёгіі і ў адносінах выбару больш лепшага тыпу абсталяваньня для хлебазаводаў. Адсутнічаюць вытворчыя лябараторыі, а таксама інжынэрныя кадры, гэтак неабходныя для разгортваньня нашай важнай галіны народнай гаспадаркі. Таксама не мобілізавана пролетарская грамадзкасьць для контролю над хлебапячэньнем.

Наступны 30/31 г. павінен быць пераломным як у адносінах колькасных, гэтак і якасных паказальнікаў, інакш мы ня выканаем 5-гадов. пляну, зусім адстанем ад тэмпаў росту народнае гаспадаркі. Копэрацыя павінна перавесьці ўсе хлебазаводы, сталовыя на гаспадарчую самастойнасьць і з асобнымі балянсамі (дробныя сталовыя і буфэты, а таксама хлебапякарні—куставаць) і ўвесьці поўнае адзінаначальле. Безадкладна прыступіць да складаньня хлебазаводамі, сталовымі прамфінплянаў на 30/31 г. з давядзеньнем апошніх да цэху і паасобнага рабочага. Пры БКС павінны быць створаны самастойныя сэктары па грамадзкаму харчаваньню і хлебапячэньню і адпаведныя аддзелы (групы) пры ЦРК і райсаюзах. Там, дзе гэтакія аддзяленьні (групы) існуюць, грамадзкае харчаваньне і хлебапячэньне павінны быць выдзелены з агульнай па ЦРК бухгальтэрыі ў зборную бухгальтэрыю для вытворчасьці. (Асноўная бухгальтэрыя вытворчасьці знаходзіцца на прадпрыемствах). Неабходна рашуча і пад контролем грамадзкасьці перагледзець і зьнізіць цэны. Па ўсіх ЦРК павінна быць створана спэцброня продуктаў для сталовых. Рашуча павінна быць зьнішчана шкодная практыка—прыём і водпуск сыравіны для пераапрацоўкі па сталовых і хлебазаводах „на глазок“, бяз узважваньня. Неабходна зьменшыць бракаваньне, а таксама ўдасканаліць норму набору продуктаў (стандарты па хлебу). Па ўсіх хлебазаводах і буйных сталовых неабходна ўвесьці тэхнічнае нормаваньне працы. Неабходна дамагчыся адкрыцьця дадатковых 5 ФЗВ для грамадзкага харчаваньня, спэцтэхнікуму і ФЗВ для хлебапякарнай прамысловасьці. Па ўсіх хлебазаводах і буйных сталовых (кустах) павінна быць створана вытворчая лябараторыя. Неабходна пашырыць і рашуча патаніць водпуск дыэтабедаў, а таксама сур‘ёзна прыступіць да наладжваньня дзіцячага харчаваньня.

Пры ўсім гэтым неабходна рашуча мобілізаваць пролетарскую грамадзкасьць, як саміх працуючых, гэтак, галоўным чынам, і ўсю рабочую клясу, для контролю над працай коопэрацыі ў гэтай галіне, бо толькі ў гэтым выпадку сапраўдна будзе дасягнута палепшаньне грамадзкага харчаваньня і хлебапячэньня.

Е. С. Эпштэйн

# Наша загатоўчая дзейнасьць

*(Да IV сходу ўпаўнаважаных БКС)*

Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР за апошнія тры гады маюць свой адбітак і ў загатоўчай дзейнасьці аграмаджанага сэктару, у прыватнасьці ў рабоце спажывецкай коопэрацыі.

Па меры выціскаcньня прыватніка з загатоўчага рынку асабліва ўзмацнялася загатоўчая дзейнасьць спажывецкай сыстэмы, расла плянавасьць і організаванасьць паміж паасобнымі яе зьвеньнямі. Калі ў 26-27 г. па важнейшых продуктовых загатоўках прыватнік займаў галоўнае месца (збожжа—85 проц., мяса—78 проц., бульба—65 проц. і г. д.), дык у канцы 1928-29 г. мы маем амаль поўнае выцісканьне прыватніка з рынку галоўнейшых продуктаў, а ў тэй частцы, у якой прыватнік яшчэ застаўся, ён захаваўся так, што яго цяжка выкрыць.

Удзельная вага спажывецкай коопэрацыі ў агульных загатоўках дзяржаўнага сэктару штогодна падвышалася (у 1928-29 г.: збожжа—85 проц., ільнанасеньне—52 проц., валакно—29 проц., мяса—37 проц., яйкі—62 проц., шчаціна—52 проц. і г. д.), і на сёньняшні дзень спажывецкая коопэрацыя зьяўляецца аднэй з мацнейшых загатоўчых організацый у БССР. Дасягненьні спажывецкай коопэрацыі зьявіліся вынікам вялізарнай, праробленай сыстэмай работы, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, якая правільна паставіла перад спажывецкай сыстэмай задачы барацьбы з прыватнікам, плянавага ахопу сыравіннага і продуктовага рынку.

З разрозьненай загатоўкі і збыту, з дэмобілізацыйнага, нядбалага загатоўчага апарату ў 26-27 г. спажывецкая коопэрацыя вышла больш-менш організаванай сыстэмай з цэнтралізаваным плянаваньнем і збытам.

Калі ў 1926-27 г. удзел БКС у збыце сыстэмы займаў некалькі процантаў, дык у 1928-29 г. удзел БКС ужо складаў больш 65 проц. (без хлебапродуктаў).

Пры тых, бязумоўна, вялікіх дасягненьнях, якія маюцца ў загатоўчай рабоце спажывецкай сыстэмы, нельга яшчэ казаць, што сыстэма выканала поўнасьцю ўскладзеныя на яе партыяй задачы. У штодзённай працы сыстэмы спажкоопэрацыя не заўсёды чутка ўлаўлівала разгарнуўшуюся клясавую барацьбу ў вёсцы і адпаведна не перабудоўвала свае мэтоды працы. Асабліва гэта адзначалася ў апошні час, калі кулацтва праяўляла шалёную актыўнасьць за затрымку хлеба, за зьнішчэньне жывёлы і г. д. Таксама нельга не адзначыць часта няправільнае разуменьне задач у загатоўках паасобных відаў сыравіны.

Ня глядзячы на яскравыя дырэктывы ЦК УсеКП(б), што задачай спажсыстэмы ў загатоўках зьяўляецца разгортваньне загатоўкі другарадных відаў сыравіны, гэта дырэктыва ня выконваецца; у галіне загатовак другарадных відаў (косьці, рызьзё і г. д.) сыстэма далёка адстае ад іншых загатаўцеляў. Гэтыя недахопы зьяўляюцца вынікам адставаньня ад новых форм работы, ад мэтодаў уцягненьня грамадзкасьці, ад мэтодаў соцыялістычнага спаборніцтва.

Чыстка коопэрацыйнага апарату паказала, што галоўнай прычынай памылак і недахопаў сыстэмы зьяўляецца засьмечанасьць апарату, асабліва загатоўчага, няздатным элемэнтам. Адгэтуль паўстае пытаньне аб падрыхтоўцы кадраў новых савецкіх спэцыялістых-загатаўцеляў. БКС з вялікім спазьненьнем узяўся за гэту справу. Гэта тым больш відочна ў загатоўчай працы, паколькі падрыхтоўка

кадраў спэцыялістых патрабуе больш часу, чым падрыхтоўка кіраўнікоўкоопэратараў.

На працягу бліжэйшых гадоў спажывецкай коопэрацыі яшчэ прыдзецца вытвараць загатоўкі ў значным разьмеры. Нямала цяжкасьцяй у рабоце будзе на гэтым шляху, але гэта абавязвае яшчэ з большай упартасьцю і сур'ёзнасьцю адносіцца да загатоўчай работы як у сэнсе падрыхтоўкі новых кадраў, так і разгортваньня новых мэтодаў работы шляхам уцягненьня грамадзкасьці, беднаты, актывістых і шляхам шырокай растлумачальнай працы за збор і захаваньне сыравіны, асабліва другарадных відаў.

Організаваная і выразная работа, захаваньне адзінства сыстэмы, бязумоўнае выкананьне дырэктыў свайго коопэрацыйнага цэнтру павінны зьяўляцца асновай нашай далейшай работы. Пры гэтых умовах і пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі спажывецкая коопэрацыя даб'ецца на загатоўчай рабоце адпаведных посьпехаў, як і ў астатніх галінах працы.

А. Памеранец

# Аб выкананьні будаўнічага пляну БКсаюзам

Плян будаўніцтва на 1928-29 г. выкананы на суму 2.013.000 руб. Паказаная сума ў асноўным скарыстана на пачатак будаўніцтва хлебазаводаў (у Віцебску, Гомлі і Бабруйску), на сталовыя, якія былі пабудаваны ў Нова-Беліцы і Рэчыцы,на склады ў Бабруйску, Гомлі, Менску і Віцебску і іншае дробнае будаўніцтва.

Усебеларуская нарада спажкоопэрацыі па капітальным будаўніцтве, якая адбылася 2 лютага 1930 г. у г. Менску, заслухала даклады аб выніках капітальнага будаўніцтва за 1928-29 г. і аб становішчы з падрыхтоўкай да будаўнічага сэзону 1929-30 г. Нарада констатавала наступнае: „Будаўніцтва спажкоопэрацыі на 1928-29 г. ажыцьцяўлялася сыстэмай у значнай меры стыхійна. Галоўным чынам гэта выяўлялася па ніжэй лімітным будаўніцтве, па якім узьдзейнічаньне правільна організаванага будаўнічага апарату на будаўніцтва зусім адсутнічала. Усё гэта адбывалася пры адмоўных зьявішчах: дарагоўлі, працягласьці, саматужніцтве, спазьненьні ў фінансаваньні і завозе будаўнічых матар'ялаў, адсутнічаньні нормальнага вучоту і справаздачнасьці. У асноўным, мяркуючы па няпоўных справаздачных дадзеных, ажыцьцяўленьне яго (пляну) для ўсяе сыстэмы спажкоопэрацыі не перавышае 87 проц. агульнае сумы пляну. Пры амаль усё лімітным і ніжэй лімітным будаўніцтве апошняе вялося гаспадарчым парадкам пры адсутнічаньні адпаведнага тэхнагляду“. Тая-ж нарада прыняла цэлы шэраг практычных прапаноў аб лепшай пастаноўцы працы ва ўсіх галінах: аб сваячасовай падрыхтоўцы і пачатку будаўніцтва, выкананьні пастановы ўраду аб зьніжэньні сабекошту будаўніцтва на 15 проц. і г. д. На вялікі жаль, прыгожая практычная рэзолюцыя, прынятая ўсебеларускай нарадай, засталася на паперы, ня гледзячы на тое, што аб'ём будаўніцтва ў 1929-30 годзе перавышае ў 3-4 разы больш, чым у ранейшыя гады, і што большасьць пабудоў зьяўляецца тэрміновага характару, як прыгарадныя гаспадаркі, малочныя фэрмы, сьвінарнікі, сховішчы для гародніны і фруктаў, хлебазаводы, грамадзкія сталовыя і г. д.

На грунце гэтага неабходна было з большай адказнасьцю, большай сур'ёзнасьцю падыйсьці да пытаньня будаўнічага сэзону. Што ж мы маем

у рачаіснасьці? На вялікі жаль, атрымаўся далёка нездавальняючы малюнак. Што фактычна цьвёрда было вызначана ўрадам і Цэнтрасаюзам па лініі спажкоопэрацыі БКСаюзу на 1929-30 г.?

| | | | |
|---|---|---|---|
| На хлебапячэньне па лініі ЦРК | . | 610.000 р. | |
| „ грамадз. харч. | „ „ . | 1.065.000 | „ |
| „ склады . . . . . | „ „ . | 120.000 | „ |
| „ гароднінахавальні | „ „ . | 475.000 | „ |
| „ крамы . . . . . . | „ „ . | 150.000 | „ |

Акрамя гэтага, на прыгарадныя гаспадаркі ЦРК вызначана на 1929-30 г. 2.265.000 руб., з якіх 400.000 руб. вызначана на пабудову сьвінаадкормачных пунктаў і 1.865.000 руб. на малочна-гародныя гаспадаркі. Калі ўзяць усё разам, дык мы ўбачым, што адно будаўніцтва па лініі ЦРК, зацьверджанае па нашых плянах, роўна 4.685.000 р., апрача няплянавага будаўніцтва.

Зараз мы возьмем будаўніцтва, вызначанае па пляну БКСаюзам па райсаюзах і аддзяленьнях БКСаюзу:

| | | |
|---|---|---|
| На хлебапячэньне . . . . . . | 250.000 руб. | |
| „ грамадзкае харчаваньне . | 350.000 | „ |
| „ крамы . . . . . . . . . . | 600.000 | „ |
| „ склады . . . . . . . . . . | 180.000 | „ |

Усяго на плянавае будаўніцтва па саюзах і аддзяленьнях, ня лічачы нафтавых схоўняў і цэлага шэрагу пазаплянавага будаўніцтва, вызначана 1.380.000 руб. Калі скласьці вызначаныя на будаўніцтва ЦРК і райсаюзаў сродкі, дык лічба дасягне 7.000.000 руб.

Ці была ўдзелена дастатковая ўвага будаўніцтву з боку спажкоопэрацыі? Я лічу, што ня было. Мне здаецца, што часта кіраўнікі спажкоопэрацыі не разумеюць ці ня хочуць разумець, што будаўніцтва— гэта не перакіданьне скрынак махоркі ці чаго-небудзь іншага, і таму, калі неабходна будаваць, дык раней за ўсё трэба мець проект, плян работы і падабраць адпаведнае месца для тае ці іншае пабудовы.

У будаўніцтве ёсьць вельмі шмат прадметаў, якія ні ў якім разе не заменіш іншымі; напрыклад, возьмем такую дробязь, як гонтавыя цьвікі, а іх не заменіш 4″ ці 6″ цьвікамі. Несваячасовыя заказы плянавага будаўніцтва не даюць магчымасьці правільна кіраваць і забясьпечваць адпаведным матар'ялам і фінансамі. Яшчэ горш абстаіць справа з проектамі; у нас ёсьць вельмі шмат тыповых проектаў, якія, бясспрэчна, могуць быць прыстасаваны да нашых умоў; таксама пры дзяржаўных установах ёсьць спэцыяльныя проектныя бюро, якія рыхтуюць для нашых цэрабкопаў і райсаюзаў проекты, але дзяржаўныя ўстановы ня хочуць лічыцца з гэтым і здаюць работу па складаньні проектаў прыватным тэхнікам. Каб ня быць беспадстаўным, я прывяду наступны абураючы факт, які мы выявілі на спэцыяльна скліканай намі нарадзе спэцыялістых і прадстаўнікоў з месц па абмеркаваньні проектаў малочных фэрм цэрабкопаў, якая адбылася 27-га мая 1930 г. ЭКОНА пры СНК БССР ад 21-га красавіка 1930 г. па дакладзе тав. Кумкеса ўхваліла наступнае: „плян організацыі малочных фэрм па прыгарадных гаспадарках на 1930 г. вызначыць, выходзячы з наяўнасьці 4500 кароў у 5 фэрмах; апошнія пабудаваць у Менску, Віцебску, Гомлі, Бабруйску і Барысаве. Здаецца, чотка і ясна вызначана, але чамусьці іншыя цэрабкопы, таксама атрымаўшыя жывёлу, пачалі будаваць загарады. Ёсьць і такія саюзы і цэрабкопы, якія таксама прэтэндуюць на будаваньне ў гэтым годзе загарадаў і катэгорычна патрабуюць будаўнічых матар'ялаў (полацкі, добрускі ЦРК, віцспажсаюз).

Яшчэ горш абстаіць справа з проектамі для 5 буйных ЦРК, якія павінны будаваць у гэтым годзе вызначаныя па пляне будоўлі. На нарадзе выяўлена, што гомельскі ЦРК будуе загараду па проекце, складзеным Белколгасбудам, і што каштоўнасьць пабудовы на кожную карову абыйдзецца ў 175 рублёў; бабруйскі ЦРК заказаў проект загарады ў прыватнага тэхніка, згодна якога каштоўнасьць пабудовы на 1 карову вызначана ў 250 руб.; менскі ЦРК таксама прыступіў да

пабудовы загарады на 1000 галоў па другому проекту, па якім па папярэднім падліку, пабудова, на кожную карову абыйдзецца ў 325 р.

Нарада, бязумоўна, не прайшла міма гэтакіх фактаў і прыняла адпаведныя захады.

Дзе ж асноўныя прычыны, якія не даюць магчымасьці правільна і рацыянальна праводзіць будаўніцтва па сыстэме спажкоопэрацыі БССР?

Першая прычына: з боку Белкоопсаюзу ня было і зараз яшчэ не пастаўлена кіраўніцтва сыстэмай у працы па проектаваньні і складаньні каштарысаў і выпрацоўцы рацыянальных проектаў. Дзякуючы гэтаму мы маем тое, што будаўніцтва па цэлым шэрагу спажтаварыстваў знаходзіцца бяз проектаў і каштарысаў.

БКС ужо прыняў і будзе прыймаць цэлы шэраг мерапрыемстваў да зьнішчэньня гэтых хібаў і ненормальнасьцяй.

Другая прычына (гэта зусім ненормальна і няправільна): грамадзкасьць ня ўдзельнічае ў абмеркаваньні капітальнага будаўніцтва, контроль над яго правядзеньнем адсутнічае. Для зьнішчэньня гэтай ненормальнасьці неабходна рассылаць сваячасова проекты на месцы дзеля таго, каб там мелі магчымасьць знаёміцца і ўнесьці цэлы шэраг неабходных дадаткаў. Нашы кіраўнікі коопэрацыі павінны будаўніцтву ўдзяляць больш увагі.

Трэцяя прычына: „няма каму“ займацца і цікавіцца будаўніцтвам (Полацак, Мазыр, Добруш і г. д.) Дзякуючы гэтакай устаноўцы мы маем цэлы шэраг недарэчных зьявішчаў. Напрыклад. Добрускі ЦРК „пабудаваў“ сьвінарнік і зрабіў страху з толю, а праз тыдзень страха сапсавалася. Мы ня ведаем, як там наогул усё пабудована. Або вось Полацак, дзе каштоўнасьць будаўніцтва абышлася ў 10-15 раз больш, чым трэба. Нашы паважаныя таварышы, як відаць, забыліся, што дэкрэдытаваныя проценты зьніжэньня сабекаштоўнасьці будаўніцтва на 1929-30 г. павінны быць даведзены да 30 у параўнаньні з 1927-28 г., а да канца пяцігодкі—да 50.

Неабходна, каб кожнае праўленьне вылучыла спэцыяльнага работніка, які-б займаўся выключна будаўніцтвам, а будаўнічы аддзел БКС павінен комплектаваць свой тэхнічны штат так, каб ён мог даць мясцом жывую тэхнічную дапамогу.

Чацьвёртая прычына: незабясьпечанасьць будаўніцтва нашай сыстэмы дастатковым дэфіцытным будаўнічым матар‘ялам, і гэта, ня гледзячы на тое, што ў нас ёсьць вялікі процант тэрміновага будаўніцтва. Да 25-га мая наша будаўніцтва забясьпечана было: цэмэнтам — на 25 проц., сартавым жалезам—на 4 проц., цэглаю—да 50 проц., лесам круглым—на 75 проц., лесам пілаваным—на 10 проц., пакостам - на 100 проц., цьвікамі—на 100 проц., толем для стрэх—на 50 проц., гонтам—на 50 проц., дахавым жалезам—на 100 проц., шклом — на 100 проц. Адсутнічаюць амаль трубы. Гэтае пытаньне ўзьнімалі перад ЭКОНА і Дзяржплянам, і трэба спадзярацца, што імі будзе прынята адпведная пастанова. Некаторыя вынікі мы ўжо маем: атрымалі цэглу і пілаваны лесаматар‘ял. Таксама прыняты цэлы шэраг захадаў, як, напрыклад, падлік будаўнічага матар‘ялу па нашай сыстэме, дзеля таго, каб мець магчымасьць правільна яго разьмеркаваць. Працаўнікі на мясцох не разумеюць ці ня хочуць разумець, што з прычыны адсутнічаньня будаўнічых матар‘ялаў можа атрымацца зрыў будаўніцтва, і на запытаньні аб становішчы яны нават не адказваюць. Трэба больш сур‘ёзна адносіцца да пытаньня будаўніцтва. Ёсьць нездаровыя зьявішчы па спажкоопэрацыі Беларусі сярод некаторых кіраўнікоў ЦРК і райсаюзаў, якія лічаць, што праўленьне БКС гэта адно, а мы на мясцох самі гаспадары, і што пляны будаўніцтва БКС для іх не абавязковы. Бясспрэчна, гэта трэба лічыць памылкай, бо пастанова праўленьня

БКС і яго дырэктывы зьяўляюцца для ўсіх абавязковымі і павінны, бязумоўна, выконвацца. У сваёй штодзённай працы мне прыходзіцца сустракацца з такімі фактамі: на загады і на іншыя напамінкі не даецца ніякага адказу; некаторыя ЦРК і саюзы будуюць такія пабудовы, якія не ўвайшлі ў плян будаўніцтва 1929-30 г., і патрабуюць у нас сродкаў і матар'ялу, у той час, калі будаўнічы аддзел БКС ні ў якім выпадку задаволіць ня можа, і будаўніцтва тым самым зрываецца.

Кожны з працаўнікоў спажкоопэрацыі павінен задумацца над гэтым пытаньнем і мецъ на ўвазе тое, што будаўніцтва 1930-31 г. вызначаецца павялічыць у параўнаньні з 1929-30 г. у тры разы, а гэта патрабуе ад усіх нас большай сур'ёзнасьці і большай адданасьці справе.

Трэба спадзявацца, што сход упаўнаважаных скажа сваё слова па пытаньні будаўніцтва, і мы агульнымі сіламі справімся з пастаўленай перад намі надзвычайна важнай задачай будаўніцтва.

К. Ваўкавіцкі

## Новы рацмінімум па сельскім сэктары спажывецкай коопэрацыі

Паляпшэньне якасьці абслугоўваньня спажыўца, неабходнасьць уздыму коопэрацыйнай працы на больш высокую ступень тэхнікі і падзешаўленьня кошту коопэрацыйнага абслугоўваньня настойліва патрабуюць правядзеньня шэрагу рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў.

Як асноўная практычная дырэктыва па гэтым пытаньні—гэта першапачатковы мінімум рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, які спажывецкая сыстэма павінна выканаць.

Аднак, гэтыя важныя мерапрыемствы дзякуючы таму, што арганізацыі не паставілі выкананьня гэтае працы на ўдарныя тэмпы, не прыцягнулі грамадзкасьці для практычнага ўдзелу, не стварылі рацыяналізатарскіх апаратаў для выкананьня якасных паказальнікаў, далі нікчэмныя вынікі.

Стварэньне сапраўднага пералому ў абслугоўваньні спажыўца, рашучае прыстасаваньне коопэрацыйнага абслугоўваньня да фактычных запатрабаваньняў спажыўца—рабочых саўгасаў, колгасьнікаў—паставілі перад спажывецкай коопэрацыяй пытаньне аб абавязковым правядзеньні цэлай сыстэмы новых рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, вызначаных новым рацмінімумам.

Новы рацмінімум больш шырока і складана чым перш ахапляе галіны працы. Яго правядзеньне патрабуе вялікіх патуг, і ён павінен быць абавязкова выкананы.

Пытаньне аб набліжэньні разьмеркавальнай сеткі да спажыўца зьяўляецца рашаючым ў справе правільнай організацыі забесьпячэньня. Новы рацмінімум абавязвае цалкам зьдзейсьніць вызначаны плян пашырэньня сеткі ў 1929-30 г. Калі ўзяць выкананьне пляну па паасобных акругах на 1-е мая, дык мы маем наступнае:

| Акругі | Плян на 1929-30 г. | Выканана на 1/V | |
|---|---|---|---|
| Менская | 81 | 42 | |
| Бабруйская | 91 | 11 | |
| Віцебская | 71 | 32 | |
| Гомельская | 67 | 17 | |
| Мазырская | 45 | 29 | |
| Полацкая | 44 | 18 | |
| Аршанская | 60 | 8 | |
| Магілеўская | 139 | 75 | |
| Усяго | 598 | 232 | Проц. выкананьня 39 |

Такім чынам, як бачыце, выкананьне пляну пашырэньня крамнае

сеткі вельмі дрэннае і недапушчальнае. Зусім дрэнна з выкананьнем пляну па пашырэньні сеткі ларкоў і організацыі развознага гандлю. Усё гэта рашуча і неадкладна павінна быць выпраўлена. Трэба зараз жа ўжыць шэраг мер з такім разьлікам, каб плян быў выкананы ў прызначаны час новым рацмінімумам. Разам з гэтым трэба зазначыць і на тое, што шмат спажывецкіх таварыстваў захапляюцца адчыненьнем крам у раённых цэнтрах, чым пагаршаюць абслугоўваньне спажыўца, прымушаюць хадзіць ў раённы цэнтр з далёкае вёскі за атрыманьнем тавараў.

Пашырэньне сеткі павінна адбывацца ў плянавым парадку. Трэба забясьпечыць галоўныя пункты крамнаю сеткаю. У буйных колгасах і саўгасах трэба адчыніць спэцыяльныя крамы, а ў дробных паселішчах, колгасах і саўгасах, якія знаходзяцца на вялікай адлегласьці ад крамы, трэба адчыніць ларкі.

Трэба выкарыстаць вопыт паўночнага Каўказу, дзе абслугоўваньне дробных пунктаў вырашана шляхам організацыі разьмеркавальнікаў такога тыпу: сяляне самі абіраюць загадчыка разьмеркавальніка, пры чым загадчык прадае тавар з свайго памяшканьня і за сваю працу, уключаючы і прывоз тавараў з райспажыўтаварыства ў разьмеркавальнік, атрымлівае ня сталую пэнсію, а комісійную ўзнагароду ад $2^1/_2$ да 4 проц.

У адносінах грамадзкага харчаваньня рацмінімум абавязвае да 1/X-30 г. адчыніць ва ўсіх раённых цэнтрах ня менш аднае чайнайсталовай і да 1/1-31 г. па 2 культчайныя ў кожным раёне.

Асаблівую ўвагу рацмінімум удзяляе пытаньню ўкараненьня новых форм разьмеркаваньня тавараў. Вось асноўныя моманты новага рацмінімуму: да 10 чэрвеня павінны быць перагледжаны гадзіны гандлю пад пунктам погляду прыстасаваньня іх для працуючых на палёх; да 1/X процант падлягаючых папярэдняму разважваньню тавараў давесьці да 60 проц., а да 1 красавіка 1931 г.—да 75 проц., да 10/VI увесьці ў практыку прыём папярэдніх заказаў, рабіць пільную якасную праверку паступаючых тавараў, пры чым на недобраякасныя тавары складаць акты і перасылаць іх па прыналежнасьці; рабіць квартальныя сходы з колгасьнікамі і працаўнікамі саўгасаў па пытаньні аб складзе асортымэнту і аб увядзеньні ў яго новых тавараў.

Новы рацмінімум прадугледжвае і абавязвае правядзеньне шэрагу мерапрыемстваў па барацьбе са стратамі. Гэтыя мерапрыемствы, як, напрыклад, водпуск чыстаю вагою тавараў, адпушчаемых у кульках і пакавальнай паперы, апрача таго, што паляпшаюць абслугоўваньне спажыўца, але і дадуць вялікую экономію коопэраваных сродкаў.

Усе коопэрацыйныя організацыі павінны безадкладна распрацаваць конкрэтныя мерапрыемствы па правядзеньні новага рацмінімуму.

Неабходна рацмінімум давесьці да асобных прадпрыемстваў і працаўнікоў, шырока разьвіць пры правядзеньні рацмінімуму мэтоды соцспаборніцтва і ўдарніцтва, шырока ўцягнуць коопактыў і батрацка-бядняцкія групы для практычнага ўдзелу і контролю.

Патрэбна выкарыстаць у тэхніцы гандлю ўсе дасягненьні сучаснага гандлю, шырока выкарыстаць дапамогу вынаходцаў і асобныя паказаньні па палепшаньні абслугоўваньня спажыўца.

Ня менш аднаго разу ў месяц на пашыраных паседжаньнях заслухоўваць даклады аб ходзе правядзеньня мінімуму асобным прадпрыемствам.

Палепшаньне абслугоўваньня спажыўца зьяўляецца баявой і неадкладнай задачай, і яна што-б там ні было павінна быць выканана цалкам ў паказаныя тэрміны.

У штодзённай практычнай працы ўсіх коопэрацыйных організацый пытаньню аб правядзеньні мінімуму

рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў па палепшаньні абслугоўваньня спажыўца і перабудове працы пад кутом зроку найлепшага абслугоўваньня соцсэктару сельскай гаспадаркі павінна быць адведзена адпаведнае месца, ён (рацмінімум) павінен праводзіцца пры непасрэдным удзеле і контролі колектываў і батрацка-бядняцкіх груп.

Як найхутчэй павінна быць выканана дырэктыва аб стварэньні спэцыяльных рацыяналізатарскіх апаратаў, на якіх ускласьці адказнасьць за правядзеньне ўсіх рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў.

М. Чавускі

## Як абслугоўваюцца саўгасы спажыўсыстэмай



Шматлікія пастановы і дырэктывы як урадавых, так і коопэрацыйных і профсаюзных органаў аб палепшаньні абслугоўваньня рабочых саўгасаў з боку спажыўкоопэрацыі да гэтага часу не знаходзілі належнага пераломў.

У працягу лютага і сакавіка месяцаў г. г. оргаддзел Белкоопсаюзу арганізаваў абсьледваньне саўгасаў, у якое была ўцягнута інструктарская сіла цэнтру і акруг. Ва ўсёй працы па абсьледваньні прыймалі актыўны ўдзел рабочыя брыгады саўгасаў.

Об'ектам абсьледваньня былі Бабруйская, Менская, Гомельская, Віцебская і Аршанская акругі, якія характарызуюць стан абслугоўваньня саўгасаў па ўсёй Беларусі.

Абсьледваньне гаворыць аб невыкананьні пастаноў і дырэктыў урадавых, коопэрацыйных і профсаюзных органаў.

Сыстэма нізоўкі ў цэлым шэрагу саўгасаў не займалася пытаньнем лепшага абслугоўваньня рабочых саўгасаў, у выніку чаго мы маем наступнае:

Крамы і ларкі, дзе гэта было неабходна і мэтазгодна для саўгасаў, не адчынены; крамы і ларкі, якія абслугоўваюць саўгасы, не прыстасаваны да абслугоўваньня рабочых саўгасаў; яны брудныя, цесныя, няма крам, якія спэцыяльна абслугоўваюць саўгасы; шмат крам, да якіх прымацаваны рабочыя саўгасаў, знаходзяцца на далёкай адлегласьці ад саўгасаў, рабочыя павінны хадзіць амаль што за 10 кілёмэтраў за таварамі, стаяць у чаргах і вельмі часта траціць рабочыя гадзіны; асортымэнт тавараў ня быў прыстасаваны да патрабаваньняў рабочых саўгасаў, у шмат якіх саўгасах не атрымалі прамысловых тавараў згодна норм рабочых гарадоў 2 разраду; недастатковыя тавары не броніраваліся для рабочых саўгасаў, у выдачы тавараў, у параўнаньні з астатнім насельніцтвам, рабочыя саўгасаў амаль што ніякай перавагі не атрымалі; у сэнсе культбытавога і масавага абслугоўваньня спажыўкоопэрацыяй нічога ня зроблена. Існуе консэрватызм у адносінах арганізацыі грамадзкага харчаваньня і хлебапячэньня ў саўгасах, і, як відаць, у гэтым напрамку нічога ня зроблена; таксама ня выканана дырэктыва аб 100 процантным коопэраваньні і спагнаньні паявых капіталаў; ня прыняты адпаведныя крокі да ўцягненьня рабочых саўгасаў у органы грамадзкасьці і контролю і г. д.

Аб усіх гэтых недахопах сыгналізавалася на паседжаньнях прэзыдыуму БРК і праўленьня БКС, дзе былі прыняты катэгорычныя прапановы, а менавіта: прапанавана ўсім акрсаюзам і аддзяленьням пад кіраўніцтвам оргаддзелу БКС у месячны тэрмін канчаткова абсьледваць усе саўгасы БССР і зьніш-



чыўшы на месцы ўсе недахопы, прыняць адпаведныя меры, каб адчыніць крамы і ларкі, арганізаваць,дзе гэта неабходна і мэтазгодна, развозны гандаль, прыстасаваць гадзіны гандлю да запатрабаваньняў рабочых, правесьці мінімум рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў і ўстанавіць цьвёрдыя нормы для задавальненьня рабочых саўгасаў прамтаварамі.

Дадзена цьвёрдая ўстаноўка на паведамленьне рабочых саўгасаў аб прыбываючых таварах і наогул аб сталай сувязі з рабачкомамі па разьмеркаваньні недастатковых тавараў, якія павінны броніравацца для рабочых саўгасаў.

Прапанавана акругам урэгуляваць пытаньне з грамадзкім харчаваньнем і хлебапячэньнем у саўгасах; таксама дадзена яскравая ўстаноўка на арганізацыю культурна-бытавога і масавага абслугоўваньня саўгасаў: прапанавана арганізаваць гурткі, куткі, лекцыі, даклады на коопэрацыйныя тэмы, ясьлі, сады, пляцоўкі, выкарыстаць кіно і радыё і г. д. Дадзена цьвёрдая дырэктыва аб коопэраваньні і спагнаньні паявой запазычанасьці, аб арганізацыі грамадзкасьці і ўзмацьненьні контролю.

Ва ўсіх акругах і аддзяленьнях Белкоопсаюзу вылучаны адказныя працаўнікі (члены праўленьня), на якіх ускладзена ўся адказнасьць за правядзеньне ўсіх мерапрыемстваў па абслугоўваньні саўгасаў.

Прапанавана ўсім саюзам і аддзяленьням пэрыодычна заслухоўваць на праўленьнях даклады старшынь праўленьняў, дзе павінны прысутнічаць прадстаўнікі саўгасаў і профсаюзных арганізацый.

Коопэрацыйная сыстэма і профсаюзныя арганізацыі павінны ў самым тэрміновым парадку прыняць усе захады ў ударным парадку, каб ліквідаваць усе недахопы па абслугоўваньні саўгасаў. Ва ўсёй гэтай працы рабочыя саўгасаў павінны прымаць шырокі удзел.

Трэба зараз-жа перайсьці ад слоў да справы.

---

І. Розэнгаўз

# Мобілізацыя сродкаў насельніцтва і ўнутраных рэсурсаў у спаж. коопэрацыі БССР

Фінансавая політыка апошніх гадоў прасякнута адзінай ідэяй: максымальна вызваліць дзяржаўныя сродкі з галін таваразвароту і накіраваць іх на мэты індустрыялізацыі. Асноўныя шляхі, якімі гэтая задача выконваецца, гэта паступовае і няўхільнае скарачэньне таварных і банкаўскіх крэдытаў, а таксама непасрэдныя выняцьці з сродкаў сыстэмы (падаходны падатак, мэтавыя надбаўкі, набыцьцё дзяржпазык і г. д.).

Для замяшчэньня вышэйпамянёных сродкаў сыстэма павінна мобілізаваць сродкі насельніцтва і свае ўнутраныя рэсурсы. Ад посьпяховага выкананьня плянавых меркаваньняў у гэтых галінах залежыць пасьпяховае разгортваньне плянаў індустрыялізацыі, вырашэньне вялізарнейшых пытаньняў політычнага характару.

Як - жа спажыўсыстэма БССР спраўляецца з гэтымі задачамі?

Уласныя сродкі па спаж. т-вах павялічыліся з 6821 тыс. руб. на І/Х-28 г. да 11639 тыс. руб. на І/Х-29 г., альбо на 70 проц., па ЦРК—адпаведна з 3484 тыс. руб. да 5095 тыс. руб., альбо на 46 проц. Удзельная вага ўласных сродкаў у балянсе таксама некалькі падвысілася: па спаж. т-вах—з 51,6 да 53 проц., па ЦРК--з 21,1 да 22,7 проц.

У асноўным гэтыя посьпехі патрэбна прыпісаць перавыкананьню контрольных лічбаў па паянамнажэньні за 1928-29 г. па вясковай сетцы на 21 проц. і па гарадзкой—на 29 проц. (дзякуючы ўвядзеньню дыфпаю).

Аднак, у 1929-30 г. малюнак у справе паянамнажэньня відавочна зьмяняецца: контрольныя лічбы на I/V-30 г. выкананы па вясковай сетцы на 54,3 проц., а па ЦРК—толькі на 30 проц., што сьведчыць аб поўнай пагрозе невыкананьня плянаў.

У дачыненьні мобілізацыі сродкаў насельніцтва—укладаў і авансаў—належыць таксама адзначыць зусім нерадасныя вынікі. Лічбы гэтых опэрацый у спаж. т-вах вельмі марудна падвышаюцца, зусім не ў прадугледжаных контрольнымі лічбамі тэмпах, і ў апошнія месяцы нават паказваюць некаторае зьніжэньне, якое пагражае звароту ў „першабытнае становішча“, г. зн., да лічбаў на I/X-29 г. У ЦРК-ж праца з укладамі і авансамі амаль што зусім не распачата. Вынік: у гэтай справе сыстэма мае пэўны прарыў.

Яшчэ горш абстаіць справа з мобілізацыяй унутраных рэсурсаў. Зваротныя активы коопорганізацый, у асаблівасьці спаж. т-ваў, абцяжаны значнай дэбіторскай запазычанасьцю, якая ў шмат выпадках цягнецца па некалькі год і для ліквідацыі якіх мала яшчэ што зроблена. Артыкул „розныя дэбіторы“ у балянсе спаж. т-ваў у адносінах да звароту паказвае затрымку сродкаў на I/X-28 г. на 8,4 дня, а на I/X-29 г.—на 10,3 дня. Таксама кепска абстаіць справа з растратамі і недахопамі: на 1/X-28 г. растрат лічылася на 428 тыс. руб., а на 1/X-29 г.—на 568 тыс. руб.

Таварныя астачы ў сыстэме, хаця ў адносных лічбах (адносна звароту) паказваюць некаторае зьніжэньне, але далёка ня ў тых разьмерах, якія адпавядаюць дырэктыўным нормам.

Касавая гаспадарка не наладжана: яшчэ і цяпер назіраюцца шмат выпадкаў, калі выручка асобных крам затрымліваецца ў касе да 7 і больш дзён.

Усё вышэйпералічанае сьведчыць аб тым, што сыстэма зусім слаба раскалыхалася па выкананьні тых дырэктыў, якія дадзены ўрадавымі і партыйнымі органамі; невыкананьне гэтых дырэктыў азначае ня толькі невыкананьне фінплянаў сыстэмы, але і прарыў у агульнагаспадарчым пляне; гэта сьведчыць таксама і аб тым што значная колькасьць коопэрацыйных працаўнікоў яшчэ не ўсьвядомілі сабе палітычнага сэнсу гэтых пытаньняў.

Сыстэма з прычыны гэтага амаль пэрманэнта перажывае вельмі напружанае фінансавае становішча, выхад з якога магчыма знайсьці толькі ў актывізацыі пытаньняў мобілізацыі сродкаў насельніцтва і ўнутраных рэсурсаў.

Ня прыходзіцца спыняцца на тым, што асноўная прычына зрыву мерапрыемстваў па прыцягненьні сродкаў насельніцтва і мобілізацыі ўнутрыкоопэрацыйных рэсурсаў—гэта бюрократычны падыход да іх вырашэньня, поўная адсутнасьць організацыі вакол гэтых пытаньняў грамадзкай думкі, няўменьне прыцягнуць да гэтай справы шырокія колы коопэрацыйнага активу.

Шлях да выкананьня ўрадавых і партыйных дырэктыў у галіне хутчэйшага вызваленьня дзяржаўных сродкаў на індустрыялізацыю і замяшчэньня іх мясцовымі сродкамі ляжыць толькі праз організацыю належнай грамадзкай думкі, праз стварэньне сапраўднага грамадзкага контролю, праз ажыцьцяўленьне такіх дзейных мэтодаў, як соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

С. Лодысеў

# Бязьлітаснае зьнішчэньне маладняку і жывёлы працягваецца

Яшчэ ў студзені месяцы 1930 г. Савет Народных Комісараў БССР з мэтаю спыненьня масавага забою і распродажу жывёлы і коняй, што перашкаджае пасьпяховаму выкананьню задач колектывізацыі і ўздыму продукцыйнасьці сельскай гаспадаркі і забесьпячэньню хутка ўзрастаючых патрэб социялістычнай прамысловасьці ў сыравіне, а таксама забесьпячэньню продуктамі харчаваньня рабочага спажыўца, прыняў па гэтым пытаньні спэцыяльную пастанову, якая была апублікавана ў № 15 газэты „Савецкая Беларусь" ад 19 студзеня 1930 г. У гэтай пастанове, між іншым, ёсьць і такі пункт, які дазваляе раённым выканаўчым комітэтам конфіскаваць усю жывёлу і сельска-гаспадарчы інвэнтар і пазбаўляць права карыстацца зямлёй усіх кулакоў, якія злосна зьнішчаюць жывёлу альбо падбухторваюць беднякоў і серадняков да зьнішчэньня жывёлы. Далей, СНК БССР забараніў гаспадаркам аграмаджанага сэктару, а таксама і індывідуальным гаспадаркам забіваць маладняк, асабліва цялят і сьвіней. Вось кароценькі зьмест гэтае пастановы.

Цяпер разгледзім, як-жа гэтая пастанова выконваецца на мясцох. Аказваецца, што нож разгульвае ва-усю. Зьнішчэньне жывёліннага маладняку працягваецца шпаркім тэмпам. З пачатку цяленьня ў Беларусі забіта звыш 385000 цялят і жарабят. Асобныя акругі ў гэтым напрамку б'юць рэкорды, напрыклад: па Полаччыне з першага кастрычніка 1929 году па першае красавіка 1930 году забіта 32120 галоў, з іх на долю вясеньняга ацёлу прыпадае 25000 галоў. За адзін толькі красавік 1930 году забіта 10000 цялят.

Ад Полаччыны не адстае і Мазыршчына. Тут скарачэньне жывёлы прымае вялізарнейшыя разьмеры, а менавіта: з пачатку гэтага году зьменшылася валоў і бычкоў на 39,74 проц., кароў—на 15,82 проц., нецеляй старэй двох год—на 24,09 проц., маладняку ад аднаго да двох год—на 31,44 проц., цялят—на 79,28 проц., авечак—на 36,43 проц. і сьвіней на 42,31 проц. (лічбовых паказальнікаў я наўмысьля ня прыводзіў, а прывёў у процантах, бо калі-б іх прывесьці, дык у вачох пацямнее—С. Л.).

Усё гэта гаворыць за тое, што акрвыканкомы, райвыканкомы, а таксама і сельскія саветы не зьвяртаюць досыць сур'ёзнай увагі на выкананьне вышэйпаказанае пастановы Савету Народных Комісараў БССР.

Райколгассаюзы ня цікавяцца гэтаю справаю, бо ёсьць і такія выпадкі, калі райколгассаюзы ня прымаюць цялят ад местачковага насельніцтва, адказваючы сваімі бюрократычнымі адносінамі ў вышэйстаячыя органы, што быццам-бы іх насельніцтва не зьвяртаецца да іх з прапановамі аб продажы цялят (ветрынскі райколгассаюз, Полацкай акругі, спадзяваўся на стыхійны самацёк жывёліннага маладняку ад сялянства).

Бабруйскі акрвыканком у сваёй адносіне ад 14 мая на імя Савету Народных Комісараў піша, што ім дадзены апошнія паказаньні адмаддзелу і прокуратуры аб узмацненьні барацьбы са зьнішчэньнем маладняку. (Бачыце, ужо дадзены апошнія паказаньні). Такія паказаньні, па маёй думцы, зьяўляюцца ня больш і ня менш, як звычайным водпісам, бо тут патрэбны былі не паказаньні, а праверка выкананьня дырэктыў вышэйстаячых савецкіх і партыйных органаў па гэтым пытаньні для прыцягненьня вінаватых да суровай судовай адказнасьці, бо

паказаньняў ужо ёсьць больш, чым трэба, а між іншым ніхто нічога ня робіць, забой маладняку ідзе шалёным тэмпам.

Менскі акрвыканком ў сваёй пастанове ад 13 мая (па пытаньні захаваньня цялят ад забою) адзначае: „Справа з захаваньнем і вырошчваньнем цялят па акрузе застаецца ў дрэнным становішчы. Навокал пытаньня гадоўлі цялят грамадзкая думка колектыўных гаспадарак не мобілізавана; саўгасы аднесьліся да справы вырошчваньня цялят нядбайна; менаддзяленьне Белкоопсаюзу і Акрмалжыўсаюз не мобілізавалі ўвагі індывідуальных гаспадарак на захаваньне цялят праз контрактацыю і не правялі дастатковай працы па ўзмацненьні загатовак цялят жывёлы на рынку, годных для перадачы саўгасам і колгасам. На падставе ўсяго гэтага акрвыканком прапануе райвыканкомам і сельсаветам тэрмінова правесьці шырокую растлумачальную кампанію навокал неабходнасьці (?!) поўнага спыненьня забою годных для гадоўлі цялят... Асоб, злосна парушаючых пастанову ўраду, прыцягваць да адказнасьці“.

Аб якой тут „неабходнасьці поўнага спыненьня забою цялят“ могуць быць разважаньні, калі наконт гэтага ёсьць пастанова СНК (глядзі арт. 5 пастановы СНК ад 12/I-30 г., якая апублікавана ў газэце „Сав. Бел.“, № 15, за 18/I-30 г.), у якой чорным па белым напісана: „Забараніць забіваць маладняк, асабліва цялят і сьвіней“. Наркомгандлю і акрвыканкомам было даручана ўстанавіць сталыя месцы для куплі і продажу продукцыйнае жывёлы і коняй, забараніўшы продаж і куплю жывёлы па-за межамі гэтых месц. Гэтаю-ж пастановаю забаронены забой рагатае жывёлы і асабліва коняй без папярэдняга вэтэрынарна-санітарнага агляду. Мала гэтага, законадаўца пайшоў далей: ён дазволіў акрвыканкомам па заяве райвыканкомаў накладаць адміністрацыйныя пакараньні на асоб за парушэньне гэтае пастановы — штрап у разьмеры да 100 рублёў.

Ці скарысталі ў поўнай меры гэтыя правы нашы акрвыканкомы і райвыканкомы? Не, не скарысталі, бо калі-б яны іх скарысталі на ўсе сто процантаў, дык такога зьявішча мы ня мелі-б, як гэта ёсьць у наяўнасьці па некаторых акругах і ў прыватнасьці па Полацкай і Мазырскай, хаця ня лепш абстаіць справа і ў іншых акругах Беларусі.

Трэба рашуча і катэгорычна адкінуць і зьнішчыць ганебныя адносіны да гадоўлі маладняку.

Трэба з карэньнямі выкарчаваць і такія разважаньні, што нібы трэба пакідаць толькі пародзістый маладняк, а ўвесь астатні зьніштажаць. Калі мы толькі станем на гэткі шлях, дык мы ўвесь маладняк у Беларусі зьнішчым, бо ў нас яшчэ ня вельмі многа ёсьць пародзістага. Такія разважаньні зьяўляюцца шкоднымі і вось па якіх мотывах: калі мы будзем мець у наяўнасьці вялікую колькасьць, дык бясспрэчна, што лепш будзе падвысіць і якасьць, бо на шляху падрастаньня маладняку будзе рабіцца адбор, частка з якога пойдзе на мяса, а частка— на племя.

Неабходна будзе органам РСІ ці прокуратуры зараз-жа ўзяцца за праверку выкананьня месцамі пастановы Савету Народных Комісараў БССР па пытаньні спыненьня масавага забою і распродажу жывёлы і пра контрактацыю цялят.

Даволі ўжо пустых адпісак і разважаньняў. Трэба справа.

І. Р-к

# Рэорганізацыя сыстэмы спажывецкай коопэрацыі

(*з матар'ялаў комісіі ЦКК РСІ па чыстцы Белкоопсаюзу*)

Рэконструкцыйны пэрыод высунуў перад спажывецкай коопэрацыяй шэраг новых задач, як-та: перадавая роля спажкоопэрацыі ў барацьбе за падвышэньне рэальнай зарплаты рабочага, пашырэньне харчовай базы, каранное палепшаньне грамаздкага харчаваньня, абслугоўваньне соцыялістычнага сэктару вёскі, удзел у культурна-бытавой перабудове краіны з падпарадкаваньнем усяе гэтай працы агульным задачам соцыялістычнага будаўніцтва.

Матар'ялы комісіі па чыстцы сьведчаць аб тым, што спажывецкая коопэрацыя з гэтымі новымі задачамі слаба спраўляецца. Адной з асноўных прычын слабай работы коопэрацыі на гэтых вучастках зьяўляецца абсолютная непрыстасаванасьць організацыйных форм і мэтодаў працы спажывецкай коопэрацыі да агульных тэмпаў і задач рэконструкцыйнага пэрыоду.

Складаная нерацыональная організацыйная пабудова спажыўкоопэрацыі: крама спажтаварыства альбо цэрабкоп—аддзяленьне райсаюзу —райсаюз —Белкоопсаюз — маскоўская контора і г. д.—паралізуе ініцыятыву і самадзейнасьць коопэрацыі.

Такая пабудова прывяла да дрэнных вынікаў. Першае, дырэктыва Белкоопсаюзу, і без таго бюрократычная і адарваная ад нізавой практыкі, яшчэ больш затушоўваецца ў прамежных зьвеньнях, а нізавая практыка, вопыт працы, на падставе якога павінны будавацца дырэктыва, плян і кіраваньне, не змаглі пранікнуць праз сьцены райсаюзаў, аддзяленьняў і розных контор у кіраўнічы цэнтр беларускай спажкоопэрацыі. Другое, паасобныя зьвеньні спажыўкоопэрацыі ў барацьбе за гаспадарчую „самастойнасьць і ініцыятыву“ часта супроцьстаўлялі сабе адзін аднаго і падпарадкоўвалі сваю работу комэрцыйна-гандлёвым інтарэсам, а не агульным інтарэсам народнае гаспадаркі; перавага комэрцыйнага інтарэсу, паўгандлярская політыка ў сваю чаргу перашкаджаюць коопэрацыі выйсьці з межаў гандлёва-комэрцыйных функцый на шлях выкананьня новых грунтоўных капітальных задач. Трэцяе, гэты складаны шлях праз шматлікія зьвеньні ад фабрыкі да спажыўца каштуе рабочаму, селяніну мільёны рублёў і б'е па яго рэальнай зарплаце. Адзінка тавару, якая каштуе Белкоопсаюзу рубель, зрабіўшы шлях праз усе зьвеньні беларускай спажывецкай коопэрацыі, каштуе гарадзкому спажыўцу 1 руб. 20 коп., а сельскаму—1 руб. 26 коп.

Пералічаныя вышэй меркаваньні з усёй відавочнасьцю гавораць аб яўным нездавальненьні організацыйнай пабудовай сыстэмы і аб неабходнасьці зьмены яе.

На якіх-жа падставах і прынцыпах павінна вытварацца рэорганізацыя сыстэмы коопэрацыі?

Асноўнай прадпасылкай зьяўляецца той факт, што роля спажывецкай коопэрацыі ў народнай гаспадарцы і асабліва ў частцы таваразвароту настолькі вырасла, што нізавое звьяно спажывецкай коопэрацыі, якое ня так даўно складалася з сеткі карлікавых, аднакрамных спажывецкіх таварыстваў, за апошні час пэратвараецца ў сетку буйных спажывецкіх таварыстваў раённага значэньня. Калі на 1 кастрычн. 1927 г. былі 652 спажывецкія таварыствы з ся-

рэдняй колькасьцю крам на адно таварыства ў 2,7, дык на 1 красав. 1930 г. колькасьць таварystваў зьнізілася да 280 з сярэдняй колькасьцю крам на адно таварства ў 9,9. Удзельная вага спажывецкага таварыства са зваротам вышэй 650 тыс. руб. вырасла з 3 проц. на 1 кастрыч. 1929 г. да 9,2 проц. на 1 кастрыч. 1930 г. За апошняе паўгодзьдзе гэты рост працягваўся яшчэ з большымі тэмпамі.

Такім чынам, рост спажывецкай коопэрацыі нямінуча штурхае нізавое зьвяно на ўзбуйненьне і пашырэньне яго. Але гэты процэс зьвязаны ня толькі з ростам ролі спажывецкай коопэрацыі. Караныя зьмены ў экономіцы сельскае гаспадаркі ў сувязі з яе социялістычнай перабудовай ператвараюць раённы пункт у гаспадарча-політычны цэнтр вёскі.

Гэтыя экономічна - політычныя фактары кладуцца ў аснову перабудовы шэрагу зьвеньняў нашага спажывецкага коопэрацыйнага апарату.

З усяго гэтага неабходна зрабіць адзін вывад: процэс узбуйненьня нізавога зьвяна спажывецкай коопэрацыі павінен давесьці спажывецкае таварыства да разьмераў раённага спажыўтаварыства, стасоўна да адміністрацыйнага падзелу нашай рэспублікі.

Гэткая рэорганізацыя нізавога зьвяна высоўвае раённае спажывецкае таварыства на месца опэрацыйнага правадніка ўсяе коопэрацыйнай працы, тым самым падвышаючы яго працаздольнасьць, самадзейнасьць і ініцыятыву. Узбуйненьне спажывецкага таварыства да разьмераў раённага дасьць магчымасьць правесьці рашучую рэорганізацыю таварапрасоўваньня.

Пры існуючым зараз становішчы 90 проц. усяе таварнай масы рэалізавалася дробнымі спажывецкімі таварыствамі, якія забясьпечваліся ў разьмеры 80 проц. свайго спажываньня праз склады серадзіннага акругавага зьвяна.

Такія складаныя і нерацыянальныя шляхі таварапрасоўваньня ні ў якай меры ня ўвязваюцца з тым значным ростам плянавасьці ва ўсім таварыстве. Шляхі таварапрасоўваньня таксама ня ўвязаны з фактам значнага спрашчэньня разьліковых узаемаадносін паміж прамысловасьцю і коопэрацыяй на падставе крэдытнай рэформы.

Правядзеньне-ж пляну рэорганізацыі нізавога зьвяна на падставе вышэйпаказаных політычна-гаспадарчых фактараў дае магчымасьць рацыяналізаваць таварапрасоўваньне з такім разьлікам, што асноўная маса тавараў—90 проц.—будзе рэалізавацца буйнымі раённымі спажывецкімі таварыствамі са зваротам звыш 1 мільёну рублёў у год.

Паводле дэталёвых падлікаў, магчымы процант забясьпечаньня таварыства можна рабіць непасрэдна з фабрыкі, абмінаючы прамежныя зьвеньні. Дзеля гэтага зусім дастаткова, каб Белкоопсаюз організаваў толькі тры ўваходныя базы: у Гомлі, Воршы і Віцебску, з якіх-бы забясьпечваліся ўсе сумежныя раёны БССР.

У выніку такой каранной зьмены шляхоў таварапрасоўваньня адпадае ня толькі неабходнасьць у існаваньні акруговай складзкай гаспадаркі спажывецкай коопэрацыі, але і няма ніякай неабходнасьці ва ўтрыманьні акруговага гаспадарча-гандлёвага апарату райсаюзаў і аддзяленьняў. Опэрацыям па загатоўках таксама непатрэбны акруговыя складзкія гаспадаркі і опэрацыйны цэнтр, бо нарыхтаваная сыравіна з нарыхтоўчых пунктаў адсылаецца у раённыя склады, там пераапрацоўваецца і сортуецца і адгэтуль адгружаецца непасрэдна на рэспубліканскія базісныя склады прамысловасьці альбо адпаведным загатоўча-экспортным організацыям па нарадах Белкоопсаюзу.

Адміраньне гандлёва-опэрацыйных функцый цэнтру коопэрацыі ператварае апошні з грамадзкага апарату ў 120-130 чалавек у акруговую організацыйна-плянавую ячэйку Белкоопсаюзу з 15-20 чалавек. Асноўнымі функцыямі гэтай ячэйкі

будуць параённае плянаваньне, агульны інструктаж і контроль за выкананьнем організацыйна-гаспадарчых дырэктыў Белкоопсаюзу.

Эфэкт ад гэткай рэорганізацыі нізавога і акруговага зьвеньняў вялізарны. Новая пабудова структуры на пачатках ажыцьцяўленьня рашэньняў XVI партыйнай конфэрэнцыі аб „дэцэнтралізацыі выкананьня і цэнтралізацыі кіраўніцтва“ ня толькі каштоўна тым, што яна ператварае нізавое зьвяно ў асноўны праваднік усяе коопэрацыйнай працы, а таксама і тым, што яна вызначае Белкоопсаюзу месца сапраўднага кіраўніка і організатара ўсяе спажывецкай коопэрацыі.

Гэта рэорганізацыя дасьць таксама значны матар'яльны эфэкт, які выявіцца, паводле асьцярожных падлікаў комісіі ЦКК-РСІ, мінімум у 2 млн. руб. у год. Гэта-ж адзін толькі райсаюз браў 3,75 проц. накладаньняў з нізоўкі за тавары, якія ён перадаваў ёй, пры гэтым 2, 75 проц. зьядаў апарат райсаюзу і толькі адзін процант заставаўся ў выглядзе прыбытку. Калі ўлічыць, што 0,5-0,75 проц. пойдзе на ўтрыманьне акруговых організацыйна-плянавых ячэек і на некаторыя накладныя выдаткі, вынікаючыя з гэтай рэорганізацыі, дык 2 проц. са звароту застаецца ў выглядзе экономіі. Гэтыя 2 проц. экономіі складаюць значна вышэй 2 млн. руб.

Орыентыровачны падлік каштарысных меркаваньняў гандлёвых выдаткаў спажывецкай коопэрацыі пры новай організацыйнай пабудове дае таксама экономію: на адміністрацыйна-гаспадарчых выдатках у разьмеры 740 тыс. руб., на процантах на капітал—325 тыс. руб. і на розных накладных выдатках, у сувязі з выпрамленьнем шляхоў таварапрасоўваньня—1-1,5 млн. руб. Такім чынам, і гэты разьлік гаворыць аб экономіі звыш 2 млн. руб.

Рэорганізацыя нізавога і акруговага зьвеньняў дасьць таксама экономію ў кадрах: пры павялічэньні раённага апарату на 365 адзінак усё-ж будзе агульнае скарачэньне на 240 чалавек, у асаблівасьці рахункавых працаўнікоў, у якіх краіна адчувае патрэбу.

Рэорганізацыя нізавых і ліквідацыя акруговых гаспадарчых цэнтраў спажывецкай коопэрацыі выклікаюць неабходнасьць каранного перагляду структуры і функцый самога Белкоопсаюзу. Гэта пытаньне насьпела яшчэ таксама і таму, што структура апарату Белкоопсаюзу вельмі блытаная і ні ў якай меры не адбівае новых задач спажывецкай коопэрацыі і ролі Белкоопсаюзу як організатара і кіраўніка спажыўсыстэмы. Пададзім некаторыя прыклады, якія характарызуюць заблытанасьць і непрыстасаванасьць структуры Белкоопсаюзу да новых задач. За найадказьнейшую ў сучасны момант справу забесьпячэньня ніхто ў Белкоопсаюзе па сутнасьці не нясе адказьнасьці, бо пытаньні клясавага разьмеркаваньня і нормаваньня паасобных соцыяльных катэгорый распрацоўваюцца організацыйным аддзелам, пытаньні разьмеркаваньня „наогул“-- апэрацыйным аддзелам, пытаньні рабочага забесьпячэньня—Белрабсэкцыяй і г. д., і ў выніку блытаніна, няма адказнай асобы за ўсю справу. Яшчэ адзін прыклад, які сьведчыць аб ступені раўненьня Белкоопсаюзу на новыя задачы: з 220 чалавек, працуючых у Белкоопсаюзе, толькі 15 чалавек займаюцца рабочым забесьпячэньнем, 4 асобы — грамадзкім харчаваньнем, затое ў бухгальтэрыі працуюць 44 чалавекі, у канцэлярыі—25 чал.

Гэты факт як нельга лепей даводзіць, што разьлікова-тэхнічныя опэрацыі у Белкоопсаюзе узялі верх над організацыйна-опэрацыйнымі.

Калі Белкоопсаюз будзе працягваць працу пры старых формах і мэтодах кіраўніцтва, дык натуральна, што рэорганізацыя будзе праведзена толькі напалавіну.

Ва ўмовах дэцэнтралізацыі опэрацыйнай работы і каранное зьмены форм опэрацыйнай працы неабходна рэорганізаваць Белкоопсаюз на падставе ператварэньня яго

ў кіруючы і організуючы цэнтр спажывецкай коопэрацыі БССР і выкананьня ім опэрацыйных функцый толькі ў межах абслугоўваньня сыстэмы організуемымі ўваходнымі базамі.

У цэнтры ўвагі Белкоопсаюзу, замест дробнай апекі над працай сыстэмы і часта гандлёвых функцый, павінны стаць організацыя і сапраўднае кіраўніцтва тымі новымі задачамі, якія высунуты перад спажывецкай коопэрацыяй умовамі рэконструкцыйнага пэрыоду.

Неабходна ліквідаваць Белрабсэкцыю, як зусім не апраўдаўшую сябе функцыональную адзінку і толькі замыкаючую пытаньні рабочага забесьпячэньня ў межах маленькай сэкцыі. Пытаньні рабочага забесьпячэньня павінны быць у цэнтры ўвагі ўсяе спажывецкай коопэрацыі, як асноўная і галоўная яе задача. Праца коопэрацыйных сэктароў павінна быць пабудавана так, каб яны поўнасьцю адлюстроўвалі неабходнасьць сапраўднага пераходу спажывецкай коопэрацыі ад функцый тэхнічнага разьмеркаваньня таварных мас, якія яму прадастаўляюцца, да ролі організатара забесьпячэньня рабочага і соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, здольнага мобілізаваць унутраныя харчовыя рэсурсы, пашырыць харчовую базу, вышукваць мерапрыемствы па рашучым зьмякчэньні нашых часовых харчовых цяжкасьцяй.

Усе гэтыя моманты леглі ў аснову проекту рэорганізацыі Белкоопсаюзу, які распрацаваны комісіяй па чыстцы.

Паводле гэтага проекту, Белкоопсаюз з апарату з шматлікімі падзеламі на кіраўніцтвы, аддзелы, групы павінен перабудавацца ў апарат з 11 сэктароў, якія у залежнасьці ад свае структуры, выпінаюць на першае месца асноўныя задачы спажывецкай коопэрацыі. З 160 чалавек новага апарату Белкоопсаюзу 32 адказныя пасады прадугледжаны для рабочых-вылучэнцаў.

Пры гэтай структуры Белкоопсаюз мае ўсе падставыператварыцца з грамадзкага, адсталага ад жыцьця і пагружанага у старыя коопэрацыйныя традыцыі і тэмпы органу ў баявы штаб соцыялістычнай коопэрацыі.

Натуральна, што рэорганізацыя зьвязана с шэрагам сур'ёзных цяжкасьцяй: з адсутнасьцю кадраў для райспажтаварыстваў, ломкай апарату і г. д., але мы ні ў якім выпадку не павінны палохацца гэтых вузкіх месц. Коопэрацыя павінна ўзяцца за неадкладныя і энэргічныя перамаганьні іх, бо толькі каранная рэорганізацыя апарату забясьпечыць выкананьне задач, вызначаных пастановай ЦК УсеКП(б) ад 15 мая 1930 г.

**За 100 проц. уцягненьне працоўных БССР у пайнікі спажывецкае коопэрацыі**

# ПАДРЫХТАВАЦЦА ЗАГАДЗЯ

А. Р-кі

## Пераключыць працу спажыўкоопэрацыі для правядзеньня ўборачнай і асеньняй пасяўной кампаніі

„ЦК КП(б)Б абавязвае ўсе АК, РК і ячэйкі КП(б)Б, усе савецкія і коопэрацыйныя ўстановы забясьпечыць поўнае і пасьпяховае правядзеньне ўборачнай і асеньня-пасяўной кампаніі і выканаць вызначаныя партыяй і ўрадам заданьні, зьвязаныя з уборкаю ўраджаю і асеньняй сяўбой" (з дырэктывы ЦК усім АК і РК).

Надыходзячая ўборачная і асеньняя пасяўная кампанія ўскладае на спажывецкую коопэрацыю агромністыя і вельмі адказныя задачы. Ад іх выкананьня будуць залежаць у значнай меры і замацаваньне дасягнутых посьпехаў па колектывізацыі сельскай гаспадаркі і далейшае ўцягненьне ў колгасы бядняцка-серадняцкіх мас.

У асноўным прайшоўшая вясеньняя пасеўкампанія паказвае, што коопэрацыя ня зусім добра справілася з сваімі задачамі: несваячасова забясьпечваліся саўгасы, колгасы і трактарыстыя спэцвопраткай, адсутнічала арматура для нафтавых бакаў. Плян грамадзкага харчаваньня выкананы толькі на 19 проц.

Хлебапячэньне не разгорнута. Няпоўнае разгортваньне бытавых устаноў, кіно і радыё абслугоўваньне. Недастаковая па колькаснаму ахопу і па якасьці грамадзка-масавая праца і г. д.

Таму асабліва трэба зазначыць на неабходнасьць зьмены тэмпаў і мэтодаў працы на больш шпаркія па абслугоўваньню ўборачнай і асеньняй пасяўной кампаніі, як важнейшай політычнай і экономічнай кампаніі, ні ў якім выпадку не дапушчаць паўтарэньняў памылак веснавой кампаніі і ўдарыць па дэмобілізацыйных настроях, у сувязі з рэорганізацыяй сеткі і надыходзячай ліквідацыяй акруговага зьвяна з тым, каб забясьпечыць сапраўдныя ўдарныя і бальшавіцкія тэмпы працы.

Асноўнымі задачамі спажкоопэрацыі ў гэтай галіне зьяўляецца забесьпячэньне сель.-гасп. машын гаручым і смазачным матар'ялам, гаспадарчае і продуктова - таварнае абслугоўваньне, адчыненьне новых ясьляў і садоў, прыстасаваньне кіно і радыё-сеткі, мобілізацыя грамадзкасьці і пайнікаў на правядзеньне ўборачнай кампаніі і асеньняй сяўбы.

Організацыям даны БКС конкрэтныя і яскравыя дырэктывы для выкананьня якіх і павінна мобілізавацца неадкладна ўся сыстэма.

Пакуль што ёсьць толькі 100 тысяч кос і 50 тыс. мянташак. Мяркуецца атрымаць ад Белсельснабу 300 тысяч кос. Гэта колькасьць інвэнтару зьяўляецца недастатковай. БКС паставіў пытаньне перад адпаведнымі органамі аб водпуску яшчэ 200 тысяч сярпоў, 3000 абадоў, 150 тысяч сьпіц, 20 вагонаў аглобляў і іншых прадметаў. Аднак, атрыманьне іх яшчэ не забясьпечана. Інвэнтар, які ёсьць, трэба безадкладна разьмеркаваць і давесьці да вясковых крам. Некаторыя організацыі недаўлічваюць важнасьці ўборачнай кампаніі, адмаўляючыся ад атрыманьня сярпоў і брускоў.

По пляну вызначана пабудаваць да 1/IX-30 году 21 нафтавы бак, з якіх 15 адпускае Цэнтрасаюз, а 6 будуць выраблены з уласнага матар'ялу. Патрабуецца 75 помпаў і 1000 мэтраў 3-х дм. труб, атрыманьне якіх таксама яшчэ не гарантавана.

Па лініі грамадзкага харчаваньня БКС прымаюцца меры да заброніраваньня 200 тэрмосаў, кухоннага і іншага інвэнтару, якога амаль зусім няма. Дастаткова паказаць, што патрабуецца 2 вагоны жалеза для кіпяцільнікаў і 5000 кранаў, 8 тон белай бляхі для чайнікаў і кубкаў, 10 ваг. фаянсу (талерак і кубкаў з ісподкамі), 230 тыс. розных лыжак, 25 тыс. місак, 5 паходных кухань, 100 мядзяных катлоў і г. д., якіх яшчэ няма. Організацыі да вышуканьня некаторай колькасьці посуду на мясцох ня прымаюць рашучых мер. Кадраў таксама зусім мала. Па хлебапячэньню прызначана організацыя 40 паходных пякарань. Неабходна праявіць максымум энэргіі і ўвагі грамадзкаму харчаваньню, каб дабіцца станоўчых вынікаў.

Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на організацыю ўборкі ва ўласных прыгарадных гаспадарках і зараз-жа праверыць наяўнасьць гароднінахавальняў, тары, інвэнтару і рабочай сілы.

У галіне культурна-бытавой працы неабходна дабіцца ў самы кароткі тэрмін адчыненьня намечаных 319 сэзонных ясьляў і садоў, забясьпечыўшы іх нормальную працу. Павінны быць устаноўлены 35 новых гучнагаварыцеляў, 20 радыёперасовак і 2500 радыё-пунктаў. Таксама мяркуецца правесьці разам з ОДР радыёпаход для праверкі працы існуючых каля 300 установак. Да ўборачнай кампаніі неабходна ўстанавіць 10 кіно-стацыянарак і 46 кіно-перасовак, ні ў якім выпадку не замяняючы імі пад відам папраўкі старых.

Скарыстоўваючы станоўчы вопыт, які маецца, неабходна распаўсюдзіць пасеўлітаратуры ня менш як на 100 тыс. руб. праз крамы і кніганоства. Ужо выдадзена 100 тысяч экзэмпляраў лёзунгаў на розных мовах.

Для бесьперабойнага забесьпячэньня ўборшчыкаў і пасеўшчыкаў продуктамі і таварамі неабходна адпаведным чынам прыстасаваць гандаль, шляхам выкананьня вызначаных мерапрыемстваў другім рацмінімумам па разгортваньню крамнай, ларковай і развознай сеткі, прыстасаваўшы гадзіны гандлю да працы на палёх.

Гэта мінімум мерапрыемстваў, між тым організацыі пачынаюць марудзіць, што прымушае біць трывогу. Зараз-жа трэба організаваць праверку.

Неабходна забясьпечыць правядзеньне сходаў і ўдзел у практычнай працы батрацка - бядняцкага, серадняцкага і жаночага актыву. Абгаварыць з імі пляны спаж. т-ваў па правядзеньню ўборачнай і пасеўнай кампаніі. Праца радыё і кіно-перасовак павінна адбывацца разам з пастаноўкай дакладаў.

Неабходна організаваць контроль і завастрыць увагу ўсяе кооперацыйнай грамадзкасьці на абслугоўваньні кооперацыяй ўборачн. і пасеўнай кампаніі. Жорстка бічаваць у мясцовым і цэнтральным друку тых, хто перашкаджае праводзіць гэту працу.

Нельга не ўпамянуць, што ў гэты-ж час будзе праводзіцца найадказьнейшая вялізарная праца па хлебанарыхтоўках, у якіх спажсыстэма БССР будзе зьяўляцца амаль адзіным нарыхтоўшчыкам. Для правядзеньня гэтай кампаніі неабходна мобілізаваць увесь загатоўчы апарат, складзкую і тарную маёмасьць.

Уся праца спажсыстэмы павінна быць пераключана для правядзеньня гэтых вялікіх работ, з якімі яна справіцца пры ўмове мобілізацыі батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас, прымяненьня мэтодаў соцспаборніцтва і ўдарніцтва, бязьлітаснай самакрытыкі і крытыкі ўсіх недахопаў.

К. Фрыдлянскі

# Сваячасова распачаць загатоўчую працу

*(Папярэднія вынікі загатоўчай дзейнасьці сыстэмы спажывецкай коопэрацыі БССР у бягучым 1929-30 г.)*

Вынікі загатоўчай дзейнасьці сыстэмы спажывецкай коопэрацыі за першую палову бягучага году і за мінулыя гады яшчэ раз пацьвярджаюць тую вялікую ролю, якую адыгрывае гэта сыстэма на загатоўчым рынку БССР.



Вайсковая сталоўка Бабруйскага ЦРК

Удзельная вага сыстэмы ў агульнаплянавых загатоўках па асноўных відах сыравіны расьце з году ў год, што пацьвярджаецца наступнымі лічбамі:

| Віды загатовак | Удзельн. вага спажыўсыстэмы ў агульных загатоўках | | |
|---|---|---|---|
| | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1929-30 г. |
| | У працантах | | |
| Ільна валакно | 10,8 | 29,8 | 31,6 |
| Пянька | 28,7 | 32,3 | 65,6 |
| Скурсыравіна (буйная) | 32,9 | 32,5 | 35,0 |
| Скурсыравіна (дробная) | 36,2 | 44,7 | 46,2 |
| Шчаціна | 32,8 | 52,2 | 57,5 |
| Валасы | 33,9 | 53,3 | 56,6 |
| Мяса | 24,7 | 36,7 | 41,1 |

Род загатовак спажыўкоопэрацыі па асноўных відах ня сьведчыць, аднак, аб сур'езным паляпшэньні ў яе загатоўчай рабоце Будучы прызвана ахапіць усе пункты і мобілізаваць усю сваю сетку на загатоўку сельска-гаспадарчай сыравіны і асабліва другарадных відаў экспорту (рызьзя, касьцей, грыбоў і г. д.), спажыўкоопэрацыя ня прымала адпаведных мерапрыемстваў да стварэньня спэцыяльнага загатоўчага апарату ва ўсіх зьвеньнях свае сыстэмы; не разгарнула грамадзка-масавай працы, недастаткова мобілізавала шырокі актыў вакол збору і загатоўкі сельска-гаспадарчай сыравіны, як гэта практыкавалася пры правядзеньні найважнейшых кампаній (хлеб, бульба), зусім запамятала, што асноўным мэтодам у загатоўках павінем быць менавіта мэтод грамадзкі.

У выніку адсутнічаньня належнай шырока разгорнутай грамадзкай працы, мы па шэрагу відаў сыравіны і асабліва другараднай (рызьзя, касьцей, лазы, воўны і г. д.) маем

значнае недавыкананьне плянаў, што пагражае зрывам гэтае кампаніі.

Бягучы трэці квартал зьяўляецца рашучым па загатоўцы шэрагу другарадных відаў сыравіны. Між іншым, весткі за мінулыя два месяцы (красавік - травень) прымушаюць нас біць трывогу, бо абодва месяцы спажыўкоопэрацыя скончыла са

вязвае забясьпечыць усе галіны сыравіннай работы спэцыяльным апаратам, асабліва нізоўкі ў сувязі з яе ўзбуйненьнем, пры чым асноўны ўпор вышэйстаячых зьвеньняў павінен быць накіраваны на організацыйна-плянавы бок з сконцэнтраваньнем опэрацыйна-тэхнічнага абслугоўваньня загатовак, пераважна ў нізавым зьвяне.




Заля вайсковай сталоўкі Бабруйскага ЦРК

значным недавыкананьнем сваіх заданьняў.

Вялікае значэньне загатовак сыравіны ў агульнай дзейнасьці сыстэмы патрабуе да сябе самай сур'ёзнай увагі. Асаблівая ўвага (побач з асноўнымі відамі) павінна быць зьвернута на пашырэньне дзейнасьці сыстэмы па другарадных відах сыравіны.

Пашырэньне загатоўчай работы спажыўкоопэрацыі па сыравіне аба-

Улічваючы недахоп загатоўчых кадраў, асабліва у нізавых зьвеньнях, і засьмечанасьць загатоўчага апарату чужым нам элементам, няздольным справіцца з тымі вялікімі задачамі, якія ўскладзены на сыстэму ў галіне загатовак, неабходна самым рашучым чынам узяцца за падрыхтоўку новых кадраў і перападрыхтоўку маючыхся работнікаў абсолютна ва ўсіх зьвеньнях, уключаючы цэнтральны апарат.

# Па цэрабкопах

**І. Р—н**

## Як выканан рацмінімум па ЦРК?

Ужо прайшло дзевяць месяцаў з моманту апублікаваньня пастановы СПА аб розьнічным гандлі і рацмінімуме Цэнтрасаюзу. Гэтыя докумэнты павінны былі ўтварыць рашучы пералом у справе якасьці абслугоўваньня рабочага спажыўца.

Аб правядзеньні рашучых і дзейных мерапрыемстваў па палепшаньні абслугоўваньня спажыўца ёсьць спэцыяльная пастанова сэкратарыяту ЦК КП(б)Б (лістапад 1929 г.). Прэзыдыум ЦСПСБ зьвярнуўся па гэтым пытаньні са спэцыяльнай адозвай. На гэты конт маецца шэраг пастаноў праўленьня БКС і прэзыдыуму БРС.

За апошні час была на гэты конт прынята пастанова прэзыдыуму ЦККБел. (красавік 1930 г.), і, нарэшце, мы маем апошнюю адозву праўленьня Цэнтрасаюзу („Кооп. Жизнь“ ад 16/V) аб пляне рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў да 1/X-1930 г. і аб падрыхтоўцы да новага рацмінімуму.

Што-ж зроблена рабочай коопэрацыяй у выкананьне ўсіх гэтых вялізарнейшай важнасьці дырэктыў?

З пачатку правядзеньня рацмінімуму—з жніўня м-ца 1929 г. да 1-га мая 1930 г.—агульная колькасьць гандлёвых пунктаў павялічылася на 261 адзінку і даведзена да 1095 пры заданьні на 1/X-1930 г. у 1210 адзінак. Як відаць з наступнай табліцы, галоўны рост адбываўся за лік продуктовых крам і ларкоў пры значным узросьце колькасьці буфэтаў на прадпрыемствах.

Хаця колькасьць крам на ўскраінах вырасла, аднак крамная сетка ў рабочых раёнах зусім недастатковая, і цэлыя рабочыя ўскраіны ў нашых асноўных гарадох маюць па аднэй краме альбо зусім ніводнае ня маюць.

| | На 1/VIII 1929 г. | На 1/III 1930 г. | Рост у адзінках |
|---|---|---|---|
| Продуктовыя крамы . . . | 495 | 595 | +100 |
| Непродуктовыя „ . . . | 177 | 225 | +48 |
| Мяшаныя і ўнівэрмагі . . | 34 | 39 | +5 |
| Продуктовыя ларкі і кіёскі . | 88 | 110 | +22 |
| Непродуктовыя ларкі і кіёскі | 40 | 69 | +29 |
| Развозкі (газавыя) . . . . | 6 | 18 | +12 |
| Сталоўкі . . . . . . . . . | 53 | 61 | +8 |
| Буфэты пры прадпрыемствах | 73 | 151 | +71 |

У сувязі з ростам сеткі паменшылася колькасьць насельніцтва на адзін гандлёвы пункт: на 1/VIII-1929 г. было 710, на 1/III-1930 г.—570; толькі на адзін магазын, без ларкоў і кіёскаў, было насельніцтва на гэтыя-ж тэрміны 870 і 710.

Наступны момант, які ў вельмі значнай меры мае ўплыў на скарачэньне чаргі, гэта павялічэньне гадзін гандлю і прыстасаваньне часу працы да патрэб абслугоўваемага насельніцтва. Па дадзеных, якія маем на 1/III, становішча наступнае:

| | Колькасьць прадпрыемстваў | З іх працуе | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Бесьпер. | | 2 зьмены | | 1 1/2 зьмены | | 10 гадзін | |
| | | Колькасьць | У проц. | Колькасьць | У проц. | Колькасьць | У проц. | Колькасьць | У проц. |
| Продуктовыя магазыны . . . . . . . . . . | 596 | 444 | 74 | 177 | 29 | 132 | 22 | 94 | 15 |
| Непродуктовыя і мяш. магаз. . . . . . . . | 264 | 165 | 62 | 3 | — | 18 | 7 | 36 | 14 |
| Ларкі і кіёскі . . . . . . . . . . . . | 179 | 95 | 53 | — | — | 32 | 18 | 34 | 19 |
| Сталоўкі і буфэты . . . . . . . . . . . | 212 | 106 | 50 | 70 | 33 | 4 | 2 | 19 | 9 |

Абедзены перапынак, які выклікаў найбольш абураючыя нездавальненьні пайнікаў, скасаваны амаль што ва ўсіх продуктовых крамах і магазынах шырокае патрэбы. На 1/VIII-1929 г. працавалі без абедзенага перапынку толькі 112 адзінак—14,9 проц. сеткі, а на 1/III ужо працавалі без перапынку 843 адзінкі, або 73,7 проц. Па шэрагу пунктаў установлены больш раньнія гадзіны адчыненьня крам. Дырэктыва аб пераводзе ўсяе сэткі на бесьперапынную працу амаль што поўнасьцю выканана па асноўных прамысловых цэнтрах; ня выканана дырэктыва толькі па Бабруйску, які перавёў на бесьперапынку толькі 50 проц. сеткі, і па Барысаве, дзе на бесьперапынку пераведзена ўсяго 33 проц. разьмеркавальных пунктаў.

Павялічылася колькасьць крамных працаўнікоў. На аднаго работніка прылаўку прыходзілася насельніцтва: на 1/VIII-1929 г.—185 і на 1/III-1930 г.—123.

Усе гэтыя колькасныя паказальнікі як быццам павінны былі-б у значнай меры палепшыць абслугоўваньне спажыўца, між тым мы і да гэтага часу маем значныя недахопы і прарывы ў гэтай галіне, што выклікаецца нізкай якасьцю правядзеньня рацмінімуму.

Маючыяся матар'ялы інструктарскіх дасьледваньняў, матар'ялы рабочых брыгад і агляду ЦСПСБ сьведчаць аб тым, што ў справе якасьці абслугоўваньня спажыўца ня ўсё абстаіць добра.

Забесьпячэньне магазынаў і ларкоў таварамі да апошняга часу яшчэ не ўрэгулявана.

Зусім дрэнна пастаўлены інструктаж сеткі з боку праўленьняў ЦРК. Яшчэ ня зьнішчаны выпадкі „хождения“ загадчыкаў магазынамі на склады. Заяўкі на дастаўку тавараў даюцца шэрагам магазынаў несваячасова і няўмела. Усё гэта выклікае перабоі ў забесьпячэньні магазынаў. Наглядаюцца выпадкі дастаўкі дэфіцытных тавараў у магазыны ў дзень, які аб'яўляецца для іх разьмеркаваньня, і нават назаўтра, пасьля гэтай аб'явы. Зусім дрэнна пастаўлена забесьпячэньне магазываў малаком і мясам. Спазьненьне дастаўкі гэтых продуктаў у магазыны выклікае вялікія чаргі. Нерэгулярная дастаўка хлеба таксама выклікае чаргі.

Фасоўка тавараў праводзіцца ў поўнай меры ў 50 проц. продуктовых магазынаў, а па шэрагу гарадоў (Менск, Гомель і інш.), амаль што па ўсіх продуктовых магазынах. Сыстэматычна і стала гэта праца праводзіцца, аднак, у значна меншай колькасьці магазынаў.

Больш-менш наладжаны парадак водпуску дэфіцытных тавараў, якія разьмяркоўваюцца штомесячна па вызначанай норме.

Яшчэ не наладжан водпуск мяса, малака і ў некаторых мясцох—хлеба, за якімі ва многіх крамах назіраюцца чаргі.

У справе нормаваньня такіх тавараў, як мануфактура, наглядаецца рознабой (Менск адпускаў па 5 мэтраў на едака, Гомель—па 6 мэтраў, Бабруйск—на 5 руб,). Няма яшчэ адзінага прынцыпу і парадку правядзеньня пераважнага і больш поўнага забесьпячэньня рабочых гэтымі таварамі.

Прымацаваньне пайнікаў да магазынаў, якое дае вельмі станоўчыя вынікі, праведзена са спазьненьнем, а ў некаторых мясцох (Барысаў) праводзіцца толькі цяпер. У некаторых мясцох гэта праведзена не належным чынам: колькасьць прымацаваных не адпавядае прапускной здольнасьці асобных крам; завоз тавараў у магазыны не адпавядае колькасьці прымацаваных (Гомель, Бабруйск), адсутнічае вучот прымацаваных і інш.

Вельмі слаба ўжываецца сыстэма папярэдніх заказаў і дастаўкі тавараў на дом. У гэтым напрамку не праводзіцца дастатковых арганізацыйных і растлумачальных мерапрыемстваў.

Вопыт менскага ЦРК па дастаўцы малака на дом апраўдаў сябе,

але гэты станоўчы вопыт не вывучаецца, і амаль што нічога ня робіцца для яго распаўсюджваньня на астатнія магазыны і гарады. Шырэй прымяняецца водпуск малака па абонэмэнтах.

Слабым месцам зьяўляецца організацыя працы ў магазынах, якая пастаўлена не належным чынам. Лентачны выхад на працу організаваны ў 271 магазыне. У частцы магазынаў практыкуецца пераброска прадаўцоў з аднаго аддзяленьня ў другое ў гадзіны найбольшага наплыву пакупнікаў. Аднак, па большасьці ЦРК не ўстаноўлены цьвёрдыя штаты магазынаў, слаба пастаўлена справа вучоту і разьмеркаваньня рабочай сілы, нагрузка на працаўнікоў нероўнамерная на працягу месяца і значна ніжэй існуючых норм.

Нядобра абстаіць справа з кадрамі. Адсутнасьць падрыхтаваных кадраў да таго адчуваецца, што ў некаторых выпадках гэта зацягвае адчыненьне новых магазынаў і павялічвае час іх працы. Правадзімыя на мясцох і ў цэнтры мерапрыемствы па падвышэньні кваліфікацыі работнікаў крам і перакваліфікацыі рабочых ад варштату для вылучэньня ў коопэрацыйны апарат недастатковы і не належна пастаўлены.

У сувязі з правядзеньнем рацмінімуму разгарнулася творчая ініцыятыва крамных работнікаў, якія далі шэраг вынаходзтваў (фасовачныя прыборы, літрамеры і інш.). Аднак, да гэтага часу не організаваны вучот гэтых вынаходзтваў, іх экспэртыза, заахвочваньне і рэалізацыя.

Зусім дрэнна абстаіць і пастаўлены адміністрацыйны контроль над працай сеткі ў галіне абслугоўваньня спажыўцоў, і вельмі слаба пастаўлена інструктаваньне крам па гэтым пытаньні. Спэцыяльныя інструктары - рацыяналізатары і інструктары - контролёры маюцца не ўва ўсіх ЦРК, да і гэты апарат у сваёй большасьці скарыстоўваецца не па належным вызначэньні і нагружаецца зусім іншай працай. Плян правядзеньня рацмінімуму не даведзены да асобных адзінак.

Слаба разгорнута вакол гэтых пытаньняў коопэрацыйная грамадзкасьць. Крамныя комісіі і коопактыў наогул зусім недастаткова ўцягнуты ў гэту працу. Справаздачы загадчыкаў магазынамі і крамных комісій на сходах абслугоўваемых пайнікаў праводзяцца несыстэматычна, хаця гэты мэтод уцягненьня грамадзкасьці ў справу паляпшэньня абслугоўваньня спажыўцоў вельмі станоўчы. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва вакол гэтага пытаньня разгорнуты слаба.

Наогул, маючыяся колькасныя дасягненьні ў галіне рацмінімуму не даюць належнага эфэкту з прычыны слабога якаснага правядзеньня гэтай працы, вельмі слабога ажыцьцяўленьня адміністрацыйнага контролю за гэтым і зусім недастатковага разгортваньня грамадзкасьці вакол пытаньняў падвышэньня якасьці абслугоўваньня спажыўца.

Ва ўсім гэтым неабходна дабіцца рашучага пералому.

Г. С.

## Грамадзкае харчаваньне ў Менскім ЦРК

З кожным днём попыт на грамадзкае харчаваньне ўсе больш і больш узрастае.

Ня гледзячы на тое, што сетка сталовых пашырылыся, аднак існуючыя 32 сталовыя ня маюць магчымасьці поўнасьцю задаволіць патрэбы. Існуючыя сталовыя часта па свайму разьмеру не дапасаваны да падрыхтоўкі і раздачы такой колькасьці абедаў, вячэр і сьнеданьняў, якія дапускаюцца цяпер. Перагрузка

сталовых адбіваецца на якасьці падрыхтаваньня яды, на санітарным становішчы і ўтварае чаргу.

Колькасьць абедаў, дасылаемых на прадпрыемствы ў тэрмосах, таксама недастаткова. Наглядаецца вялікі попыт на абеды, адпускаемыя на дом.

Адчыненьне яшчэ аднэй ці дзьвюх сталовых не вырашае пытаньня поўнага абслугоўваньня. Задаволіць увесь попыт на грамадзкае харчаваньне зможа толькі фабрыка-кухня.

З наступленьнем будаўнічага сэзону ЦРК прыступіў да пабудовы фабрыкі-кухні, якая пры 1$^1/_2$-зьменнай нагрузцы будзе выпускаць 18000 абедаў, а пры 2-зьменнай— 24000 абедаў.

Проект фабрыкі распрацаваны таварыствам „Нарпіт". У абмеркаваньні і разглядзе проекту прымалі ўдзел інжынэрна-тэхнічныя сілы Менску.

У распрацаваным новым проекце прадугледжана дапасаваньне найноўшых тэхнічных дасягненьняў у грамадзкім харчаваньні.

Пры фабрыцы-кухні будзе спэцыяльная заля для дыэтычных абедаў. На верхнім паверсе будзе вэранда, адчыненая страха, якую ўлетку можна будзе выкарыстаць.

На першым паверсе будзе знаходзіцца магазын паўфабрыкатаў, адкуль будуць адпускацца фабрыкам адбіўныя котлеты, гародніна і г. д. Пры фабрыцы-кухні будзе функцыянаваць закусачная на 200 чалавек.

Пры галоўным выхадзе будуць пабудаваны разьдзявальня і цырульня.

На кожным паверсе будуць чакальная заля, курыльны пакой. абсталяваная чытальня, шашачна-шахматны пакой і радыё.

Пры фабрыцы-кухні прадугледжана організацыя аўтотранспорту, які будзе дастаўляць на ўсе прадпрыемствы гарачыя абеды ў тэрмосах.

З пабудовай фабрыкі-кухні абслугоўваньне спажыўца грамадзкім харчаваньнем значна палепшыцца.

Пашыраецца разам з гэтым сетка асобных сталовых і чайных.

Ня так даўно МЦРК адчыніў культурную чайную, у якой устаноўлена радыё. Наведвальнікі чайнай змогуць паслухаць концэрт па радыё.

У чайнай абсталяваны чытальня і шахматны пакой.

Пераабсталявана сталовая № 11 у дыэтычную. Сталовая працуе пад непасрэдным нагляданьнем урача-спэцыялістага па жалудачных хваробах.

Кожнаму наведвальніку падрыхтоўваецца ежа згодна ўстаноўленай урачом дыэты.

Пашырэньне сетак сталовых і перавод іх на непарыўку патрабуюць новых кадраў работнікаў грамадзкага харчаваньня, для чага організавана профшкола на 30 кухароў, а таксама наладжаны курсы на 30 чалавек па падняцьці кваліфікацыі работнікаў грамадзкага харчаваньня. Ня так даўно на пасады загадчыкаў і намесьнікаў іх вылучаны рабочыя.

Падрыхтоўку новых кадраў трэба яшчэ больш узмацніць. Існуючыя профшкола і курсы не задаволяць попыт на патрэбную рабочую сілу. ВСНГ і шэраг іншых організацый недастаткова ўвагі зварочваюць на грамадзкае харчаваньне. Маюцца факты, калі трэст, будуючы фабрыку, ня хоча будаваць пры фабрыцы сталовую. Патрэбна абавязаць усе гаспадарчыя організацыі, пры пабудове буйных прадпрыемстваў, прадугледжваць памяшканьні для сталовых. Гэта таксама павінна адносіцца і да організацый, якія будуюць жылыя дамы і пасёлкі.

За апошні час жакты адчыняюць свае сталовыя. Шмат з іх не адчыняюць з-за адсутнасьці адпаведных памяшканьняў.

Сетку жактаўскіх сталовых неабходна пашырыць, а дзеля гэтага патрэбна дабіцца, каб у кожным новым будуючымся доме было прадугледжана для гэтай мэты памяшканьне.

Толькі пры поўным падтрыманьні і ўдзеле ўсіх організацый і працоўных грамадзкае харчаваньне будзе пастаўлена на належную вышыню.

К. Н-аў

## Замест рацмінімуму—мінімум рацыяналізацыі

Гомельскі ЦРК своячасова не паклапаціўся аб тым, каб выдаць пайнікам новыя наборныя і дзіцячыя кніжкі. Такое становішча прымушае спажыўца доўгачасна чакаць у чарзе, што выклікае цэлы шэраг нараканьняў на прадаўцоў.

Для таго, каб атрымаць продукты. пайнік павінен прад'явіць членскую кніжку, а таксама старыя наборныя кніжкі. Прагляд такой пачкі кніжак,—гэтага „поўнага збору выданьняў ГЦРК", займае ў прадаўца шмат часу. Прадавец павінен праверыць пай, колькасьць дзяцей, наяўнасьць рабочых едакоў, ці не атрымана ўжо што-небудзь з належачага пайку, а потым ён запісвае ў кніжцы і падлічвае суму грошай, а пайнік... чакае.

„Рацыяналізатары" з 3-й крамы яшчэ прыдумалі выпісваць асобныя талёны ў касу з пералікам усіх адпушчаемых продуктаў і падлікам сумы, касірша-ж яшчэ раз правярае падрахунак. Толькі пасьля гэтых усіх процэдур пайнік становіцца ў трэцюю чаргу за атрыманьнем доўгачаканых продуктаў.

Дзякуючы такому свавольству пайнік траціць на атрыманьне продуктаў некалькі гадзін, у той час, калі ў чарзе стаяць толькі 20-25 асоб.

Горш за ўсе гэта тое, што адказныя працаўнікі Цэрабкопу ня ведаюць аб гэтакіх парадках. Наведваньне і контроль крам з боку інструктароў і адказных супрацоўнікаў праўленьня недастатковае, а крамы, якія знаходзяцца на ўскраінах гораду, зусім ніколі і ў вочы ня бачаць інструктароў.

Дрэнна пастаўлена і дастаўка тавараў у магазыны. Аб выдачы дзіцячага пайку на красавік месяц было абвешчана 14-га красавіка, а продукты, якія падлягалі выдачы ў рахунак дзіцячага пайку, былі дастаўлены ў магазыны 13-14 красавіка, і з гэтае прычыны ня было магчымасьці своячасова расфасаваць продукты.

Якая жа тут можа быць барацьба з чаргамі? Інформацыя пайнікаў аб надыходзячай выдачы продуктаў абстаіць надта дрэнна. У „Палескай Праўдзе" няма разьдзелу ці даведніка ГЦРК, дзе-б штодзённа абвяшчалася пайнікам аб усіх навінах ЦРК па пытаньнях забесьпячэньня продуктамі і таварамі. Ня лепш і з малаком. „Чаргі за малаком нельга зьнішчыць, бо дастаўка малака ўтвараецца несвоячасова",— так кажуць шмат якія адказныя працаўнікі ЦРК і на гэтым супакойваюцца, ня гледзячы на тое, што па пытаньні аб разьмеркаваньні малака быў цэлы шэраг прапаноў з боку рабочых брыгад; акрамя таго, праўленьне Цэрабкопу неаднакроць выносіла шэраг пастаноў. Ня гледзячы на гэта, конкрэтнага яшчэ нічога няма. Як кажуць, „воз и ныне там".

Вопыт Менску і іншых гарадоў гаворыць аб тым, што чаргі за малаком можна выжыць: трэба толькі тэрмінова ўвесьці ,як сыстэму, разноску малака на дом. Пайнік з ахвотай заплоціць за гэта яшчэ 2 кап. на літры. ЦРК аб гэтым добра ведае, але ён вельмі доўга распрацоўвае гэтае пытаньне, а пайнік ад гэтага пакутуе.

Кажуць, што рацмінімум выкананы, і гэта ў той час, калі чаргі, ліхія ворагі рацмінімуму, і цяпер яшчэ ня выжыты.

С. Гурвіч

# Менскі цэрабкоп—на новыя формы работы

Бадай ці патрэбна даводзіць, што няма такое галіны абслугоўваньня патрэб спажыўца, у якую-б не пранік цэрабкоп: ад круп да мануфактуры, ад гузіка да гатовага адзеньня, ад мэблі і радыё да прасоўваньня кніжкі ў быт рабочага—усюды ЦРК.

За апошнія гады звароты Менскага ЦРК і разам з ім гандлёвая сетка расьлі надзвычайна: з 65 гандлёвых адзінак у 1926-27 г.—да 230 адзінак на сёньняшні дзень, а з 23 мільёнаў руб.—да 36 мільёнаў. Не адставала ў росьце таксама і сетка грамадзкага харчаваньня, якая на сёньняшні дзень налічвае 22 сталовыя і 66 буфэтаў.

Адначасова з ростам МЦРК, у значнай меры вырас за апошнія гады коопэрацыйны актыў. Але кіраўніцтва вырасшым актывам, кіраўніцтва гандлёвай сеткай і ўсімі астатнімі галінамі шырокай дзейнасьці МЦРК засталося такое-ж, якое было тры-чатыры гады таму назад. Існуючыя формы і мэтоды пастарэлі і зусім няпрыдатны да цяперашняга часу.

Такое кіраўніцтва адчуваецца на рабоце гандлёва-праводзячай сеткі, а таксама часта прытупляецца актыўнасьць коопэрацыйна-крамных комісій і усяго коопэрацыйнага актыву.

Усё гэта прымусіла задумацца над каранной зьменай мэтодаў і форм кіраўніцтва, на аснове набліжэньня ўсяго апарату да працоўнага насельніцтва.

Распачаўшаяся з 18 мая раёнаваньне крамнай сеткі, а таксама дэцэнтралізацыя цэнтральнага апарату прыцягнуць пайнікаў да работы коопэратыву, падымуць іх актыўнасьць і палепшаць работу ўсіх галін шырокай дзейнасьці МЦРК.

Уся гандлёвая сетка і буфэты раёнуюцца па тэрыторыяльным прынцыпе на 5 раёнаў гораду:

1-шы раён ахапляе Ленінскую вуліцу, Пляц Волі і частку Савецкай, 2-гі раён—Серабранку, Ляхаўку, 3-ці раён—Камароўку, Пярэспу, 4-ты раён—Юбілейную плошчу, Нямігa-Ракаўскую і ўсе прылеглыя да іх вуліцы; 5-ты—чыгуначны раён ахапляе важную сетку ЦРК, а таксама сетку ТСТ, якая 16 мая аб'ядналася з ЦРК.

У кожным раёне сход упаўнаважаных будзе выбіраць раённае бюро, якое будзе працаваць у парадку грамадзкай нагрузкі.

Існаваўшы да гэтага часу гаспадарчы інструктаж крам выконваўся двума інструктарамі, якія фізычна ня мелі магчымасьці бываць часьцей, чым адзін-два разы ў месяц, у краме, што вельмі недастаткова.

Такое гастралёрства па сетцы зводзіла да нікчэмнасьці ролю інструктажу, які ў цяперашні час асабліва патрабуецца, і ў выніку сетка засталася бяз усякага кіраўніцтва.

Ня ў меншай меры была запушчана работа стала асабовага складу. Цяжка было ў цэнтралізаваным парадку манэўраваць рабочай сілай, у выніку чаго ў аднэй лаўцы была перагрузка, а ў другой—недагрузка.

У новым проекце стол асабовага складу ліквідуецца. Райінструктару даецца права ў межах свайго раёну на наём, зьвальненьне і манэўраваньне усяе рабочай сілай раёну.

Прадастаўляемае райінструктару права кожнага раёну на адзінаначальле, бясспрэчна, палепшыць работу ўсяе гандлёвай сеткі.

Існаваўшы інструктаж оргаддзелу коопкрамнай комісіі прыводзіў да таго, што шэраг каштоўных прапаноў крамных комісій і асобных пайнікаў не атрымоўваў хуткага прасоўваньня іх у жыцьцё.

Інструктар оргаддзелу, ня будучы зьвязаны з гаспадарчай работай і ня маючы адміністрацыйных правоў,

ня мог належным чынам інструктаваць крамныя комісіі па пытаньні гаспадарчай дзейнасьці сеткі.

Усё гэта кажа аб тым, што гаспадарча-організацыйны інструктаж павінен быць аб'яднаны, што і прадугледжана новым проектам; аб'яднаны інструктаж павялічыць якасьць і актыўнасьць работы коопкрамных комісій.

Раённае бюро зьяўляецца органам грамадзкага контролю. Райбюро атрымоўвае шырокія правы па усёй гаспадарчай дзейнасьці ЦРК. Яно павінна будзе завастрыць увагу на сваячасовым правядзеньні расьці ці злоўжываньні і, ня маючы часу пісаць ці ісьці у праўленьне, не рэагуе на іх.

Наблізіць бюро скаргаў да спажыўца дасьць магчымасьць на месцы рэагаваць на ўсе паступаючыя скаргі.

Спажывец, упэўніўшыся, што на яго скаргі сваячасна рэагуюць, што яны не застаюцца бяз вынікаў, будзе на ўсякія хваравітыя зьявішчы рэагаваць, ён адчуе, што коопэратыў зьяўляецца сапраўды гаспадаром.

Цяжка даць у гэтым артыкуле малюнак усяго раёнаваньня сеткі.




цыоналізатарскіх мерапрыемстваў, зьвярнуць асаблівую ўвагу на барацьбу з чаргамі, весьці барацьбу з усякім злачынствам, протэкцыонізмам, самазабесьпячэньнем, падвышэньнем цэн і за акуратную вагу.

Райбюро і інструктар, знаходзячыся на тэрыторыі свайго раёну, даюць магчымасьць спажыўцу зварочвацца за вырашэньнем усякага пытаньня ў райбюро, не прымушаючы яго бегаць з ускраіны гораду у праўленьне МЦРК.

Бюро скаргаў пры праўленьні таксама ліквідуецца. Усе скаргі будуць разглядацца ў райбюро, бо часта спажывец бачыць ненормальнасьці ці злоўжываньні і, ня маючы

Комісія па чыстцы апарату ЦРК, дэталёва азнаёміўшыся з проектам раёнаваньня, цалкам з ім згадзілася.

Можна з упэўненасьцю сказаць, што ўтварэньне раённых бюро наблізіць усё працоўнае насельніцтва да апарату ЦРК.

Пры новай сыстэме райбюро будзе баявым органам, пранікаючым ва ўсе галіны гаспадарчай дзейнасьці ЦРК. Спатыкаючыся з рознастайным колам пытаньняў, на якія яму прыдзецца адказваць зварочваючымся да яго пайнікам, райбюро будзе на гэтай рабоце расьці і даваць новыя кадры сапраўдных коопэрацыйных працаўнікоў.

Л-скі

# Што выявілі праверка і чыстка апарату Менскага ЦРК

Нядаўна скончыліся праверка і чыстка апарату Менскага ЦРК, які налічвае каля 3000 чал. Праверачная комісія працавала каля $1^1/_2$ месяцаў. У праверцы і чыстцы прымалі ўдзел рабочыя абутковай фабрыкі, якія шэфствуюць над Менскім ЦРК. Да кожнай крамы, магазыну і асобнага прадпрыемства былі прымацаваны рабочыя брыгады. Выпушчана шматтыражка, а таксама газэтай „Рабочий“ выпушчан спэцыяльны лісток.

Былі праведзены шэраг раённых сходаў пайнікаў і сумесныя сходы работнікаў ЦРК з рабочымі абутковай фабрыкі.

Праверачная комісія вывучыла ўсе матар'ялы рабочых брыгад па аглядзе коопэрацыі, які быў праведзен яшчэ да пачатку чысткі. Разам з гэтым праверачная комісія вывучыла ўсе матар'ялы, якія адносіліся да работы цэнтральнага апарату. Гэтым праверачная комісія здолела дэталёва азнаёміцца з становішчам сеткі і цэнтральнага апарату, у працы якога яшчэ маецца шэраг недахопаў.

Структура спажыўца, у якой концэнтруецца ўсё інструктаваньне крамнай комісіі і нізавой сеткі, не задавальняе іх попыт, і ў выніку сетка застаецца бяз контролю, а шэраг каштоўных прапаноў крамных комісій і асобных актывістых не праводзіўся ў жыцьцё.

Праверачная комісія цалкам ухваліла праведзенае раёнаваньне ўсяе сеткі.

Зусім правільна адзначыў правяркам аб становішчы рацыяналізатарскай работы ў ЦРК.

Інструктар-рацыяналізатар займаўся ўсімі пытаньнямі: перакідваньнем штату, тарыфікацыяй і рознымі іншымі адміністрацыйнымі справамі, у выніку чаго зу ім мала зьвернута ўвагі на пытаньне рацыяналізацыі. У рабоце опэрацыйнага аддзелу таксама маецца шэраг недахопаў: консультанты палову рабочага дня займаюцца прыймом наведавальнікаў, а не сваёй асноўнай работай. Адсутнічае належны контроль з боку асобных работнікаў за выкананьнем дырэктыў вышэйшых органаў. Шэраг недахопаў маецца ў забесьпячэньні сетак складамі, хлебазаводам і інш., галоўным чынам, з прычыны адсутнасьці ўласнага транспорту. Праверка выявіла шэраг недахопаў па гандлёвай сетцы.

Соцспаборніцтва ў большасьці існуе на паперы. Энтузыязм і запал, які быў у работнікаў прылаўку ў часе іх урачыстага падпісаньня дагавору з Віцебскім ЦРК, ужо астыў.

Парт. і проф'ячэйкі не змаглі гэты запал і энтузыязм падтрымліваць, аб гэтым можа сьведчыць хаця-б той факт, што сярод ударнікаў амаль няма комуністых і комсамольцаў, няма таксама і вучоту па соцспаборніцтве.

Частка работнікаў вельмі груба адносіцца да пайнікаў і сваімі адказамі ня спрыяе правільнаму растлумачэньню пайнікам аб недахопах таго ці іншага продукту.

Забесьпячэньне і водпуск дэфіцытных тавараў па знаёмству мае месца па сетцы. Яшчэ ў часе праверкі і чысткі было выяўлена (у загадчыка крамай № 166 Урбана) вялікая колькасьць дэфіцытных продуктаў. Усё гэта часта ўтваралася на вачох астатніх работнікаў.

Гэтыя факты зьяўляюцца вынікам сямейнасьці і кругавой парукі ў паасобных крамах.

Плёткі таксама зьяўляюцца аднэй з хвароб у апараце ЦРК. Ёсьць шэраг фактаў, калі плёткі ахапляюць усіх работнікаў крамы, паасобных зьвеньняў.

Праверачная комісія констатавала, што праўленьне ЦРК яшчэ задаўга, да пачатку чысткі апарату, занялося самаачышчэньнем, і ў гэтым напрамку праароблена вялікая работа: за 1929 г. звольнена і перададзена суду за растраты і розныя іншыя злоўжываньні 188 чал., а за першыя 4 месяцы 1930 г.— прыблізна такая-ж колькасьць.

У выніку адкрытай праверкі, на якой прайшлі 310 чалавек, атрымалі спагнаньне 201 чал., ці 62 проц. з агульнага ліку прайшоўшых праверку, з якіх 44 чал. вычышчана.

Наведваньне і актыўнасьць на сходах з боку работнікаў прылаўку і спажыўцоў на працягу ўсяе чысткі былі добрыя: у сярэднім прысутнічала на сходах 350 чалавек; усяго прысутнічала на чыстцы 20650 чал.

Адначасова праўленьнем ЦРК вялікая работа праароблена па арабочаньні апарату. Былі арганізаваны курсы для рабочых вылучэнцаў на пасады загмагаў і намесьнікаў на 50 чал. Месяц таму назад закончыліся аналёгічныя курсы на 25 чал. арганізаваны курсы для загадчыкаў сталовых на 35 чал. На шэраг пасад у цэнтральны апарат у якасьці інструктароў выдзелены рабочыя - вылучэнцы. Усяго ўліта ў апарат на кіраўнічыя пасады 150 чалавек, якія ўжо працуюць і часта зьяўляюцца прыкладам для старых работнікаў. Закончаны курсы для работнікаў прылаўку на 300 чал. з беспрацоўных усіх саюзаў. Так ішла падрыхтоўка новых кадраў. Праўленьню неабходна не паслабляць узятых тэмпаў па арабочаньні апарату.

Нарэшце, трэба адзначыць, што і саюз Саўгандальслужачых, — што таксама канстатаваў правяркам,—не зварочваў увагі на выхаваньне вырасшай арміі гандлёвых работнікаў. Групком і ўсе проф'ячэйкі не завастрылі грамадзкай увагі на розных хваравітых зьявішчах, як растраты, зладзейства і плёткі. Усе гэтыя балючыя моманты зьяўляюцца вынікам недастаткова разгорнутай самакрытыкі. Ёсьць яшчэ шэраг работнікаў, якія замоўчваюць і замазваюць рознага роду злачынствы.

Трэба зьнішчыць паруку ў тых крамах, дзе колектыўна ўтвараліся злоўжываньні, аб чым можа сьведчыць такі факт: загадчык п'янстваваў, жыў сам на „шырокую ногу“, часта запрашаў другіх работнікаў прылаўку на п'янку. Ніхто, аднак, аб гэтым не сыгналізаваў праўленьню, і ў выніку—недахоп звыш 1000 руб.

Неабходна шырэй разгарнуць самакрытыку, моцна ўдарыць па руках тых, хто яе заціскае, а такія факты ёсьць. загадчык магазынам распраўляецца з работнікам прылаўку за тое, што апошні паказвае яму на яго недахопы ў рабоце (магазын № 23).

Толькі пры дастаткова разгорнутай самакрытыцы мы зможам зьнішчыць усе недахопы, ўсе хваравітыя зьявішчы, адзначаныя рабочымі брыгадамі і комісіямі па чыстцы, толькі тады можна наладзіць работу коопэратыву, накіраваўшы ўсю ўвагу на палепшаньне абслугоўваньня рабочае клясы.

**За 100 проц. уцягненьне працоўных БССР у пайнікі спажывецкай коопэрацыі**

# Баявыя шэрагі коопэрацыі—на агляд

## Да міжнароднага дня коопэрацыі

У гэтым годзе сёмы раз працоўныя ўсіх краін сьвяткуюць міжнародны дзень коопэрацыі, які зьяўляецца днём дэмонстрацыі сіл сусьветнага коопэрацыйнага руху.

У розных умовах праводзіцца гэты дзень у нас, у краіне пролетарскай дыктатуры, і ў капіталістычных краінах.

У капіталістычных краінах, дзе на чале коопэрацыі знаходзяцца агенты буржуазіі—соцыял-фашыстыя, якія заўседы ў часе барацьбы працы з капіталам становяцца на бок апошняга, яны ўсімі сіламі імкнуцца накіраваць коопэрацыйную работу па шляху, выгаднаму для капіталістычнае сыстэмы, выступаючы супроць інтарэсаў рабочай клясы і адмаўляючы ў той жа час клясавую барацьбу, коопэрацыю яны пэратвараюць у прыдатак капіталістычнай сыстэмы і дапамагаюць буржуазіі рыхтавацца да вайны супроць СССР.

Перад коопэрацыяй капіталістычных краін стаяць зараз задачы – барацьба з голадам і жабрацтвам мільёнаў беспрацоўных, організацыя і падрыхтоўка працоўных мас—пайнікаў да будучых клясавых боек. Толькі пад непасрэдным кіраўніцтвам комуністычных партый коопэрацыя капіталістычных краін вырашыць пастаўленыя перад ёю задачы. Міжнародны дзень коопэрацыі павінен зьявіцца днём мобілізацыі працоўных капіталістычных краін пад сьцягі компартый на барацьбу з соцыял-фашыстамі, на барацьбу з капіталізмам, за дыктатуру пролетарыяту, супроць вайны, за абарону СССР.

У нас, у СССР, ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту, коопэрацыя зьяўляецца адным змагутных зьвеньняў нашае народнае гаспадаркі; яна, выконваючы плян Леніна, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ажыцьцяўляе сваю асноўную задачу—актыўна ўдзельнічае ў гіганцкім соцыялістычным будаўніцтве нашай краіны.

У БССР толькі спажывецкая коопэрацыя да міжнароднага дня коопэрацыі аб'ядноае звыш мільёну працоўнага насельніцтва. За гады свайго існаваньня ва ўмовах пролетарскай дыктатуры яна выцесьніла прыватны гандлёвы капітал з тавараздвароту і ўяўляе амаль адзіную тавараправодзячую організацыю ва ўсёй народнай гаспадарцы. Зварот па продажы спаж. кооп. БССР за 1928-29 год дасягае 193.547.000 р., шырока разгорнута гандлёвая сетка. дасягнуўшая к 1-му красавіка 1930 г. па гарадох 1.038 адзінак, па вёсках -- 2 892 адзінак, разгорнута шырокая сетка грамадзкага харчаваньня, хлебапячэньня, разгорнута работа па пашырэньні харчовай базы з мэтай паляпшэньня рабочага забесьпячэньня, як малочныя фэрмы, прыгарадныя гаспадаркі, адкормачныя пункты; праведзена вялікая культурна-бытавая праца сярод пайнікаў. Кніга, кіно, радыё, справа організацыі культурных чайных, дзіцячых бытавых установаў заваёўваюць усё болей устойлівае месца ў рабоце коопэратываў.

Сампрамкоопэрацыя аб'ядноае 907 арцеляй з 24.000 пайнікаў, яе сярэдня-гадавы зварот па рэалізацыі сваёй продукцыі складае каля 35.000.000 р., таксама вялізарнейшыя посьпехі маюць усе віды с.-г. коопэрацыі.

Наша коопэрацыя прымае актыўны ўдзел у правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній: хлебазагатовак, загатовак асноўных і другарадных відаў сыравіны і экспорту, пасеўнай кампаніі, абслугоўваньня соцыялістычнага сэктару і садзейнічаньня колектывізацыі с. гаспадаркі.

Усе посьпехі нашай коопэрацыі дасягнуты дзякуючы правільнаму кіраўніцтву комуністычнай партыі, хуткім тэмпам разьвіцьця ўсяе народнай гаспадаркі, росту матар'яльна-культурнага дабрабыту працоўных мас, росту актыўнасьці і шырокаму ўдзелу іх у практычнай працы коопэрацыі.

Ня гледзячы на наяўнасьць вялікіх дасягненьняў, праца спажывецкай коопэрацыі ўсё яшчэ працягвае адставаць ад тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва: нездавальняюча пастаўлена праца па ахопе бюджэту рабочага і абслугоўваньні прамысловых цэнтраў і соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі; якасьць абслугоўваньня спажыўца яшчэ нізкая, ахоп грамадзкім харчаваньнем працоўных недастатковы, дрэнна абстаіць справа з непасрэдным вырашэньнем коопэрацыяй проблемы грамадзкага харчаваньня; бытавое і культурнае абслугоўваньне спажыўцоў яшчэ нездавальняюча пастаўлена.

Перад спаж. коопэрацыяй стаяць адказьнейшыя задачы: організаваць унутраны рынак, забясьпечыць рабочых, узьняць рэальны ўзровень зарплаты рабочых, абслугоўваць запатрабаваньні насельніцтва саўгасаў і колгасаў, перабудаваць быт на соцыялістычных пачатках.

У пастанове ЦК УсеКП(б) ад 5-га мая адзначана, што „борьба партии за действительное улучшение снабжения трудящихся города и деревни, за коренную перестройку быта трудящихся, за повышение уровня реальной заработной платы рабочих, за удовлетворение новых потребностей, возникающих в связи с коллективизацией миллионов крестьянских хозяйств, неизмеримо увеличивает ответственность потребительской кооперации за выполнение возложенных на нее огромных хозяйственных заданий, запроектированных пятилеткой и контрольными цифрами на 1929-30 г.". Для пасьпяховага выкананьня гэтых вялізарных гаспадарча-політычных задач, спажывецкая коопэрацыя павінна рашуча перабудаваць організацыйныя мэтоды, узмацніць тэмпы свае работы, забясьпечыўшы сваімі практычнымі мерапрыемствамі выкананьне задач у адпаведнасьці з тэмпамі індустрыялізацыі краіны і колектывізацыі сельскае гаспадаркі.

Коопэрацыя павінна ў міжнародны дзень коопэрацыі мобілізаваць актыўнасьць рабочых, батрацка-бядняцкіх, колгасных і ўсіх астатніх працоўных мас гораду і вёскі на барацьбу за ачыстку коопэрацыйнага апарату ад бюрократычных шкодных элемэнтаў, ад элемэнтаў, якія скрыўляюць лінію партыі, за арабочваньне і палепшаньне коопэрацыйнага апарату за кошт вылучаных новых працаўнікоў з гушчаў рабочых, работніц, батракоў і беднякоў; неабходна мобілізаваць усе сілы на барацьбу з усялякімі ўхіламі ад генэральнай лініі партыі ў працы коопэрацыі.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, абапіраючыся ў сваёй рабоце на шырокую пролетарскую грамадзкасьць, шырока разгортваючы лепшы мэтод соцыялістычнага будаўніцтва—соцспаборніцтва і ўдарніцтва, коопэрацыя рашуча перабудуе свае шэрагі, пераможа ўсе цяжкасьці, якія стаяць на яе шляху па выкананьні адказьнейшых задач.

Няхай жыве міжнародны дзень коопэрацыі—дзень агляду міжнароднай солідарнасьці пролетарскіх шэрагаў коопэрацыі і згуртаваньня баявых пролетарскіх сіл!

Няхай жыве кіраўніцтва компартыі міжнародным коопэрацыйным рухам!

За стопроцантнае коопэраваньне працоўнага насельніцтва, за поўны ахоп бюджэту рабочага і падвышэньне рэальнага ўзроўню зарплаты!

За лепшае абслугоўваньне соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі! За соцыялістычную перабудову быту!

# Няхай жыве дзесятая гадавіна вызваленьня ад белапалякаў

## Дзесяць год

(*Да 10-ае гадавіны вызваленьня Беларусі ад белапалякаў*).

У сьнежні месяцы 1928 году працоўныя Савецкае Беларусі сьяткавалі сваё вялікае сьвята—дзесяць год існаваньня БССР.

11 ліпеня 1930 году працоўныя БССР будуць сьвяткаваць ня менш значнае сьвята ў гісторыі чалавецтва—сьвята, калі гэроічная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія дала апошні і рашучы бой польскай буржуазіі і гэтым самым вызваліла працоўных Беларусі ад эксплёатацыі, ад жандарскіх зьдзекаў, ад клясава-нацыянальнага ўціску.

Дзесятую гадавіну вызваленьня Беларусі ад белапалякаў пролетарыят і працоўныя масы нашае краіны сустракаюць ва ўмовах шпаркага соцыялістычнага будаўніцтва як у галіне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, гэтак і ў галіне культуры.

За гэтыя дзесяць год Савецкая Беларусь адбудавала сваю гаспадарку, пры чым вызначаецца ўсё больш хуткі тэмп росту прамысловасьці, росту пролетарыяту ў нашай да гэтага часу пераважна сельскагаспадарчай краіне.

Роўналежна гэтаму процэсу расьце і мацнее палітычная сьвядомасьць пролетарыяту і сялянства БССР.

Сярод фабрычна-заводзкага пролетарыяту расьце ўсё большая ўдзельная вага беларускага пролетарыяту, што гаворыць за тое, што савецкая ўлада ўцягвае ў прамысловасьць усё больш і больш рабочае сілы з беларускай вёскі, зьнішчае беспрацоўе, уцягвае ў прамысловасьць лішнія рабочыя рукі, якія да вайны вымушаны былі галадаваць, якія прымушаны былі эміграваць, у пошуках работы, за межы краіны.

За гэтыя дзесяць год прамысловасьць Беларусі сіганула далёка за даваенны ўзровень. Растуць адзін за другім буйныя заводы, растуць фабрыкі; будуюцца на тэрыторыі Беларусі аграмадныя электрастанцыі (Асінбуд), якія прамысловасьць Беларусі пераключаць на электрычную энэргію.

Вялікія посьпехі мы маем і ў галіне сельскай гаспадаркі. Сельская гаспадарка з кожным днём ўсё павялічвае соцыялістычны сэктар.

Калі ў 1920-21 годзе ў галіне сельскай гаспадаркі толькі распачыналася будаўніцтва буйных колгасаў і саўгасаў, дык зараз, у 1930 годзе, мы маем 12 проц. індывідуальных гаспадарак у колгасах, што складае да 15 проц. агульнай плошчы.

На фоне росту сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, на фоне росту ўсяе народнае гаспадаркі нам да 10-й гадавіны вызваленьня БССР ад белапалякаў неабходна адзначыць вялізарны рост нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

Нацыянальныя меншасьці, якія згрупаваны, галоўным чынам, у гарадох і мястэчках Савецкай Беларусі, якія жорстка прыгняталіся белапалякамі ў часы окупацыі, зараз роўнапраўны, уцягнуты ў агульнае соцыялістычнае будаўніцтва БССР як па лініі разьвіцьця культуры на сваёй роднай мове, гэтак і па лініі перасяленьня местачковага яўрэйскага насельніцтва на зямлю,

аб'яднаньня іх у нацыянальныя колгасы, уцягненьня іх у прамысловасьць роўна з беларускімі працоўнымі і працоўнымі усіх іншых нацыянальнасьцяй, якія насяляюць БССР.

Культурнае будаўніцтва БССР прыняло шырокі размах. Зараз у БССР маецца шэраг вышэйшых навучальных установ, ня кажучы ўжо пра сярэднія. X гадавіну вызваленьня ад белапалякаў Савецк. Беларусь сустракае з такімі вышэйшымі навучальн. установамі, як акадэмія навук, сельска-гаспадарчая акадэмія, вэтэрынарны інстытут, комуністычны унівэрстытэт, Беларускі Дзяржаўны унівэрстытэт, для якога пабудаваны некалькі аграмадных корпусоў. Пабудова унівэрстытэцкага гарадку зьяўляецца адным з першых у Савецкім Саюзе.

Гэта ўсё кажа аб тым, што працоўныя БССР у сэнсе культуры, як і наогул усяго будаўніцтва, зрабілі вялічэзны поступ наперад.

За дзесяць год пасьля вызваленьня Беларусі ад белапалякаў тысячы працоўных рабочых і сялян атрымалі вышэйшую адукацыю, аб чым не маглі марыць працоўныя Беларусі ні пры цару, ні ў часе белапольскай окупацыі.

Усе гэтыя дасягненьні зроблены дзякуючы правільнаму кіраўніцтву комуністычнай партыі, якая вядзе непрымірымую барацьбу з усякага роду ўхіламі і асабліва з правым і „левым" ухілам, якія імкнуцца падарваць соцыялістычнае будаўніцтва, а таксама шовіністымі, з рознага колеру нацыянал-дэмократызмам.

Гэтыя дасягненьні яшчэ абумоўліваюцца вялікім уздымам энтузыязму рабочае клясы, якая выкарыстоўвае ў сваёй працы соцспаборніцтва, організуецца ва ўдарныя вытворчыя брыгады і гэтым самым уздымае тэмп росту вытворчасьці.

Рабочая кляса паставіла пытаньне выкананьня пяцігадовага пляну гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ў чатыры гады, выходзячы з пэўных рэальных магчымасьцяй.

Вялікую ролю ў агульным будаўніцтве БССР адыгрывае саюз рабочае клясы з працоўным сялянствам, якое прасякаецца пролетарскай ідэолёгіяй і пераходзіць у соцыялістычны сэктар нашае гаспадаркі (колгасы).

Магутнасьць БССР цяпер агромніста.

Зараз БССР зьяўляецца непераможным форпостам на мяжы з заходняй буржуазіяй, на рубяжы з белапанскай-фашысцкай Польшчай.

---

**І. Гармізэ**

# Дзесяць год савецкай коопэрацыі ў Б. С. С. Р.

Прыступіць да ажыцьцяўленьня вялікіх заваёў Кастрычнікавае рэволюцыі працоўныя БССР змаглі толькі пасьля вызваленьня тэрыторыі рэспублікі ад белапалякаў.

Па сутнасьці першым годам соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР трэба лічыць 1920 год як год канчатковага аформленьня Беларусі ў Савецкую Соцыялістычную Беларусь.

У шырока разгорнутай сыстэме мерапрыемстваў у пэрыод адбудаваньня зруйнаванае гаспадаркі рэспублікі, на організацыю коопэрацыі была зьвернута значная ўвага. Ужо 4 жніўня 1920 году Вайскова-Рэволюцыйны Комітэт пастанаўляе: „Создать единый кооперативный орган, который должен стать организационным и хозяйственным центром единого распределительного аппарата края Центросоюза Белоруссии".

Гэтым актам фактычна была пакладзена організацыя адзінай коопэрацыйнай сыстэмы ў БССР, на

якую былі ўскладзены важнейшыя задачы соцыялістычнага будаўніцтва ў сфэры абмену.

Адсталасьць і зруйнаванасьць народнае гаспадаркі рэспублікі наклалі пэўны адбітак на коопэрацыйнае будаўніцтва ў БССР, што выявілася ў больш марудным яе разьвіцьці. Апрача таго, тут дзейнічалі і некаторыя фактары гістарычнага парадку. У адрозьніваньне ад шэрагу другіх рэспублік і вобласьцяй Саюзу, дзе справа савецкага коопэрацыйнага будаўніцтва палягчалася значным вопытам, практыкай мінулых гадоў і намнажэньнямі ма-

Ня гледзячы на асаблівыя цяжкасьці, спажывецкая коопэрацыя БССР, у мінулым сваім неразьвітая, разрозьненая, налічваўшая некалькі дзесяткаў раскіданых і няўвязаных паміж сабой ячэек, узышла на шырокі шлях ажыцьцяўленьня першапачатковай важнасьці задач, якія ўскладзены на яе ўсім ходам соцыялістычнага будаўніцтва краіны.

Эволюцыя будаўніцтва спажывецкае коопэрацыі БССР характарызуецца па ўсіх галінах яе работы тэндэнцыямі ўмацаваньня і росту яе значэньня ня толькі як за-



Мэханічныя майстэрні на пабудове электрастанцыі „Асінбуд“

тар‘яльных сродкаў,—у экономічна-адсталай і палітычна-прыгнечанай Беларусі коопэрацыйны рух наогул зарадзіўся пасьля рэволюцыі. Аднак, і на гэтых першых сваіх кроках коопэрацыйнае будаўніцтва перарывалася шматлікімі окупацыямі.

Вось, прыкладна, тыя ўмовы, у якіх спажывецкая коопэрацыя БССР пачала разьвівацца і ажыцьцяўляць свае задачы па актыўным удзеле ў соцыялістычным будаўніцтве рэспублікі.

бясьпечваючай організацыі, але і як організуючай працоўнае насельніцтва сыстэмы.

Да 10-й гадавіны вызваленьня Савецкае Беларусі спажывецкая коопэрацыя БССР уяўляе сабою адзіную сыстэму з разьмежаванымі функцыямі і аб‘ёмам работы ў кожным зьвяне. Яна ўжо набыла ролю і значэньне фактару рэгуляваньня рынычных адносін і ўмацаваньня соцыялістычных пачаткаў у галіне абмену і разьмеркаваньня.

Дасягненьні спажывецкай коопэрацыі характарызуюцца паказальнікамі асноўных галін яе разьвіцьця. У галіне коопэраваньня дасягнута ўцягненьне ў коопэрацыю 45 проц. дарослага сельскага насельніцтва і 75 проц. гарадзкога.

Асноўнае вызначэньне соцыяльнага складу коопэраваных мас характарызуецца амаль поўным ахопам рабочых і батрацка-бядняцкай часткі вёскі.

Паянамнажэньне, як якасны процэс коопэраваньня, які паказвае сабой матар'яльны ўдзел пайнікаў у коопэрацыйным будаўніцтве, дасягнула такога становішча, якое ператварыла паявыя капіталы ў асноўныя фінансуючыя гаспадарчы зварот сродкі. Сярэдні пай павялічыўся: па горадзе—з 4 р. 26 кап. (у 1925-26 годзе) да 13 р. 13 кап. (на 1/VI—30 году), а па сельскай сетцы—адпаведна з 2 р. 13 к. да 10 руб. 69 кап.

Разьмеркавальная сетка вырасла з 2.000 пунктаў у 1925/26 годзе да 3.930 на 1/IV—30 г.

Характэрнай асаблівасьцю арганізацыйнага будаўніцтва сельскай сеткі зьяўляецца яўна выяўленая тэндэнцыя ўмацаваньня яе на аснове ліквідацыі дробнакрамных і карлікавых спажывецкіх таварystваў. Колькасьць спажывецкіх таварыстваў з 700 у 1925/26 годзе скарацілася да 250 на 1/V—30 году, што паказвае сабою процэс росту і ўмацаваньня нізавой сеткі.

Рост зваротаў спажывецкай коопэрацыі характарызуецца хутка разгорнутымі тэмпамі, якія вызначылі ролю яе, як асноўнай тавара-забясьпечваючай сыстэмы, пры чым варта адзначыць гаспадарчую работу спажкоопэрацыі, якая папаўняецца новымі больш удасканаленымі экономічна-бытавымі формамі абслугоўваньня, як грамадзкае харчаваньне і хлебапячэньне.

Дробны зварот спажывецкай коопэрацыі вырас з 87 млн. у 1925/26 годзе да 271 млн. у 1929/30 годзе. Абедаў адпушчана за першую палову 1929—30 г. 9½ мільёнаў супроць 7 мільёнаў за ўвесь 1928/29 год, які ў сваю чаргу па росту зьяўляўся рэкордным.

Значна ўзрос удзел спажкоопэрацыі у збытавых опэрацыях сялянства: ў 1925/26 годзе—24,4 проц., у 1929/30 годзе да 35 проц. (прыблізна).

Побач з гаспадарчым ростам роля коопэрацыі ў галіне яе работы па культурна-бытавым абслугоўваньні насельніцтва значна павялічылася. Асноўнымі элемэнтамі гэтай работы зьяўляецца разьвіцьцё кнігагандлю, асабліва ў вёсцы, кіно і радыё, організацыя дзіцячых устаноў, удзел у цэлым шэрагу агульнадзяржаўных культурных мерапрыемствах.

Значныя посьпехі, якіх дасягнула спажывецкая коопэрацыя БССР, зьяўляюцца раней усяго вынікам няўхільнага шляху сьледаваньня яе дырэктывам партыі і ўраду, якія ажыцьцяўлялі сталае кіраўніцтва штодзённай працай коопэрацыі.

Усе гэтыя дасягненьні далёка недастатковы ў адпаведнасьці з тымі задачамі, якія партыяй і ўрадам пастаўлены перад спажкоопэрацыяй ва ўмовах рэконструкцыйнага пэрыоду.

Спажкоопэрацыя ў новых умовах прызвана вывесьці спажыўца з стадыі ўплыву стыхійных фактораў і падпарадкаваць разьмеркаваньне асноўным народна-гаспадарчым запатрабаваньням, падняць вытворчасьць працы, садзейнічаць колгаснаму і саўгаснаму будаўніцтву, першачарговаму і найбольш поўнаму абслугоўваньню прамысловых цэнтраў, адшуканьню дадатковых харчовых рэсурсаў, падвышэньню рэальнага ўзроўню зарплаты.

Падводзячы вынікі работы спажывецкай коопэрацыі, мы павінны са ўсёй катэгорычнасьцю адзначыць, што з цэлым шэрагам задач яна недастаткова спраўляецца, і што яе тэмпы і маштабы работы часта адстаюць ад агульных тэмпаў і маштабаў народна-гаспадарчага разьвіцьця.

Падагульваючы асноўныя прычыны, якія прывялі спажывецкую кооперацыю да адставаньня ад агульных тэмпаў разьвіцьця і да недастатковага выкананьня ўскладзеных на яе задач, што ў поўнай меры адносіцца і да спажывецкай коопэрацыі БССР, пастанова ЦК УсеКП(б) адзначае: „слабое проведение важнейших заданий о снижении цен на товары широкого потребления, продолжающийся самотек в работе, неумение торговать, обслуживать потребителя, неумение маневрировать товарными фондами, слабая работа по организации пригородных хозяйств, бюрократизация работы и весьма слабое развертывание общественности, отсутствие подлинного социалистического соревнования и ударничества, слабость кооперативных кадров и засоренность аппарата чуждым элементом—все это требует усиленного внимания партийных, профессиональных и советских организаций к задачам улучшения всей работы кооперативной системы".

Пад кутом гледжаньня новых задач і поўнай ліквідацыі ўсіх недахопаў у сваёй рабоце, спажкоопэрацыя павінна перабудаваць сваю работу такім чынам, каб уключыцца ў агульныя тэмпы народна-гаспадарчага разьвіцьця і соцыялістычнага будаўніцтва.

---

А. Крол.

## Рабочая коопэрацыя Менску за 10 год.

Узьнікненьне рабочай коопэрацыі ў горадзе Менску належыць аднесьці да 1917 г.

Першым рабоча-коопэрацыйным аб'яднаньнем зьяўляўся рабкооп „Единение", у аснову якога лягла „сталоўка для працоўных", існаваўшая з 1915 г. пры комітэце дапамогі бежанцам.

У 1918 г. (у пэрыод нямецкай окупацыі) організаваліся коопэратыў „Молат", рабкооп „Аб'яднаны Будаўнік" і шэраг дробных рабкоопаў пры ўстановах, прадпрыемствах, жактах, профсаюзах і г. д.

У канцы 1918 г., па пачыне трох буйнейшых рабкоопаў, была прынята пастанова аб зьліяньні ўсіх існуючых у Менску рабкоопаў з мэтай організацыі аднаго моцнага рабочага коопэратыву. Пастанова гэта была праведзена ў жыцьцё у красавіку 1919 г., быў організаваны МЦРК.

Вынікі гэтага аб'яднаньня адчуліся ўжо ў першых месяцах існаваньня ЦРК. Уключаючы тыя прадпрыемствы, якія перайшлі да МЦРК ад ліквідаваных рабкоопаў, коопэратыў меў 25 крам, 3 сталоўкі і шэраг дробных вытворчых прадпрыемстваў. Звароты ЦРК у чырв. рубл. (па орыентыровачных дадзеных) за 4 мес. складалі 620 тыс. рубл., але далейшаму разьвіцьцю ЦРК быў пакладзен канец з прычыны окупацыі Менску белапалякамі: 8—9 жніўня 1919 г. большасьць прадпрыемстваў ЦРК было зруйнована польскімі легіёнэрамі. Толькі частка прадпрыёмстваў мела магчымасьць зноў пачаць працу пасьля гаспадараньня легіёнэраў. Аднак, уціск коопэратыву не абмежаваўся толькі зруйнаваньнем коопэрацыйных крам: у кастрычніку 1919 г. памяшканьне праўленьня ЦРК было запячатана па распараджэньні дэфэнзывы, чатыры члены праўленьня і 20 супрацоўнікаў арыштаваны, шмат працаўнікоў вымушаны былі ўхіляцца ад вока дэфэнзывы.

У пачатку 1920 году Цэрабкооп, згодна распараджэньня польскіх улад, быў рэорганізаваны ў „Саюз аб'яднаных коопэратываў" гор. Менску. Для нагляданьня за дзейнасьцю саюзу ў склад яго праўленьня быў уведзены прадстаўнік

польскіх улад—былы Менскі правадыр дваранства Моргеншыльд. У яго функцыі ўваходзіла мець сталае нагляданьне за тым, каб праца саюзу „накіроўвалася на староньнія політычныя мэты“, прыймаць удзел у паседжаньнях праўленьня іншых кіруючых органах саюзу з правам „вэто (забароны) ажыцьцяўляць папярэдні контроль над усімі коопэрацыямі саюзу і г. д.



гор. Менск, аддзяленьне хлебазаводу

Дзякуючы „дапамозе“ комісара, коопэратыў на працягу 11—месячнага гаспадараньня белапалякаў у Менску быў даведзены да катастрофічнага становішча.

Пасьля выгнаньня палякаў у Менску організавалася „ЕПО“, адначасова з якім узьнік шэраг самастойных дробных коопэратываў пры ўстановах, саюзах і г. д. Забесьпячэньне гэтых рабкоопаў і агульнае кіраваньне іх працай былі ўскладзены на Белрабкооп.

У чэрвені 1921 г., шляхам зьліяньня „ЕПО“ з Белрабкоопам, організаваўся саюз рабочай коопэрацыі Беларусі“—Сорабкоопбел. У лістападзе 1922 г. з складу Сорабкоопбелу выдзеліўся „Менскі саюз рабочай коопэрацыі“—Менсорабкооп. Аднак, існаваньне „Менсорабкоопу“ сябе не апраўдала, бо ён ня меў ніякай апоры ў масах насельніцтва, а ў жніўні 1923 г. усе існаваўшыя ў Менску рабкоопы зьліліся з Менсорабкоопам; шляхам гэтага зьліяньня організаваўся МЦРК.

## МЦРК з 1923 па 1930 г.

У пачатку свае організацыі (на I/X—23 г.) ЦРК налічваў 6031 пайніка, якія перайшлі з паасобных рабкоопаў. Тыя зьмены, якія адбыліся ў галіне коопэраваньня за пэрыод з I/X—23 г. па I/VI—30 г., па асноўных паказальніках характарызуюцца наступнымі лічбамі:

| | Кольк. пайнікаў. | % коопэр. даросл. насельн. | % коопэр. членаў профсаюзаў. | Удзельн. вага жанчын у скл. пайнік. |
|---|---|---|---|---|
| На I/X—23 г. | 6.031 | 9,2 | 22,0 | 14.6 |
| „ I/VI—30 г. | 61.730 | 81,6 | 98,3 | 34.2 |

Колькасьць пайнікаў за гэты пэрыод узрасла ў 10,2 разоў, члены профсаюзаў былі коопэраваны амаль што на 100 проц.; значна павялічылася ўдзельная вага жанчын у складзе пайнікаў. Гэтыя вынікі самі па сабе характарызуюць тую ролю, якую МЦРК займае ў справе забесьпячэньня працоўнага насельніцтва.

Гандлёвая сетка коопэратыву за гэты пэрыод узрасла ў 13 разоў.

| | Колькасьць гандлёвых адзінак. | Сярэд. гадовы зварот на 1 адзінку (ў тыс. руб.) | Колькасьць насельніцтва на 1 адзінку. |
|---|---|---|---|
| I/X—23 г. | 18 | 149 | 4.828 |
| I/VI—30 г. | 234 | 143 | 737 |

У той час, як у 1923 г. адна крама прыходзілася на 4828 душ насельніцтва, у сучасны момант адна крама прыходзіцца на 737 чал. Нагрузка кожнай крамы таксама паменшылася, аб чым сьведчыць паменшэньне сярэдняга гадавога звароту, выкліканая неабходнасьцю палепшаньня абслугоўваньня спажыўцоў. Тэрыторыяльнае разьмеркаваньне крамнай сеткі значна палепшылася. У 1923 г. амаль што ўся крамная сетка знаходзілася ў цэнтры гораду і на рынках, а ў сучасны момант мы маем на ўскраінах больш 60 проц. усіх крам. Для павялічэньня прапускной здольнасьці крам, у мэтах палепшаньня абслугоўваньня пайнікаў, 161 адзінка пераведзена на бесьперапынны гандлёвы тыдзень, 122 адзінкі—на $1^1/_2$ і 2-зьменны гандаль.

Мерапрыемствы па рацмінімуме цалкам выкананы. Звароты коопэратыву ў 1930 г. узрасьлі ў параўнаньні з 1923 г. у 20 разоў.

| | Гандлёв. звар. (ў тыс. руб. | У тым ліку. | |
|---|---|---|---|
| | | Харч. т-вы. | Проц. да разрахунку |
| 1923 г. . . . . . . | 1.701 | 559 | 31 |
| З I/VI—28 г. па I/VI—29 г. | 34.701 | 17003 | 49 |

Таварны асортымэнт, якім ЦРК забясьпечваў сваіх пайнікаў, пацярпеў на працягу разглядаемага пэрыоду вялікія зьмены. Асноўных с.-г. тавараў (мяса, рыбы, гародніны, садовіны, малака і г. д.) у таварным асортымэнце коопэратыву ў 1923 і 24 г. г. зусім ня было, астатнія с.-г. тавары займалі нязначнае месца. Але затое мануфактура займала 26 проц. асортымэнту, абутак—17 проц., табачныя вырабы 9 проц., канцпрылады—6 проц. і г .д.

У сучасны момант коопэратыў мае ў сваім асортымэнце ўсе тавары рабочага спажываньня і па шэрагу тавараў коопэратыў зьяўляецца адзінай організацыяй, забясьпечваючай працоўнае насельніцтва. Бюджэт рабочага быў ахоплены ў 1923 г. на 8 проц., а ў 1929—30 г.—на 77 проц.

Грамадзкае харчаваньне да апошняга году разгортвалася маруднымі тэмпамі, і толькі ў апошнім годзе разьвіцьцё грамадзкага харчаваньня прыняло шырокія памеры.

| | Колькасьць | | Гадавы зварот (у тыс р.) | Адп. абедаў і порцыён. (у тыс. р.) | Ахоп патрэб. (у проц.) |
|---|---|---|---|---|---|
| | сталовых. | буфэтаў. | | | |
| I/X—23 г. | 4 | — | 229 | 356 | 1 |
| I/VI—30 „ | 29 | 192 | 4.933 | 4.722 | 19 |

З прыведзенай колькасьці сталовых на I/VI—30 г. 17 сталовак адчынена ў 1930 г. Частка іх прызначана для абслугоўваньня сэзонных рабочых і вайсковых служачых. У красавіку 1930 г. пачата пабудова фабрыкі-кухні, з прапускной здольнасьцю ў 16 тыс. абедаў. Пабудова і абсталяваньне фабрыкі будзе каштаваць каля 1.500.000 р.; фабрыка будзе пушчана ў 1931 годзе. У бліжэйшы час будзе пабудаваны разьмеркавальнік на 4 тыс. абедаў, акрамя таго, у 1930—31 г. мяркуецца пабудаваць сталовую з прапускной здольнасьцю ў 6.000 адзінак на Ляхаўцы, студэнцкую сталовую на 5 тыс. абедаў і 3 сталовыя пры прадпрыемствах. Контрольныя лічбы на 1930—31 г. прадугледжваюць ахоп патрэбнасьці працоўнага насельніцтва на 28 проц. Якасны бок пастаноўкі працы ў прадпрыемствах грамадзкага харчаваньня мае шэраг буйных недахопаў, якія ў асноўным тлумачацца дрэнным тэхнічным становішчам сталовых і іх значнай перагрузкай.

Максымальнае паляпшэньне пастаноўкі працы ў прадпрыемствах грамадзкага харчаваньняе і далейша

разгортваньне сеткі сталовых зьяўляюцца ў сучасны момант аднэй з асноўных задач, якія стаяць перад коопэратывам.

Коопэрацыйнае хлебапячэньне, побач з грамадзкім харчаваньнем, зьяўляецца аднэй з асноўных прадпасылак аграмаджаньня быту працоўных. У сучасны момант МЦРК фактычна зьяўляецца адзінай організацыяй, якая забясьпечвае працоўнае

якія, аднак, у 24 г. былі ліквідаваны. У сучасны момант коопэратыў мае 4 саўгасы, з агульнаю плошчаю ў 1700 га; саўгасы перайшлі да МЦРК ў 1930 г. Згодна вытворчай програмы мяркуецца заняць пад пасевы 898 га, у тым ліку пад агароды 101 га.: мяркуецца атрымаць бульбы 1080 тон, капусты 400 тон. Пляны пасеву выкананы. У саўгасах мяркуецца паставіць 1500



Мэханічная выпечка хлеба ў аддзяленьні Менскага хлебазаводу

насельніцтва хлебам; у 1923 годзе коопэратыў меў толькі адну хлебапякарню саматужнага тыпу, якая выпякала каля 4 тон хлеба ў дзень.

| | Колькасьць пякарань | Колькасьць хлебазав. | Выпечана за год. | Сабекошт продукцыі | % ахопу попыту. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1923—24 г. | 1 | — | 1534 | 121 | 7,3 |
| 1929—30 „ | 3 | 1 | 31234 | 3382 | 100.0 |

Ужо ў сучасны момант прапускная здольнасьць хлебазаводу і пякарань не здавальняе попыту, у выніку чаго завод вельмі перагружаны, што адбіваецца на якасьці продукцыі. Згодна зацьверджаным контрольным лічбам, на капітальнае будаўніцтва па МЦРК у 1930—31 г. будзе приступлена да пабудовы другога хлебазаводу.

У пачатку свае організацыі МЦРК меў 3 прыгарадныя саўгасы

малочных кароў. У сучасны момант маецца кароў 864, удой з якіх атрымліваецца 4800 літраў малака у дзень.

Для замяшчэньня недахопу ў мясапродуктах МЦРК організаваны сьвінаадкормачныя пункты. Усяго пабудована памяшканьняў на 1115 сьвіней. Прапушчана праз адкормачныя пункты 1520 сьвіней. Маецца на адкорме 874 сьвіньні.

У сучасны момант прымаюцца меры для разгортваньня кролікаводзтва і птушніцтва.

Усяго ўкладзена сродкаў у сельскія гаспадаркі звыш 1,5 млн. руб. У 1930—31 г. мяркуецца дадаткова ўкласьці 1,8 млн. руб.

Фінансавае становішча, у якім працякала праца коопэратыву на працягу ўсяго часу яго існаваньня, было вельмі напружаным. Тлума-

чыцца гэта тым, што разгортваньне зваротаў і ўкладаньне сродкаў у нярухомую маемасьць працякалі інтэнсыўней, чым рост уласных сродкаў.

| | У тым ліку | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Сума балянсу (нэто) | Нярухомыя сродкі | Уласныя сродкі. | Паявы капітал |
| I/I — 24 г. | 1.130 | 122 | 235 | 11 |
| I/IV—30 „ | 7.168 | 2.407 | 2.262 | 820 |

У той час, як звароты коопэратыву і нярухомыя сродкі ўзрасьлі амаль што ў 20 разоў, сума сродкаў па балянсе ўзрасла толькі ў 6,3 разы, а сума ўласных сродкаў —у 9,6 разоў. Значна ўзрасьлі паявыя капіталы (у 75 разоў). Тлумачыцца гэта тым, што ў першыя гады існаваньня коопэратыву разьмер паявога ўзносу складаўся толькі з 50 кап., пры чым коопэратыў не наглядаў за сваячасовым ўзносам паю.

Значныя дасягненьні мае коопэратыў у галіне падвышэньня актыўнасьці коопэраваных мас, у справе коопэрацыйнага будаўніцтва. У першыя гады свайго існаваньня коопэратыў быў адарваны ад мас, амаль зусім адсутнічаў контроль мас над яго дзейнасьцю. У сучасны момант вакол коопэратыву маецца значны актыў, які ажыцьцяўляе сувязь паміж праўленьнем і масай пайнікаў, штодзённа наглядае за працай праўленьня і прадпрыемстваў коопэратыву, праводзіць вялікую працу сярод пайнікаў.

У межах тых сродкаў, якія коопэратыў мае, праводзіцца бытавое абслугоўваньне пайнікаў. Організаваны дзіцячыя сады, ясьлі, магазыны „Маці і дзіця". Вядзецца культасьветная праца сярод пайнікаў, шырока разгорнута праца па падрыхтоўцы кадраў і г. д.

Падагульваючы ў кароткіх рысах сказанае аб тых шляхох, якія пройдзены рабочай коопэрацыяй Менску за апошнія гады, можна констатаваць, што МЦРК, побач з недахопамі, якіх яшчэ шмат маецца ў яго працы, мае шэраг буйных посьпехаў у напрамку выкананьня тых задач, якія перад ім пастаўлены партыяй і рабочай клясай.

С. К—кі.

## З мінулых дзён

(*Апавяданьне*)

* * *

Вечар быў ціхі. Па чыстаму небу каціўся месяц і кідаў халодны сьвет на пакрытыя расьлінамі палі і лясы.

Старэнькі Іцка сядзеў пад акном свае карчмы, якая стаяла ля шырокай дарогі, і думаў пра свайго сына Эвэля, чырвонаармейца.

З болем унутры ўспамінаў ён яго. Эвэль быў уся апора Іцкавага жыцьця.

— О, мой сынок! — прагаварыў Іцка і пашоў у спальны пакой, дзе спалі яго жонка і дачка Бася. Цяжка ўздыхнуўшы некалькі разоў, з тупым болем у грудзёх, Іцка заснуў.

У карчме ўсе спалі.

* * *

Шырокая дарога, што праходзіць каля Іцкавай карчмы, пакрылася абозам, кавалерыяй, пяхотай. Гэта адбывалася адступленьне белапалякаў.

Навокала можна было бачыць пажары: гарэлі вёскі, мястэчкі. То там, то сям чуліся стрэлы. Белапольскае войска зьнішчала ўсё, што сустракалася на шляху адступленьня.

Мірныя жыхары пакідалі вёскі, мястэчкі і беглі ў лес, каб пазбавіцца зьвярыных адносін адступаючых. Але і гэта незаўсёды выратоўвала іх ад сьмерці. Часта ва-

рожая куля лавіла іх на далёкай адлегласьці і праглынала непавіннае жыцьцё.

Маладых жанчын бралі з сабою на вазы, гвалцілі і паўжывымі кідалі на дарогу.

* * *

У Іцкавай карчме адбываліся зьвярыныя ўчынкі белапольскіх жаўнераў.

Іцка, яго жонка і дачка Бася стаялі, скупіўшыся у кутку спальні, і вялікімі палахлівымі вачыма глядзелі на бандыцкія твары жаўнераў, якія з рэвольвэрамі стаялі над імі.

Іцкава жонка і Бася былі ў адных кашулях і яны хаваліся за Іцку, нібы адчувалі нейкі сорам.

— Ну, дзе больш людзі?! вытрашчыўшы вочы на тры струпянеўшыя асобы, пракрычаў з пухлым тварам жаўнер.

— Няма... усе... чуць чутна адказаў Іцка.

— Як усе!.. А сын?.. падскочыў жаўнер да Іцкі і сунуў пад нос рэвольвер.

— Ай, ай!—пракрычалі жанчыны і схапілі Іцку з абодвух бакоў за плечы.

— Ня-а-а-ма-а,—прахрыпела Бася.

— Няма, няма!.. а ў бальшавікох хто?..

Ува ўсіх прамігнула ў галаве слова: „знаюць“.

У спальню ўвайшлі яшчэ некалькі жаўнераў, якія за гэты час ператрэсьлі ўсе Іцкавы скрынкі, усё шкумацьцё, а што лепшае—павынасілі на падводу.

— Ну, даволі тут з імі няньчыцца... канчаць справу!—прагаварыў адзін з увашойшых і штырхнуў Іцку прыкладам у старыя ўвагнутыя грудзі.

— Давай грошы, пся крэў! штырхнуўшы Іцку нагой у бок, тонен кім голасам пракрычаў жаўнер.

Жонка Іцкава абамлела.

Бася схапіла сябе за распушчаныя чорныя валасы і пачала нечалавечым голасам глуха крычаць.

Два жаўнеры схапілі яе пад пахі і пацягнулі ў другі пакой. Яна пракрычала: „пусьцеце“... „ня мучце“... „крывапіўцы“, і заціхла за дзьвярамі другога пакою.

Іцку качалі па падлозе і вымагалі грошай.

Праз некалькі хвілін у карчме пачаліся стрэлы. Ля століі чорнай пасьцілкай разаслаўся дым.

* * *

Мінула ноч. Па чыстым небасхіле падымалася ярка-гаручае сонейка і сваімі мяккімі праменьнямі лізала старую асірацеўшую карчму.

У стадолі хрыплым голасам рыкала карова. На прызьбе карчмы жалобна выў сабака.

Дарога, як і дзень таму назад, была пакрыта людзьмі. Але гэта былі іншыя людзі. Гэта ехалі і ішлі змучаныя чырвонаармейцы, якія гарэлі энтузыязмам, клясавым пачуцьцём і праганялі азьвярэлых паноў, вызвалялі працоўных Беларусі ад белапольскіх зьдзекаў, эксплёатацыі.

Разам з чырвонаармейцамі ехаў і Іцкаў сын Эвэль. Ён нэрвова пад'ехаў пад карчму, ля якой стаяла куча ўсхвалёваных чырвонаармейцаў.

— У чым справа?!—пракрычаў Эвэль.

— Справа ня новая, яшчэ адно забойства...

Эвэль ускочыў у карчму. На падлозе ляжалі тры трупы.

— О, крывапіўцы!.. Эвэль упаў ніц на трупы і некалькі хвілін плакаў. Затым падняўся і пракрычаў:

— Таварышы! Мацней трымайце стрэльбы. Больш энтузыязму Больш клясавае салідарнасьці. Мы павінны нашчэнт зьнішчыць белапанскую Польшчу, зьнішчыць зьвярыныя адносіны да працоўнага насельніцтва.

Шэрагі чырвонаармейцаў падхапілі гэтыя словы моцным ура.

Тры ахвяры былі недалёка ад карчмы пахаваны.

Бальшавіцкае войска шпарка рухалася ўперад.

* * *

Скончылася грамадзянская вайна. Энтузыязм Чырвонай арміі, энтузы-

язм рабочых і працоўнага сялянства вызвалілі ад эксплёатараў краіну Беларусь. Распачалося мірнае будаўніцтва. Паварочаліся з Чырвонай арміі. Вярнуўся і Эвэль.

З такім-жа энтузыязмам, якім ён

Праз некаторы час, пасьля звароту Эвэля з Чырвонай арміі, арганізуецца спажывецкае таварыства. Эвэль, як перадавік, абіраецца старшынёй праўленьня.

Пад яго кіраўніцтвам рамантуец-




На пабудовах гор. Бабруйску

быў запалены ў бойках з буржуазіяй, Эвэль узяўся за будаўніцтва краіны, за адбудову Савецкае Беларусі.

Эвэля паважала ўсё насельніцтва. У ім бачылі ўсе працоўныя перадавіка вёскі, абаронцу інтарэсаў працоўных.

ца апусьцелая карчма пад спажывецкае таварыства. Працу таварыства ён падымае на належную вышыню.

Над ганкам прыбіта шыльда з надпісам: „Гіраўскае спажывецкае таварыства імя вызваленьня Беларусі ад белапалякаў“.

**Шчырае прывітаньне барацьбітом за вызваленьне працоўных Заходняй Беларусі!**

# Сампрамкоопэрацыя Беларусі на пераломе

А. Рафальсон

## За баявыя тэмпы

У друку ўжо паведамлялася, што ход выкананьня прамфінпляну прамкоопэрацыі БССР у першым квартале бяг. гасп. году даў выкананьне гадавога пляну коопэраваньня ў арцелі ўсяго на 8,8 проц.

Стварылася вялікая пагроза невыкананьня пастановы ЦК УсеКП(б) аб перавыкананьні контрольных лічбаў прамкоопэрацыі на 1929-30 г.

Але ўжо 2-гі квартал 1929-30 г. дае нам значны пералом як у колькасных, таксама і ў якасных адносінах.

У той час, калі 1-ы квартал даў прырост коопэраваньня ў арцелі ўсяго на 1338 чал., за 2-гі квартал нанова ўцягнута ў арцелі сыстэмы промкоопэрацыі БССР 4041 чал.; такім чынам, за час з 1 кастрычніка 1929 г. па 1 красавіка 1930 г. лік членаў арцеляй, якія працуюць у агульных майстэрнях, узрос на 5379 чал., гэта дае выкананьне гадавога пляну коопэраваньня на 35,2 проц. Пералом ёсьць: 1-ы квартал даў 8,8 проц., а 2-гі квартал—26,4 проц.

За кошт чаго ішоў гэты рост?

З 5379 чал., нанова ўцягнутых у арцелі, 2076 прыходзяцца на гарады і 3303 чал. на мястэчкі і сельскія мясцовасьці.

Разьвіцьцё прамкоопэрацыі, такім чынам, ідзе ў адпаведнасьці з пастановамі партыйных і савецкіх органаў аб падняцьці эканомічнага добрабыту местачковай беднаты і ўцягненьні ў сыстэму бядняцкай і серадняцкай часткі вясковага насельніцтва.

Значны пералом мы маем у выкананьні промфінпляну ў частцы промыслаў, якія працуюць на мясцовай недэфіцытнай сыравіне. Зноў уцягнута ў арцелі недэфіцытных промыслаў за 2-гі квартал 2770 чал., пры 630 чал. у 1 квартале.

Такім чынам, лік членаў арцеляй, якія працуюць на мясцовай недэфіцытнай сыравіне, узрос за 1-е паўгодзьдзе 1929-30 г. на 3400 чал.; за гэты-ж час арцелі дэфіцытных промыслаў павялічыліся на 1979 чал.

Гэтыя паказальнікі гавораць нам аб тым, што пастанова ЦК УсеКП(б) аб перанясеньні цэнтраў цяжару работы прамкоопэрацыі на промыслы, якія базуюцца на мясцовай недэфіцытнай сыравіне, выконваецца.

Некаторы пералом мы маем таксама ў галіне намнажэньня ўласных сродкаў у сыстэме, 2-гі квартал даў прырост паявых узносаў у арцелях на 248 тыс. руб. супроць 140 т. р. у 1 квартале бягучага году.

Узрастаючыя тэмпы разьвіцьця прамкоопэрацыі БССР далі магчымасьць перагледзець прамфінплян на 2-е паўгодзьдзе бягучага году ў бок яго павялічэньня. На адбыўшайся ў маі м-цы ўсебеларускай нарадзе плянавых работнікаў прамкоопэрацыі плян коопэраваньня ў арцелі за 2-ое паугодзьдзе быў павялічаны на 7837 чал.; такім чынам, лік членаў арцеляй, працуючых у агульных майстэрнях, павінен узрасьці за 2-ое паўгодзьдзе на 17725 ч.

Ня гледзячы на пералом, мы маем буйны прарыў у дрэваапрацоўчай прамысловасьці. Апошняя ўзрасла за 1-е паўгодзьдзе 1929-30 г. на 921

чал., пры чым па прамфінпляну на 1929-30 г. намеркавана 4914 чал., выканана 18,7 проц.

Чым тлумачыцца гэткі прарыў у важнейшай галіне работы прамкоопэрацыі БССР?

Ня лічачы значнай урэзкі ВСНГБ заявак БКПС на лесасыравіну, мы маем самыя няўважлівыя адносіны Лесбелу да прамкоопэрацыі, што выяўляецца ў невыкананьні ўжо ўзятых на сябе абавязацельстваў па дагавору.

Вось факты.

Выкананьне Лесбелам дагавору на пастаўку сыстэме лесасыравіны складае за 1-е паўгодзьдзе ўсяго 30 проц., пры чым у некаторых галінах выкананьне складае 5-10 проц., і зусім ня дзіўна, што пры такім становішчы цэлы шэраг арцеляй былі прымушаны бязьдзейнічаць, а калі некаторыя і працавалі, дык выключна за кошт запасаў мінулага году, закупленых непасрэдна ад лесзагаў яшчэ да цэнтралізацыі забесьпячэньня і збыту.

Асаблівай ўвагі заслугоўваюць наступныя факты.

Арцелі сыстэмы Белсампрамсаюзу выпрацоўваюць паганялкі, неабходныя для тэкстыльнай прамысловасьці. Гэтыя паганялкі замяняюць імпорт, і вытворчасьць іх вядома мае вялікае значэньне.

У 1929-30 г. арцелі павінны выпрацаваць 1600000 паганялак. Аднак Лесбел настойваў: пастановы ВСНХ СССР для яго не закон. Выкананьне Лесбелам дагавору па забесьпячэньні сыравінай арцеляй, якія выпрацоўваюць паганялкі, складае за 1-е паўгодзьдзе 0 проц. і толькі пачынаючы з паловы красавіка, Лесбел пачаў патрохі забясьпечваць.

Цэлы шэраг галін дрэваапрацоўчага промыслу не разгортваецца з-за адсутнічаньня сыравіны. 30 лістапада 1929 г. Белсампрамсаюз зьвярнуўся да Лесбелу з просьбай прадаць пні для выпрацоўкі кляшчэй. Лесбел адмовіў. 11/XII мінулага году была пастанова ЭКОНА Бел аб поўным задавальненьні арцеляй Белсампрамсаюзу гэтай сыравінай. З-за адцяжкі ў вырашэньні гэтага пытаньня да апошніх чыслаў студзеня м-ца, гэты промысел ня быў дастаткова разгорнуты.

Не разгортваюцца з-за адсутнічаньня сыравіны арцелі па выпрацоўцы гонту; 10.000 к. м. драўніны, якія Белсампрамсаюз павінен быў атрымаць па дагавору (згодна пастановы ВСНГБ) Лесбелам ня былі адпушчаны. Зрываецца таксама разьвіцьцё бандарнага промыслу з-за адсутнічаньня сыравіны.

Вывад адзін: незабесьпячэньне сыравінай зрывае разьвіцьцё цэлага шэрагу існуючых і організацыю новых галін па дрэваапрацоўчым промысьле ў прамкоопэрацыі.

Вось конкрэтны прыклад:

Лесапільная арцель „Лесамлын“ (Гомельская акруга) налічвала 20 ч., арцель распалася, бо Лесбел у 1929-30 г. не даваў сыравіны. Колгас да сябе завербаваў завод. Для апошняга Лесбел знайшоў сыравіны. У сучасны момант гэта арцель знаходзіцца пры колгасе, не ўваходзячы ў сыстэму прамкоопэрацыі. Вось як Лесбел ацаніў значэньне прамысловай коопэрацыі.

Парушаны, такім чынам, пастановы дырэктыўных органаў аб захаваньні прамысловых арцеляй у раёнах колектывізацыі як самастойных.

Ёсьць яшчэ факты, якія перашкаджаюць разгортваньню дрэваапрацоўчага промыслу, але і прыведзеныя дастаткова яскрава гаворыць нам аб тых цяжкасьцях, якія стаяць перад прамысловай коопэрацыяй.

А між тым дырэктывы партыі і ўраду на гэты конт яскравыя і пэўныя. Асноўны ўпор сыстэма павінна трымаць на разьвіцьцё ў БССР у першую чаргу дрэваапрацоўчага промыслу.

Прыведзеныя факты роўным чынам тормозяць разьвіцьцё вясковага сэктару прамкоопэрацыі, бо дрэваапрацоўчы промысел разгортваецца, галоўным чынам, у сельскіх мясцовасьцях. Гэтым самым зрываецца выкананьне партыйных

дырэктыў аб уцягненьні бядняцкай і серадняцкай часткі вёскі ў прамысловую коопэрацыю.

Неабходна зламаць супраціўленьне лесбелаўцаў. Сыстэма прамысловай коопэрацыі павінна быць забясьпечана лесасыравінай на ўсе 100 проц. да колькасьці, прадугледжанай заключанымі дагаворамі.

---

2-ое паўгодзьдзе бягучага году павінна паслужыць экзаменам для сыстэмы прамкоопэрацыі БССР. Даволі сказаць, што за 2-ое паўгодзьдзе арцелі Белсампрамсаюзу павінны даць дзяржаве 35 міл. штук цэглы, і гэта ўжо прымушае сыстэму прыкласьці ўсе сваё сілы да таго, каб заданьне ўраду было ня толькі выканана на ўсе 100 проц., але і перавыканана.

Трэба дабівацца 100-процантнага забесьпячэньня сыравінай арцеляй Белсампрамсаюзу згодна з прамфінплянам. Трэба зламаць усе перашкоды, якія стаяць перад сыстэмай у адносінах выкананьня промфінпляну.

Шырока разгорнутыя соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў сыстэме значна дапамогуць выкананьню прамфінпляну як у колькасных, так і асабліва у якасных адносінах.

---

Б. С—н

## Становішча сыстэмы прамысловай коопэрацыі Беларусі ў 1930-31 годзе

Наступае пэрыод складаньня кантрольных лічбаў на 30-31 г. Кожная галіна народнай гаспадаркі прыступае ўжо да вызначэньня тых асноўных паказальнікаў колькаснага і якаснага парадку, якіх яна павінна будзе дасягнуць на працягу плянуемага 30-31 г. Ужо абрысованы, па куль орыентыровачна, асноўныя контуры таго касьцяку, вакол якога будзе напластоўвацца на працягу 30-31 г. цэлы шэраг паказальнікаў, кожнае галіны 3-га году пяцігодкі.

Прамысловая коопэрацыя Беларусі, зьяўляючаяся аднэй з асноўных галін народнай гаспадаркі і займаючая досыць значнае месца ў прамысловасьці Беларусі, а ў дробнай—амаль дамінуючае становішча, таксама вызначыла асноўныя свае шляхі, па якіх яна павінна будзе разьвівацца на працягу 1930-31 г.

Дробная прамысловасьць і асабліва тыя формы аб'яднаньня дробнай прамысловасьці, якія мы маем і будзем мець у прамысловай коопэрацыі, неабходны і на бліжэйшы адрэзак часу. Бясспрэчна, прамкоопэрацыя шмат год будзе разьвівацца яшчэ побач з прамысловымі гігантамі.

Пэрспэктывы разьвіцьця саматужнае прамысловасьці самыя шырокія. Колектывізацыя сельскай гаспадаркі аслабаняе вялізарную колькасьць рабочых рук у сувязі з палепшаньнем яе тэхнічнай базы, што стварае магчымасьць натуральнага пераходу іх на цэлы шэраг вытворчасьцяй, і рамесьніцтваў і высоўвае задачу скарыстаньня ўсіх нашых гіганцкіх рэсурсаў у мэтах яшчэ большага разгортваньня ўсяе нашае народнае гаспадаркі.

Разьвіцьцё прамкоопэрацыі, разьвіцьцё важнейшых рамесьніцтваў, абслугоўваючых сваёй продукцыяй розныя патрэбы працоўных, мае асабліва важнае значэньне для нашых нацыянальных рэспублік і вобласьцяй. Тут далёка ня вычарпаны ўсе магчымасьці, пэрспэктывы разьвіцьця вельмі вялікія.

Разгортваньне саматужна-прамысловай коопэрацыі набывае яшчэ значэньне ў зьмяншэньні беспрацоўя. Кладучы ў аснову ўсе пералічаныя моманты і дырэктывы ЦК УсеКП(б) ад 16/II г. г., Белсампрам-

саюз вызначыў асноўныя віткі свайго разьвіцьця на будучы 1930-31 г. Пасьля папярэдняй прапрацоўкі ў Белсампрамсаюзе асноўных пытаньняў па контрольных лічбах яны былі перанесены на абгаварэньне спэцыяльна скліканай нарады пляпавых працаўнікоў і членаў праўленьняў усіх акруговых саматужна прамысловых саюзаў з удзелам прадстаўніка Усекапрамсавету, а таксама прадстаўнікоў дзяржпляну БССР, ВСНГБ і белконторы дзяржбанку. На гэтай нарадзе, якая адбылася 16-21 мая г. г., былі прыняты і зацьверджаны наступныя асноўныя паказальнікі контрольных лічбаў на 1930-31 г.

1. Па коопэраваньні ў адным арцельным сэктары давесьці лік саматужнікаў з 41.190 чалавек на 1/X—30 г. да 80.015 ч. на 1/X—31 г., альбо на 94,3 проц.; у сярэдня-гадавых лічбах давесьці лік саматужнікаў у тым жа арцельным сэктары з 29.638 чал. у 29-30 г. да 60.600 ч. у 30-31 г., альбо на 204,4 проц.

2. Паасобна па дэфіцытных і недэфіцытных промыслах дынаміка коопэраваньня прадстаўляецца ў наступным відзе:

а) па промыслах, працуючых на дэфіцытнай сыравіне, давесьці лік коопэраваных з 16.080 ч. на 1/X—30 г. да 28.465 чал. на 1/X—31 г., альбо на 77 проц.; у сярэдня-гадавых лічбах па тых жа промыслах з 13.460 ч. на 1/X—30 г. да 22.270 ч. на 1/X—31 г., альбо на 67 проц.;

б) па промыслах, працуючых на мясцовай сыравіне, давесьці лік коопэраваных з 21.960 чалавек на 1/X—30 г. да 43.050 чалавек на 1/X—31 г., альбо на 96,0 проц.; у сярэдня-гадавых лічбах па тых жа промыслах з 14.358 ч. у 29-30 г. да 32 505 чал. у 30-31 г., альбо на 126,4 проц.;

в) урэшце, па трудавых (абслугоўваючых) промыслах давесьці лік коопэраваных з 3.150 чал. на 1/X—30 г. да 8.500 ч. на 1/X—31 г., альбо на 169,9 проц. у сярэдня-гадавых лічбах той жа рост ідзе з 1.822 чал. у 29-30 г. да 5.825 ч. у 30-31 г., альбо на 219,7 проц.

3. Удзельная вага групы промыслаў, працуючых на дэфіцытнай сыравіне ў агульным вытворчым сэктары, зьніжаецца з 42,3 проц. на 1/X—30 г. да 39,8 процантаў на 1/X—31 г., альбо на 2,5 проц. у сярэдня-гадавых з 48,4 проц. у 29-30 г. да 40,7 проц. у 30-31 г., альбо на 7,7 проц. Па промыслах, працуючых на мясцовай сыравіне, мы маем павялічэньне ўдзельнай вагі ў агульным вытворчым сэктары з 57,7 проц на 1/X—30 г. да 60,2 проц. на 1/X—31 г., павялічэньне на 2,5 проц.; у сярэдня-гадавых лічбах з 51,6 проц. у 29-30 г. да 59,3 проц. у 30-31 г.—павялічэньне на 7,7 проц.

Удзельная вага ўсіх трох груп промыслаў (дэфіцытных, недэфіцытных і трудавых) па адносінах да агульнага разрахунку коопэраваных у арцельным сэктары будзе зьмяняцца наступным чынам:

| Найменьне груп промыслаў | У канцы году: На 1/X—1930 г. | У канцы году: На 1/X—1931 г. | У канцы году: % росту + альбо — | Сярэдня-гадав.: На 1/X—1930 г. | Сярэдня-гадав.: На 1/X—1931 г. | Сярэдня-гадав.: % росту + альбо — |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дэфіцытныя | 39,0 | 35,6 | —3,4 | 45,4 | 36,8 | —8,6 |
| Недэфіцытн. | 53 3 | 53,8 | +0,5 | 48,4 | 53,7 | +5,3 |
| Трудавыя . | 7,7 | 10,6 | +2,9 | 6,2 | 9,5 | +3,3 |
| Разам . | 100 | 100 | — | 100 | 100 | — |

Коопэраваньне ў арцельным сэктары ў акруговым разрэзе прадстаўляецца ў наступным выглядзе:

| ДАТЫ | Гомель | Менск | Бабруйск | Мазыр | Магілеў | Віцебск | Ворша | Полацак | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1/X—30 г. . . . . . . . | 7681 | 8389 | 7139 | 4266 | 4975 | 3157 | 2809 | 2775 | 41191 |
| 1/X—31 г. . . . . . . . | 15490 | 15050 | 11720 | 9620 | 8900 | 6970 | 6580 | 6585 | 80015 |
| Рост у %% . . . . . . | 101,7 | 79,4 | 64,2 | 125,5 | 78,9 | 120,8 | 134,3 | 104,9 | 94,3 |

Калі да ліку коопэраваных саматужнікаў, членаў арцеляй, дадаць яшчэ саматужнікаў адзінак, якія зьяўляюцца членамі крэд. прам. т-ваў і якіх да канца 1930-31 г. застанецца, прыкладна, 15.500 чал., дык агульны лік коопэраваных саматужнікаў у сыстэме прамысловай коопэрацыі Беларусі на 1/X 1931 г. будзе роўна 95.515 чал.

Валавой продукцыі па арцельным сэктары прадугледжваецца выпусьціць на 130 млн. руб., што дасьць павялічэньне супроць 29-30 году на 125,3 проц., пры чым найбольшы рост продукцыі дадуць промыслы, працуючыя на мясцовай сыравіне.

На капітальнае будаўніцтва і мэханізацыю мяркуецца затраціць у 1930-31 г. звыш 3 млн. руб. пры максымальных капітальных укладаньнях у промыслы, працуючыя на мясцовай сыравіне (буд. матар'ялы, лесахэмічны і дрэваапрацоўчы промыслы, здабыча і апрацоўка мінэралаў і інш.).

Выходзячы з неабходнасьці падвышэньня вытворчасьці працы за лік увядзеньня падзяленьня працы, мэханізацыі працэсаў вытворчасьці, лепшага скарыстоўваньня рабочай сілы і ўшчыльненьня рабочага дню, мяркуецца давесьці ў будучым годзе зьніжэньне сабекошту да 10 проц., пры намнажэньні чыстага прыбытку ў 2¹/₂ проц. да сумы звароту, што складае 3.250 т. р.

Суму паявога капіталу ў арцельным сэктары прамкоопэрацыі Беларусі мяркуецца давесьці да канца 1930/31 г. да 6 млн. руб., што складзе ў сярэднім каля 75 руб. на аднаго члена арцелі.

Гэткія асноўныя паказальнікі з контрольных лічбаў прамысловай коопэрацыі Беларусі на 1930-31 г., якія прыдзецца ўсёй стотысячнай арміі коопэраваных саматужнікаў няўхільна, з усёй найстолівасьцю і энэргічнасьцю, праводзіць у жыцьцё на працягу 1930-31 году. Цяжкасьці ў далейшым вялікія. Часта працаўнікам цэнтру і месц прыходзіцца сустракаць непаразуменьні з боку розных гаспадарчых і ўрадавых організацый па лініі правядзеньня ў жыцьцё дырэктыў партыі і ўраду, якія зьвяртаюць у апошні час вялікую ўвагу на сыстэму прамысловай коопэрацыі ў шэрагу выдадзеных пастаноў. Многія не даўлічваюць усяе важнасьці існаваньня і далейшага разьвіцьця на даным адрэзку часу дробнай прамысловасьці, у тым ліку і прамысловай коопэрацыі, як дапаўненьне да буйнай дзяржаўнай прамысловасьці. Прамысловая коопэрацыя адыгрывае таксама вялікую ролю і ў сэнсе аб'яднаньня многіх тысяч раздробленых саматужнікаў у агульныя майстэрні, прывучаючы іх да колектыўнай працы, падымаючы іх політычны і культурны ўзровень і паляпшаючы іх агульны матар'льны добрабыт.

Прамысловая коопэрацыя пачынае набываць асабліва важнае значэньне і ў сэнсе садзейнічаньня колектывізацыі вёскі, абслугоўваючы яе сваімі рознымі відамі вытворчасьці, пачынаючы ад рамонтных абутковых майстэрняў і канчаючы вытворчасьцю дробных с.-г. машын, інвэнтару і іх рамонтам.

Хто ня хоча лічыцца з прамысловай коопэрацыяй, хто недаўлічвае яе ролю і значэньне, хто перашкаджае яе разьвіцьцю і далейшаму існаваньню, той узмацняе позыцыі клясавага ворага, тормозіць пасьпяховы ход колектывізацыі нашай вёскі.

Усе сілы—на разьвіцьцё і далейшы рост прамкоопэрацыі, на баявыя тэмпы ў рабоце, пасьпяховае выкананьне контрольных лічбаў на 1930-31 год і дырэктыў ЦК УсеКП(б).

Д. Раф-скі

# Да адказнасьці тых, хто зрывае выкананьне прамфінпляну

Вялікія задачы пастаўлены партыяй і ўрадам перад прамысловай коопэрацыяй БССР. 1929-30 г. павінен даць нам новых 2400 коопэраваных у арцельнае зьвяно сыстэмы.

Арцелі БССР дадуць дзяржаве ў 1929-30 г. на 57 мільёнаў рублёў гатовых вырабаў.

Задачы вялікія і адказныя.

Ускладзеныя задачы патрабуюць ад сыстэмы пераходу на новыя тэмпы работы, такія тэмпы, якія-б забясьпечылі ня толькі выкананьне, але і перавыкананьне прамфінпляну.

Напружаныя тэмпы работы прымушаюць усю сыстэму праводзіць акуратную і сваячасавую праверку выкананьня прамфінпляну. І зусім яскрава, што ва ўмовах асабіва вялікай увагі сыстэмы прамкоопэрацыі да пытаньня выкананьня прамфінпляну справаздачнасьць набывае выключна важнае значэньне.

Сваячасова ведаць слабыя месцы ў выкананьні прамфінпляну, сваячасова рэагаваць на маючыяся прарывы, зьяўляецца вялікай неабходнасьцю.

Між тым, становішча з справаздачнасьцю ў першым паўгодзьдзі бягучага году зьяўляецца зусім ненормальным.

Замест таго, каб штомесячна кароткатэрміновая весткі прысылаліся ў Сампрамсаюз да 8-га чысла, наступнага за справаздачным месяцам, мы маем такое становішча, што ў канцы мая месяца яшчэ паступаюць карткі за студзень, люты і сакавік месяцы.

Становішча яўна ненормальнае.

Нашы арцелі зусім забываюць, што гэтыя карткі зьяўляюцца адзіным матар'ялам для праверкі выкананьня прамфінпляну,

У гэты-ж час па дзяржаўнай прамысловасьці ўстаноўлена 5-дзённая і дэкадная справаздачасьць пры сваячасовым прадстаўленьні памянёных справаздач прадпрыемствамі ў свае трэсты.

Вывад адзін; у наяўнасьці самыя нядбайныя адносіны арцеляй да сваіх абавязкаў па прысылцы справаздачнасьці

Вось тыя арцелі, якія сыстэматычна не прысылаюць справаздачы і тым самым зрываюць выкананьне прамфінпляну:

1. Тэхнахэмічная арцель „Вперед“ (г. Менск) з сакавіка месяца не прысылала справаздачы.

2. Арцель гузікаў імя Фрунзэ (г. Менск), пачынаючы з новага 1929-30 гаспадарчага году, ня прыслала ніводнае карткі.

3. Шавецкая арцель імя Г. Лекерта (г. Барысаў) з новага 1929-30 г. ня прыслала ніводнай справаздачы.

4. Шавецкая арцель „Зорка“ (г. Ворша) з сьнежня месяца ня прыслала ніводнай карткі.

5. Мэблевая арцель „Усход“ (г. Бабруйск) з новага 1929-30 гасп. году ня прыслала ніводнай карткі.

Ёсьць яшчэ арцелі, якія зрываюць прамфінплян. Аб іх у наступны раз. Справаздачнасьць у раённых арцелях пастаўлена яшча горш. Сыстэма прамысловай коопэрацыі БССР не павінна дапусьціць зрыву праверкі выкананьня прамфінпляну.

Патрэбна будзе прыцягнуць да адказнасьці тых кіраўнікоў арцеляй, хто няпрысылкай справаздач зрывае работу.

Выкананьне прамфінпляну і справаздачнасьць у арцелях трэба ўзяць пад контроль саматужнага мясцовага актыву.

**І. Аўрунін**

# Пералом у працы

Апошняя пастанова аб прававым становішчы саматужнікаў зьяўляецца скасаваньнем тае розьніцы, якая мела месца паміж працаўнікамі дзяржаўнай прамысловасьці і працаўнікамі саматужнай прамысловасьці. На падставе гэтай пастановы кожны саматужнік ад варштату нясе тую адказнасьць, якая на яго ўскладаецца. Гэтая пастанова павінна даць палепшаньне і павялічэньне як інтэнсыўнасьці, гэтак і рацыяналізацыі, ў кожным руху працаўніка.

Улічваючы ўсе гэтыя моманты, Усекоопрамсавет зьмяніў цалкам імпэт коопэраваньня саматужнікаў. Вельмі цікавыя гэтыя лічбы, якія падставай сваёй маюць аднача-сова і гаспадарчыя і палітычныя моманты. Кожная з гэтых лічб гаворыць сама за сябе, у які малюнак высьветліцца ў бліжэйшы пэрыод саматужная коопэрацыя.

Возьмем, напрыклад, лічбы коопэраваньня саматужнікаў па Беларусі: на 1/X-30 г. мяркуецца коопэраваць 33 тысячы саматужнікаў. На 1/X—31 г. мяркуецца, каб коопэраваньне было павялічана, і колькасьць саматужнікаў дайшла да 87 тысяч, гэта значыць павялічэньне на 54 тыс. Такім чынам, мы бачым, што ўсяго за 5 год існаваньня саматужнай коопэрацыі ў Беларусі коопэравана 33 тыс., а ў адным наступным годзе мяркуецца коопэраваць 54 тыс., што складае павялічэньне на 170 проц. больш, чым за 5 год.

У далейшым саматужная прамысловасьць Беларусі будзе разгортвацца, галоўным чынам, на недэфіцытнай сыравіне мясцовага характару, што дасьць вялікі пералом у працы. Так, замест таго, што на 1/X—30 г. лік арцеляй, працуючых на недэфіцытнай сыравіне, будзе складаць 49,5 проц., у будучым годзе мяркуецца, каб арцелі, працуючыя на мясцовай сыравіне, займалі 58 проц. Мяркуецца коопэраваць у Беларусі ў наступным годзе 18875 саматужнікаў, працуючых на дэфіцытнай сыравіне, а на мясцовай сыравіне—35125 саматужнікаў.

Па Гомельскай акрузе мы бачым наступныя лічбы: на 1/X—30 г. усяго коопэраваны будуць 7868 саматужнікаў, а на 1/X—31 г. мяркуецца коопэраваць 15078 саматужнікаў, павялічэньне на 93 проц. Па дэфіцытнай сыравіне павялічэньне на 4225 чалавек, або на 80 проц., а па недэфіцытнай сыравіне—на 10853 саматужніка, або павялічэньне на 101 проц.

Акрамя гэтага, асабліва зварачвае на сябе ўвагу мяркуемы Усекоопрамсаветам паварот працы саматужнай коопэрацыі ў Беларусі тварам да вёскі. У гэтай галіне працы Гомельскай акругай прадугледжана сваячасовае павялічэньне. На наступны год яно выяўляецца ў такім парадку: павялічэньне на 122 проц.: у горадзе—на 61 проц., а па мястэчку—на 70 проц.

Азнаёміўшыся з гэтымі лічбамі, трэба спадзявацца, што Сампрамсаюзу прыдзецца перабудоўваць сваю працу так, каб павялічыць коопэраваньне на вёсцы на 122 проц. і выпрацоўку на мясцовай сыравіне на 101 проц.; сучасным мэтодам і апаратам зрабіць гэтага нельга будзе.

Каб лепей правесьці працу па мяркуемых мерапрыемствах, трэба будзе, галоўным чынам, захоўваць крэдпрамтаварыствы па акрузе, прычым пры кожным таварыстве вылучыць пасаду ўпаўнаважанага Сампрамсаюзу, які-б выконваў працу па коопэраваньні на вёсцы, робячы абсьледваньні спэцыфічнасьці кожнага раёну. Пры такім парадку трэба лічыць, што ўсе мяркуемыя лічбы па коопэраваньні і павялічэньні продукцыі недэфіцытнай сыравіны будуць рэальныя.

С. Томчын

# Вытворчасьць будаўнічых матар'ялаў

Вытворчасьцю будаўнічых матар'ялаў беларуская прамкоопэрацыя дагэтуль амаль што не займалася; вытворчасьць гэта існавала па асобных саюзах: у Гомелі, Магілеве і Бабруйску (яшчэ пачыналі некаторыя іншыя саюзы). Усяго было выпушчана ў 1928-29 годзе 10.600.000 шт. цэглы.

У 1929-30 годзе на коопэрацыю БССР ускладзена задача—выробляць 35.000.000 шт. цэглы. Колькасьць гэта разьмеркавана па наступных саюзах: па менскаму саюзу —2.500.000 шт. цэглы, віцебскаму—3.870.000, гомельскаму—10.000.000, бабруйскаму—4.100.000, магілеўскаму—7.000.000, аршанскаму--3.000.000, полацкаму—2.500.000 і мазырскаму—2.030.000 шт. цэглы.

Паказаная колькасьць павінна быць выраблена да I/XI 1930 г. Тая колькасьць, якая будзе выраблена пасьля гэтага тэрміну, будзе зьверх прынятага пляну. Трэба мець на ўвазе, што такая програма для першага году зьяўляецца вялікай. Але, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, програма будзе выканана да вызначанага тэрміну.

Меліся і нават яшчэ дагэтуль маецца шмат перашкод у пабудове цагляных заводаў. У шмат якіх мясцох не адводзяць вучасткаў, не хапае цьвікоў і лесаматар'ялаў, і ўсе гэта не магло не адбіцца на сваячасовым выпуску цэглы.

Апрача гэтага, у гэтым годзе прамкоопэрацыя прыступіла да выпрацоўкі бэтоннага вырабу шляхам прыняцьця часткі агнятрывалых таварystваў, якія былі да гэтага часу ў сельска-гаспадарчай сыстэме і не ўвайшлі ў колгасы, а таксама шляхам організацыі арцеляй.

У працягу гэтага году арцелямі мяркуецца вырабіць чарапіцы цэмэнтна-пясочнай—3.080.000, кругоў студнёвых—7.500 шт. каменьняў пустацелых—51.000 шт., чарапіцы ганчарнай—каля 500.000 штук.

Чарапіца выпрацоўваецца ў БССР амаль што выключна пясочна-цэмэнтная, але мала выробляецца ганчарная. Наогул выраб чарапіцы мае вялікія пэрспэктывы. Недахоп дахавага жалеза для будаўніцтва выклікае неабходнасьць максымальнага вырабу чарапіцы. Замест цэмэнтнай, патрэбна організаваць выраб ганчарнай чарапіцы. Ганчарная гліна маецца ў БССР у дастатковай колькасьці, таму, акрамя дзяржаўных заводаў, павінны быць пабудаваны і коопэрацыйныя заводы. Калі дзяржаўныя заводы будуюцца выключна для вырабу чарапіцы, дык на заводах прамкоопэрацыі можна выробляць чарапіцу і апальваць у цагляных печах. Праўда, пры вырабе чарапіцы будзе менш выраблена, цэглы але гэта нічога, бо за гэты кошт трэба будзе пабудаваць яшчэ некалькі печаў.

Пытаньнем вырабу чарапіцы, на жаль, яшчэ мала займаліся. Усе агнятрывалыя т-вы якія былі ў сыстэме сельска-гаспадарчай коопэрацыі, выраблялі амаль што ўсюды цэмэнтную чарапіцу: яна выробляецца лягчэй і не патрабуе вялікіх выдаткаў. Таксама мала займаўся гэтым пытаньнем горны сэктар ВСНГБ. Гэты недахоп павінен быць выпраўлены. Гэтым пытаньнем патрэбна чым найхутчэй заняцца ў працягу гэтага лета. Трэба заняцца вывучэньнем пытаньня, дзе маюцца вялікія паклады ганчарнай гліны, каб мець магчымасьць увосень 1930 г. альбо з раньняй вясны 1931 году прыступіць да пабудовы заводаў.

У працягу ліпеня і жніўня месяцаў Белсампрамсаюз павінен распрацаваць плян пабудовы новых цагляных заводаў і пашырэньня існуючых. Калі плян пабудовы ў хуткім часе будзе гатовы, дык саюзы

будуць мець магчымасьць приступіць зараз-жа да пабудовы заводу. У працягу зімы неабходна нарыхтаваць лесаматар'ял, а з пачатку вясны закончыць пабудову заводу. Увосень патрэбна будзе загатовіць цэглу для печаў.

У гэту-ж зіму трэба будзе арганізаваць максымальны выраб цэглы, каб да пачатку будаўнічага сэзону мець пэўную колькасьць яе.

Пры такой плянавай рабоце мы можам быць упэўнены ў тым, што выраб цэглы па пляну ў колькасьці 7.000.000 штук будзе выкананы.




Калі работа пачнецца зараз-жа, дык у будучым годзе мы будзем мець магчымасьць выпусьціць гатовую цэглу ў пачатку мая альбо раней. У гэтым годзе наша першая цэгла ад новых заводаў будзе толькі ў большасьці выпушчана ў другой палове чэрвеня, таму што будаўніцтва пачалося ў красавіку месяцы.

Трэба зьвярнуць увагу на тое, што ўся гэта вялізарная работа вядзецца бяз тэхнічнай дапамогі і агляду, з прычыны чаго будуюцца заводы ня гэтак, як трэба. Маецца шмат браку.

Пытаньне аб тэхнічным кіраўніцтве таксама павінна быць у хуткім часе вырашана.

---

**Д. Катляроў**

## Плян улову павінен быць выкананы

Для ўрэгуляваньня пытаньня рыбнай гаспадаркі ў БССР пастановай ЭКОНА ўсе рыбныя арцелі, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, перададзены нашай сыстэме, з красавіка месяца г. г. уключаны ў агульную сыстэму прамкоопэрацыі і афармлены, як спэцыяльныя рыбныя сэкцыі пры БКПС. На 1-е красавіка было 10 арцеляй з 354 чал., а зараз, па няпоўных дадзеных, на 1-е мая мы ўжо маем 82 арцелі з 1266 чал., што можа пацьвердзіць наступная таблічка:

| | | |
|---|---|---|
| Па гарадох БССР . | 5 арц. | 82 рыбаловы |
| „ мястэчках . . | 9 „ | 122 „ |
| „ вёсках . . . . | 68 „ | 1062 „ |
| Усяго . | 82 арц. | 1266 рыбалов |

Вышэйадзначаныя рыбаловы— члены арцеляй нашай сеткі атрымоў-

ваюць спэцвопратку: па пары ботаў, рукавіцы, хвартухі і г. д. Яны, бязумоўна, павінны быць прыроўнены да членаў іншых арцеляй, на якіх распаўсюджваецца апошняя пастанова Саюзнага Саўнаркому. Белсампрамсаюзу ўдасца скласьці вакол сябе здаровае ядро рыбаловаў, пры дапамозе якіх магчыма будзе разьвязаць неадкладную і баявую задачу сёньняшняга дня па ахопу рыбнага промыслу Беларусі. Патрэбна спыніцца на адсутнасьці жаданьня ў некаторых кіраўнікоў акруг садзейнічаць найлепшаму—стопроцантнаму выкананьню намечаных контрольнымі лічбамі пляну ўлову. Акрвыканкомы, райвыканкомы ня толькі не дапамагаюць у працы, але часта сваёй работай перашкаджаюць працы і тым самым ставяць пад пагрозу выкананьне пляну ўлову. Прыкладаў вельмі шмат. Для ілюстрацыі возьмем апошнюю тэлеграму з Жлобіна якая сыгналізуе нам аб магчымым зрыве пляну па віне кіраўнікоў данага раёну.

Старшыня жлобінскага с/савету Чарвяк, старшыня комітэту ўзаемадапамогі Фінкельштэйн, старшыня жлобінскага колгасу Ярон, загадчык пажарнай часткаю Гальшчук, заг. вайсковым сталом РВК, упаўнаважаны Белрыбы Робкін, прыватнаўласьнік невадаў Марозаў і служачыя сельгаставарыстваў, замест дапамогі рыбаловам, садзейнічаньня стопроцантнаму выкананьню пляну, контролю над работай паасобных арцеляй, самі ігнаруюць дырэктывы, перашкаджаюць рыбаловам займацца сваёй працай. Такія-ж весткі мы атрымоўваем і ад некаторых іншых акруг БССР. Такое зьявішча далей працягвацца ня можа і не павінна. Акрамя таго, Белрыба, як новая і маладая організацыя, не пасьпела яшчэ дасканальна вывучыць рыбны промысел БССР, ня ведае і ня вывучыла вадазборы Беларусі, распаўсюджвае на Беларусь астраханскую пуціну (орыентыровачны ўлоў рыбы), тым самым часткова ўводзіць у блытаніну ня толькі прамкоопэрацыю, але і рэгулючыя органы БССР. Як бы там ні было, нам неабходна дабіцца пералому ў данай справе. Вызначаныя контрольныя лічбы ў 30.000 цэнтнэраў рыбы павінны быць выкананы.

Маючыяся ў нас лічбы па становішчу ўлову на 1-е чэрвеня сыгналізуюць аб тым, што ўлоў толькі выканан на 24,6%.

Неабходна ў самы кароткі тэрмін дамагчыся пералому ў рабоце кіраўнікоў і адказных работнікаў акругі і месц. Неабходна ў самы кароткі тэрмін распрацаваць контрольныя лічбы па рыбнай сэкцыі БКПС, давёўшы апошнія да кожнага паасобнага рыбалова.

Нашы задачы: весьці шырока культурна-масавую, выхаваўчую працу сярод рыбаловаў, пунктуальна і яскрава разьмежаваць функцыі паміж Белрыбай і БКПС, распрацаваць і вывучыць вадазборы Беларусі шляхам частых вытворчых нарад, вывучаць рыбныя багацьці і тым самым конкрэтызаваць лічбы прамфінпляну і адпаведнымі тэмпамі ўключыцца ў агульнае кола соцыялістычнага будаўніцтва нашай краіны, увесьці ў сыстэму прэм'яваньне за найлепшае мерапрыемства па рацыяналізацыі рыбнага промыслу, за кожную каштоўную прапанову і г. д.

Наша сыстэма можа і павінна разгарнуць гэты промысел, яна гэта зробіць пры сумесным і непасрэдным удзеле ўсяе нашай грамадзкасьці, усіх рыбаловаў, аб'яднаных у арцельныя сэкторы нашай сыстэмы, пры поўным садзейнічаньні мясцовых організацый нашай рэспублікі.

# Коопэрацыя за мяжой

Карл Бітэль

## Гаспадарчы цэнтраль нямецкіх спажывецкіх таварystваў

Гуртавое таварыства нямецкага спажывецкага саюзу (GEG) у Гамбурзе публікуе зараз сваю 36-ю справаздачу. У 1929 г. зварот перавысіў палову мільярду марак. Гаспадарчы цэнтраль спажывецкага рабочага саюзу гэтым дасягнуў значнага разьмеру і ўзмацніў тэмп тавараскае концэнтрацыі цэтральных закупак, а таксама ўласнае продукцыі, бо ў той час, як належныя спажывецкія саюзы далі падвышэньне звароту на 10,5 проц. (да 1,24 мільярдаў марак), падвышэньне ў GEG дасягае 12,83 проц., а ва ўласнай продукцыі нават 18,37 проц.

GEG дарасла да сёньняшняга вялізарнага становішча з вельмі нікчэмных пачаткаў і пры найцяжэйшых умовах. Заснаванаму ў 1893 г. у Лейпцыгу опозыцыйна настроенымі рабочымі спажывецкімі саюзамі GEG прыходзілася весьці цяжкую барацьбу з рэакцыйнымі таварыствамі буржуазіі. Толькі ў 1900 г. зварот перавысіў 15 млн., у 1911 зварот дасягнуў 100 млн., у 1914—157млн., у 1919–1923 г. зварот зьнізіўся да 71 млн. Потым моцная крывая разьвіцьця ідзе бязупынна да 500 млн. звароту.

З дакладных лічбаў 501.378.122 маркі гадавога звароту за 1929 г. 75 проц. прыходзіцца на гандлёвую дзейнасьць: на гуртавыя закупкі для 1000 спажывецкіх саюзаў і на 3 млн. для іх сяброў. Да гэтага далучаюцца яшчэ 25 проц. уласнае продукцыі, якія былі прадстаўлены спажывецкім саюзам. Зараз становішча GEG такое: з кожных 100 марак звароту 40 знаходзіцца ў мясцовым спажывецкім саюзе, 35 марак атрыманы ад GEG і чвэрць пры гэтым нават продуцыравана ўласнымі сродкамі. Калі яшчэ ўзяць пад увагу розьніцу паміж закупнай і продажнай цаной, а таксама той факт, што спажывецкія саюзы маюць 25 проц. уласнай продукцыі, дык высьветліцца, як далёка ўжо выцесьнена прыватная гаспадарка з коопэрацыйнай гаспадаркі.

Прыведзеныя ніжэй дадзеныя сьведчаць аб відах і колькасьці тавараў, а таксама аб процантным падвышэньні ў параўнаньні з папярэднім годам:

| Віды тавараў | Колькасьць | Падвышэньне ў параўнаньні з 1928 г. (у проц.) |
|---|---|---|
| Мука, хлеб, збожжа . . | 1922764 падвойныя цэнтнэры | 17,47 |
| Бульба . . . . . . . | 27800000 кгр. | 40,00 |
| Марожанае мяса . . . | 9874692 кгр. | — |
| Маргарынавае масла . . | 33237000 кгр. | 7,66 |
| Масла . . . . . . . . | 10800000 кгр. | 27,40 |
| Селядцы . . . . . . . | 57000 тон | 14,00 |
| Сьвежая рыба . . . . | 2233000 кгр. | 28,00 |
| Рыс . . . . . . . . | 7706000 кгр. | 1,20 |
| Сьвежая гародніна . . . | 6800000 кгр. | 67,00 |
| Кава . . . . . . . . | 73175 пакаў | 15,00 |
| Цукар . . . . . . . . | 886000 падвойныя цэнтнэры | 7,40 |
| Тэкстыльны і шавецкі тавар . . . . . . . | на 24,6 млн. марак | 9,98 |
| Хатнія прылады . . . | на 10,1 млн. марак | 11,24 |

Гэтыя лічбы таму асабліва вельмі цікавыя, што яны даюць уяўленьне аб тым, які магутны тавараабмен з таварыствамі Савецкага Саюзу маглі-б мець нямецкія спажывецкія таварыствы, калі-б нямецкія правадыры іх ня былі ахоплены моцным антыбальшавізмам, з-за якога для іх немагчыма інтэнсыўная, дзелавая сувязь. Тут трэба клясава-сьвядомым рабочым сябром нямецкіх спажывецкіх таварыстваў унесьці як найхутчэй зьмены.

Уласнай продукцыі GEG вырабіла на 123,88 млн. марак тавараў; гэта, як мы ўжо казалі, ёсьць чвэрць усяго звароту, з іх на 90,24 млн. марак—харчовых спажыўных тавараў, на 28,03 млн.—рэчаў першае неабходнасьці і на 5,62 млн. тэкстылю.

Пералічым найгалоўнейшыя галіны продукцыі:

| Прадпрыемствы | Колькасьць | Вартасьць продукцыі |
|---|---|---|
| Млын (Магдэбург) . . . . . . . . . . | 736997 падв. цэнтн. | 21,98 млн. марак |
| Завод цеста (Рыза-Грэба) . . . . . . . | 5,62 млн. кгр. | 5,49 " " |
| 6 мясных заводаў . . . . . . . . . . | 11,94 " " | 24,68 " " (+41 проц.) |
| Рыбны завод Альтона . . . . . . . . | 3,87 " " | 3,42 " " |
| Чоколядны завод (Гамбург) . . . . . . | 3,57 " " | 7,33 " " |
| Саладовы " (Хэмніц) . . . . . . . | 6,61 " " | 4,84 " " (+47 проц.) |
| Консэрвавы " (Стэндаль) . . . . . . | 8,37 " " | 6,68 " " (+43 проц.) |
| (Вучастак на гародніну і садавіну) . . . | 1275 моргаў | |
| Завод харчовых продуктаў у Магдэбурзе . | 380000 запаковак | |
| | 555000 кгр. нэто | 2,22 проц. |
| Гарчычны завод (Хэмніц) . . . . . . . | 1,69 млн. кгр. | 1,01 " |
| Тутуновыя заводы . . . . . . . . . | — | 15,06 " |
| 2 мылаварні . . . . . . . . . . . . | 19,87 млн. кгр. | 15,78 " |
| Хэмічны завод . . . . . . . . . . . | 27,14 " пакунк. | 4,73 " |
| 2 запалкавыя фабрыкі . . . . . . . . | 20690 нормальн. цыбік. | 4,03 " |
| Шчотачная фабрыка . . . . . . . . | (360) 2,9 млн. штук | 1,46 " |
| Драўляная індустрыя . . . . . . . . | (абсталяваньне крам) | 2,82 " |
| Фабрыка зрэб'я . . . . . . . . . . | 2,79 млн. штук | 0,92 " |
| " адзеньня . . . . . . . . . . | 415500 штук | 2,78 " |
| Саксонская фабрыка адзеньня (Дрэздэн) . | 49400 гарнітураў | } 3,68 " |
| " " абутку ( " ) . | 157000 п. абуткаў | |

Агульны лік рабочых і служачых, занятых на працы ў GEG і яго прадпрыемствах, складаўся з 7446 чалавек, пры гэтым 5660 чалавек працавалі па вырабе продукцыі. Пэнсій і коштаў уплочана за год 18,3 млн. марак.

Акрамя цэнтралю ў Гамбурзе, існуюць яшчэ 6 закупніцкіх контор: 4—у краіне (Магдэбург, Мюнхэн, Стэндаль, Брэмэн) і 2—за мяжой (Будапэшт і Ротэрдам). Цэнтральныя склады ў Нямеччыне былі на кошце GEG. Закупкі з боку спажывецкіх саюзаў робяцца ў так званых закупніцкіх аб'яднаньнях, якіх налічваецца 56; мелі яны разам 848 закупніцкіх дзён.

Банкаўскае аддзяленьне GEG, якое выконвае функцыі тварыскага банку, мела агульнага звароту на 3,38 мільярдаў марак. Пераводныя (індосамэнтныя) опэрацыі па кнігах дасягалі 1 мільярду марак. Банкаўскіх укладаў, галоўным чынам ашчадкасавых сяброў таварыства, было да 139 млн. марак.

З балянсу варта адзначыць яшчэ наступныя лічбы: асноўны капітал складае 25 млн. марак, рэзэрвавы (пры 501 млн. звароту)—17,6 млн., банкаўскія ўклады—137,5 млн. і крэдыторскія—33,7 млн. марак, На старонцы прыбыткаў: банкаўскі актыў, вэксалі і каштоўныя паперы—на 102 млн. марак, наяўны тавар—на 23 млн., дэбіторскія сродкі—на 54 млн., будынкі і зямельныя вучасткі (дзеленыя)—на 30 млн., машыны і інвэнтар—на 3,4 млн. марак. Гуртавы прыбытак паказваў 29 млн. марак, з якіх 4,95 міл. перавышкі.

Само сабой зразумела, што колёсальныя лічбы GEG бляднеюць, калі мы разглядалі пытаньне аб вялікім удзеле таварыстваў у агульным гандлі Нямеччыны. У адзіночным гандлі лічаць 36 мільярдаў звароту, між тым звароты таварыстваў складаюць толькі невялічкую частку, ня гледзячы на тое, што 19,31 проц. нямецкіх хатніх гаспадарак ужо арганізаваны у таварыствы. Магутны Карштацкі концэрн капіталістычнага гандлю праз таварыствы ёсьць неразумная ілюзія; усё-ж спажывецкія рабочыя саюзы пабудавалі магутныя гаспадарчыя прадпрыемствы. Пад кіраўніцтвам клясава-сьвядомых правадыроў таварыствы маглі-б зрабіцца каштоўнымі апорнымі пунктамі рабочага руху; пад кіраўн. жа рэформісцкай таварыскай бюрократыі яны выраджаюцца ў чыста гандлёвыя прадпрыемствы, якія страцілі ўжо кон-




у 1929-30 г. меў зваротнага капіталу кліентаў на 328,8 млн. без унівэрсальных крам, якія маюць зварот у 75 млн. марак. Увогуле можна лічыць, што нямецкія ўнівэрсальныя магазыны маюць на 20 проц. больш звароту, чымся спажывецкія таварыствы, рэшта прыходзіцца на спэцыяльны гандаль.

Нарэшце, не гаворачы аб тым, што тэорыя гаспадарчай дэмократыі і тэорыя выціськаньня прыватнатакт з клясавай барацьбой і, ня гледзячы на сваю велічыню і моц, ня могуць, напрыклад, паказаць сілы ў барацьбе супроць галоднай палітыкі ўраду і самі балюча па крыўджаны мытнай і падатковай палітыкай.

Прыметна дзелавое разьвіцьцё нямецкага таварыскага руху выклікае неабходнасьць, каб клясава-сьвьдомая частка рабочых лепш паклапацілася аб таварыствах.

# Падрыхтуем новыя кадры

Л—ская

## Каго мы вучым

Комуністычная партыя за апошні час зварочвае асаблівую ўвагу на падрыхтоўку кадраў з рабочых, батракоў і сялян-беднякоў, бо савецкі і асабліва коопэрацыйны апарат засьмечаны быў былымі гандлярамі, бюрократамі, растратчыкамі і г. д.

Як выконвае дырэктыву партыі аб падрыхтоўцы кадраў Белкоопсаюз?

Толькі ў 1928 годзе пачаў працаваць пры Белкоопсаюзе цэлы шэраг кароткатэрміновых курсаў.

У 1928-29 годзе былі наладжаны курсы: 1) жаночага актыву, 2) кніжных працаўнікоў, 3) разьнікоў, 4) пропагандыстых, 5) інструктароў, 6) кіномэханікаў. Скончылі гэтыя курсы 175 асоб, з іх—71 жанчына.

У 1929-30 г. адбыліся наступныя курсы: 1) 5-месячныя батрацка-бядняцкія, 2) жаночага актыву, 3) па хлебапячэньні.

Яшчэ не закончылі свой курс: 1) курсы загадчыкаў сталовых, 2) 5-месячныя батрацка-бядняцкія 2-га скліканьня, 3) кіномэханікаў, 4) па падрыхтоўцы ў БДзУ, 5) кніжных працаўнікоў, 6) інструктароў і 7) радыётэхнікаў.

На чарзе: 1) курсы плянавікоў-статыстыкаў, 2) старшынь праўленьняў і 3) ільнозагатавіцеляў і інш.

Праз 7 курсаў у 1929-30 г. прайшло 235 чал., з іх—103 жанчыны.

| Соцыяльны склад курсаў: | 1928-29 г. | 1929-30 г. |
|---|---|---|
| Рабочых . . . . . . . | 58 | 84 |
| Батракоў і с.-г. рабочых. | 131 | 102 |
| Беднякоў . . . . . . . | 31 | 33 |
| Серадняков . . . . . . | 5 | 6 |
| Служачых . . . . . . . | 46 | 10 |
| Саматужнікаў . . . . . | 4 | — |
| Партыйны склад курсаў: | | |
| Членаў і кандыд. КП(б)В | 47 | 81 |
| Членаў ЛКСМБ . . . . | 92 | 94 |
| Беспартыйных . . . . . | 36 | 60 |

Паказаныя лічбы кажуць аб тым, што дастатковы лік рабочых і батракоў, якія ўліліся ў коопэрацыйны апарат, заменяць людзей няпрыгодных для коопэрацыйнага апарату.

Трэба трохі спыніцца на тых недахопах, якія перашкаджаюць працы курсаў.

1. Няма сталага памяшканьня для інтэрнату і заняткаў, дзякуючы чаму прыходзіцца плаціць вялікія грошы за гасьцініцу і арэнду; акрамя таго, курсы раскіданы па ўсім горадзе.

2. Няма сталых выкладчыкаў, асабліва па коопэрацыйных дысцыплінах, і для выкладаньня прыходзіцца скарыстоўваць працаўнікоў БКС і МЦРК і часта прыстасоўваць курсы да выкладчыкаў, а патрэбна было-б наадварот; бываюць выпадкі зрываў дзякуючы перагрузцы некаторых выкладчыкаў і г. д.

3. На рынку часта адсутнічаюць падручнікі, асабліва па коопэрацыйных дысцыплінах, ня толькі ў Менску, але нават і ў Маскве, гэта не дае магчымасьці курсантам добра прапрацоўваць заданьні.

Вось гэтыя тры галоўныя недахопы не даюць магчымасьці наладзіць працу курсаў.

Неабходна яшчэ адзначыць, што з боку ЦРК і асабліва райсаюзаў заўважаюцца нясур'ёзныя адносіны да пасылкі таварышоў на курсы. Падбор робіцца абы-як. Пры вылучэньні на курсы не зварочваюць увагі на тое, ці магчыма будзе скарыстаць пасьля скначэньня імі курсаў таго ці іншага батрака на адпаведнай працы, у выніку бываюць часта выпадкі, калі мала ўвагі зварочваюць на тых батракоў і беднякоў, якія канчаюць курсы; не скарыстоўваюць іх, як належыць, і не аказваюць ім дапамогі ў іх практычнай працы.

М. Чавускі і А. Чумак

# Проблема кадраў спажывецкай коопэрацыі

Правядзеньне пяцігадовага пляну социялістычнага будаўніцтва, нябачаны ва ўсім сьвеце тэмп індустрыялізацыі народнай гаспадаркі, бурны рост соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі патрабуюць ад кіруючых кадраў спажыўсыстэмы палітычна-клясавай баяздольнасьці і ўменьня ажыцьцяўляць у сваёй практычнай рабоце генэральную лінію партыі.

Сучаснае становішча кадраў спажыўкоопэрацыі характарызуецца значнай засьмечанасьцю соцыяльна-чужым, разлажыўшымся і бюрократычным элемэнтам, які няздолен зьвязацца з шырокімі коламі пролетарскіх мас, дапускае ў практыцы работы скажэньні партыйна-клясавай лініі, сувязь з прыватнікам. У сыстэме мелі месца цэлы шэраг палітычна-гаспадарчых прарываў, шкодніцтва. Сярод кіруючых кадраў зусім нязначна рабочая праслойка: на 1/I—30 г. па спаж. т-вах—39,2 проц., па райсаюзах і аддзяленьнях—20,4 проц., па ЦРК—32,9 проц., па БКС—16,9 проц.

Невыстарчальны процант жанчын; слаба палітычная і агульная падрыхтоўка і кваліфікаванасьць наяўных кадраў, значны недахоп новых кваліфікаваных працаўнікоў, у сувязі з шпаркімі тэмпамі соцбудаўніцтва, рэорганізацыяй сыстэмы і яе апаратаў, разгортваньнем сеткі, пераходам на бесьперапынку, разьвіцьцём шэрагу новых галін працы на вёсцы (кіно, радыё, бытавая праца, кніга, хлебапячэньне, грамадзкае харчаваньне) і ўзмацненьнем абслугоўваньня соцсэктару.

Такое становішча са ўсёй вастратой ставіць перад спажыўсыстэмай вялізарнай палітычнай важнасьці проблему кадраў, якая можа быць вырашана шляхам ачышчэньня апаратаў ад соцыяльна-чужых элемэнтаў. Гэта патрабуе вылучэньня ў апараты ўсяе спажыўсыстэмы рабочых ад варштату, батракоў, таксама беднякоў і колгасьнікаў шляхам падрыхтоўкі з іх новых кадраў, якія змогуць цьвёрда, чотка праводзіць генэральную лінію партыі ва ўсёй практычнай рабоце.

За апошнія два гады сыстэмай спажывецкай коопэрацыі прароблена пэўная работа па падрыхтоўцы і вылучэньні новых кадраў; у прыватнасьці павялічана колькасьць коопэрацыйных навучальных установу (адчынены кооп. аддз. БДУ і падрыхтоўчыя курсы для рабочых і батракоў, 3 школы ФЗВ кулінараў; 5-месячныя батрацка-бядняцкія і бесьперапынныя курсы пры БКС, некаторых райсаюзах і ЦРК і г. д.).

Павялічаны лік прапушчаных асоб праз курсы Белкоопсаюзу. Калі ў 1927—28 г. падрыхтавана толькі 72 асобы, дык у 1928—29 годзе праз курсы прапушчаны 201 чал., а ў першым паўгодзьдзі — 179 асоб. Праз курсы райсаюзаў і ЦРК за 1928 29 г. падрыхтавана 977 асоб, а ў першым паўгодзьдзі 1929-30 г. —1108.

Значна павялічаны тэрмін навучаньня: калі з пачатку курсавой работы курсы склікаліся на 7-25 дзён, дык зараз падрыхтоўка даецца больш грунтоўная — ад 2 да 5 месяцаў.

Палепшаны соцыяльны склад коопэрацыйных навучальных установу і курсаў: у кооптэхнікуме рабочых, батракоў і беднякоў ў 1928—29 г. было 29,4 проц., а у 1929—30 г.— 51.5 проц., на кароткатэрміновых курсах Белкоопсаюзу рабочых — 27,3 проц., батракоў — 51,4 проц., беднякоў — 16,2 проц., на курсах райсаюзаў і ЦРК рабочых — 46,2 проц., батракоў—7,2 проц. беднякоў—14 проц.

Павялічана колькасьць жанчын, пасланых у навучальныя ўстановы і прапушчаных праз курсы БКС і сыстэмы.

Вылучэнства па ўсіх зьвеньнях коопапарату за апошні час дае зрух у бок павялічэньня і палепшаньня.

Усё-ж гэтым яшчэ далёка ня вырашана проблема кадраў, і праробленая сыстэмай праца ў гэтым напрамку зусім нездавальняючая.

Паводле пяцігадовага пляну, спажыўкоопэрацыі БССР на астатнія 4 гады па ўсіх зьвеньнях сыстэмы патрэбна будзе, улічваючы зьмяншэньне і амортызацыю, каля 25 тысяч новых працаўнікоў розных спэцыяльных навучальных устаноў і курсавых мерапрыемстваў слабое.

Плян падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі 1929—30 г. знаходзіцца пад пагрозай невыкананьня, бо за паўгодзьдзе праз курсы сыстэмы прапушчана толькі 1300 чал. пры гадавым пляне ў 3.820 чал. Не адчынена ніводная школа селькоопвучу, у той час як па пляну іх павінна было быць 5.

Плянавасьць правадзімай працы невыстарчальная, кіраўніцтва з боку БКС слабое. Няма належнага нагляду за падборам кандыдатур на тыя ці іншыя курсы альбо навучальныя ўстановы; пасылка на



Курсы кралікаводаў у вёсцы

цыяльнасьцяй. Толькі на 1929—30 г. гэта патрэба роўная 7.000 чал., а на 1930—31 г.—звыш 6.000 чал. Ня гледзячы на гэта, у падрыхтоўцы кадраў яшчэ няма дастатковага пераломy, не завострана ўвага і не мобілізавана грамадзкая думка вакол пытаньня вылучэньня і падрыхтоўкі новых кадраў; сыстэма недаацэньвае і ня зусім зразумела ўсю палітычную важнасьць гэтага пытаньня; тэмпы зусім марудныя, разгортваньне сталых коопэрацыйных курсы адбываецца несваячасова; месцы на курсы не скарыстоўваюцца. Кепска пастаўлена праца па вывучэньні і разьмеркаваньні кадраў, па прасоўваньні лепшай часткі работнікаў з нізавой працы ў вышэйшыя зьвеньні коопапарату; зусім адсутнічае работа з вылучэнцамі.

Ва ўсёй сыстэме яшчэ ня створаны і не ўкомплектаваны апараты па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў, дзякуючы чаму зусім адсутнічае контроль і кіраўніцтва

працай курсаў і навучальных установў па падрыхтоўцы кадраў, неабходных для спажыўсыстэмы; адсутнічае вучот і контроль за выкарыстаньнем падрыхтаваных і вылучаных на коопэрацыйную працу. Дзякуючы гэтаму затрачваемыя вялізарныя сродкі на падрыхтоўку кадраў не даюць таго эфэкту, які мог бы быць пры правільнай організацыі і мэтодычным кіраўніцтве вучэбна-курсавой працай. Якасьць выпушчаемай продукцыі, асабліва кароткатэрміновых курсаў, вельмі нізкая

. Уся праца па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў справаджаецца значнымі цяжкасьцямі ў сэнсе невыстарчальнасьці фінансавай базы: недастатковасьць кваліфікаваных, соцыяльна да нас блізкіх выкладчыкаў па коопдысцыплінах, адсутнасьць памяшканьняў пад курсы і лябораторыі для практычных заняткаў, недахоп падручнікаў па спэцыяльных і коопэрацыйных дысцыплінах, адсутнасьць іх на нацыянальных мовах і г. д.—усё гэта зьяўляецца значнай перашкодаю ў справе шырокага разгортваньня вучэбна-курсавой працы і ўзьняцьця якасьці падрыхтоўкі.

Для поўнага выкананьня задач, пастаўленых партыяй перад спажывецкай коопэрацыяй, патрэбны рашучыя меры ў сэнсе вылучэньня і выхаваньня новых пролетарскіх кадраў з рабочых ад варштату, батракоў, таксама беднякоў і колгасьнікаў, атрымаўшых цьвёрдае загартаваньне на грамадзка-палітычнай рабоце з тым, каб да канца 1930—31 г. процант рабочых і батракоў сярод адказных працаўнікоў у цэнтральных і сельскіх апаратах давесьці да 60 проц., а па рабочай коопэрацыі—да 80 проц. Процант жанчын сярод кіруючых кадраў у цэнтральным і сельскім апараце давесьці да 25 проц., па ЦРК—да 35 проц. Праца па вылучэньню павінна насіць сыстэматычны і пляновы характар, забясьпечваючы хуткае арабочаньне коопапарату спажыўсыстэмы.

Падрыхтоўка і перападрыхтоўка кадраў для ўзмацненьня апарату і зьнішчэньня дэфіцыту ў каліфікаваных работніках павінны ажыцьцяўляцца шляхам скарыстаньня і павялічэньня прапускной здольнасьці існуючых вышэйшых і сярэдніх коопэрацыйных навучальных установў, разгортваньня новых тыпаў коопэрацыйных навучальных установў (тэхнікумы, 2-гадовыя батрацка-бядняцкія курсы, курсы сельскоопвучу, гарадзкія, школы конторвучу, школы - магазыны), правядзеньня 10 проц. нормы броні і ахопу яе школамі селькоопвучу і конторвучу.

Для хутчэйшага вырашэньня пытаньня падрыхтоўкі новых кадраў і падвышэньня кваліфікацыі ўжо працуючых у апаратах і для забесьпячэньня хуткага арабочаньня апарату, разам з разгортваньнем стацыянарных кооп. навучальных установў, неабходна шырока разгарнуць кароткатэрміновую падрыхтоўку праз курсы, комплектуючы іх рабочымі, батракамі, таксама беднякамі, колгасьнікамі і дэмобілізаванымі чырвонаармейцамі.

Асаблівае значэньне набывае пытаньне аб падрыхтоўцы вытворчых кадраў (грамадзкае харчаваньне і хлебапячэньне) асабліва для вясковага соцсэктару. Існуючыя школы ФЗВ кулінараў на 100 чал. і курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы ня змогуць задаволіць патрэбу ў кваліфікаваных работніках па грамадзкім харчаваньні. Па падрыхтоўцы работнікаў хлебапячэньня, акрамя курсаў пры БКС на 27 асоб, нічога ня робіцца; у сувязі з гэтым паўстае пытаньне аб стварэньні тэхнікуму па падрыхтоўцы вытворчых кадраў і організацыі пры ВТНУ цыклю тэхнолёгіі і лябарантаў па грамадзкім харчаваньні і хлебапячэньні.

Пад усю вучэбна-курсавую працу неабходна падвесьці цьвёрдую фінансавую базу. У сувязі з гэтым з 1930/31 г. трэба перайсьці на каштарысныя асыгнаваньні, адносячы выдаткі па вучэбна-курсавой

працы за кошт агульна гандлёвых выдаткаў, і прыцягненьне сродкаў з агульнадзяржаўнага і мясцовых бюджэтаў, паставіўшы гэта пытаньне перад урадавымі органамі.

Вучот, разьмеркаваньне і вывучэньне кадраў знаходзяцца ў вельмі нездавальняючым становішчы. Падбор і разьмеркаваньне кадраў праходзяць без дастатковага папярэдзасьмечаньня апарату нягодным, а часам соцыяльна-чужым элемэнтам.

Асабліва кепска пастаўлены вучот, вывучэньне на практычнай працы вылучэнцаў з рабочых, батракоў і беднякоў. Зусім адсутнічаюць вучот і вывучэньне маладых спэцыялістых, а таксама працаўнікоў, прайшоўшых коопэрацыйную вучобу і падрыхтоўку.



Гор. Менск. Гарбарня Белскуртрэсту „Бальшавік“, пабудованая ў 1927 г.

няга вывучэньня здатнасьці тае ці іншай кандыдатуры на адказную працу. Між тым правільная расстаноўка кіруючых кадраў, сыстэматычнае вывучэньне новых растучых на практычнай рабоце маладых кадраў з рабочых, батракоў, беднякоў і колгасьнікаў магчыма толькі пры наяўнасьці правільна пастаўленага вучоту. Нездавальняючы падбор і разьмеркаваньне прыводзяць да

Такое становішча прымушае нас сур'ёзна задумацца над вырашэньнем проблемы кадраў. Складанасьць і палітычная важнасьць гэтага пытаньня патрабуе ад усяе сыстэмы спажыўкоопэрацыі сур'ёзнай увагі і мобілізацыі грамадзкай думкі вакол гэтага пытаньня. Праца па падрыхтоўцы і вылучэньні кадраў павінна заняць адно з важнейшых месц у працы ўсяе сыстэмы.

# Наша культработа

Гінзбург

## Культмасавая і бытавая праца спажывецкай коопэрацыі

*(Да IV сходу ўпаўнаважаных Белкоопсаюзу)*

Два гады, якія прайшлі ад IV сходу ўпаўнаважаных БКС, характарызуюцца ў галіне кульбытавой работы значным павялічэньнем укладаемых спажывецкай сыстэмай сродкаў на культбытавое абслугоўваньне і колькасным пашырэньнем паасобных відаў працы—ростам культбытавых мерапрыемстваў (па кніжнай, кіно, радыё і бытавой рабоце). Рост укладаньняў у 1929-30 г., у параўнаньні з 1928-29 годам, на культбытавое абслугованьне і падрыхтоўку кадраў складае каля 300 проц.

Пашырылася кніжная сетка ў горадзе, культурнае абслугоўваньне якой цалкам перайшло ў рукі спажывецкай коопэрацыі. Кніжная сетка вырасла з 394 адзінак на I/X—28 г. да 810 адзінак на I/III—30 г., зварот продажу літаратуры павялічыўся прыблізна ў 3 разы. За гэты час на спажывецкую коопэрацыю ўскладзена задача па поўным забесьпячэньні вёскі кнігай і наогул літаратурай, што ўскладае яшчэ большую адказнасьць за належную пастаноўку працы з кнігай, якая зьяўляецца магутнаю зброяй у справе палітычнага выхаваньня мас.

Кінаработа значна пашырылася, за апошні час увага да гэтай працы з боку сыстэмы крыху ўзрасла: сетка кінаперасовак узрасла з 45 у 27/28 г. да 177 на 1/VI—30 г. У гэтым годзе спажывецкая коопэрацыя прыступіла да плянавай радыёфікацыі. У 1930 годзе павінны быць праведзены 16.000 трансляцыйных кропак ад сельскіх коопэрацыйных вузлоў, 435 гучнагаворачных установак і 101 радыёперасоўка. Выкананьне гэтага пляну патрабуе ад спажыўсыстэмы дастатковай увагі, мобілізацыі коопэрацыйнай грамадзкасьці, організацыі коопэрацыйнай грамадзкасьці і організацыі шырокага крэдытаваньня батрацка-бядняцка-колгасных мас.

Бытавая работа ў асноўным да апошняга часу заключаецца ў разгортваньні сеткі дзіцячых ясьляй, садоў і пляцовак як у горадзе, гэтак і на вёсцы. Толькі некаторыя ЦРК (менскі, гомельскі) за апошні час разгарнулі і іншыя бытавыя мерапрыемствы: дзіцячую дыэтсталовую, дзіцячы дом адпачынку і г. д.; ЦРК таксама прыступаюць да організацыі гарачых сьнеданьняў у школе.

Ня гледзячы на вышэйпаказаныя дасягненьні ў галіне культбытавога абслугоўваньня, якія выяўляюцца ў росьце культбытавых мерапрыемстваў, агульнае становішча ў культмасавай і бытавой працы па сыстэме нездавальняючае. Вельмі марудна разгортваецца праца і ажыцьцяўляюцца мерапрыемствы, вельмі дрэнная эфэктыўнасьць усяе працы, няма плянавасьці і вучоту ў правадзімай працы. Асабліва дрэнна абстаіць справа з разгортваньнем культмасавай работы.

У справе ліквідацыі няпісьменнасьці, якая зьяўляецца важнай політычнай задачай, абмяжоўваюцца толькі перадачай сродкаў у органы НКА; коопэрацыйная асьвета ў большасьці організацый право-

дзіцца несыстэматычна; коопгурткі і коопкуткі ў некаторых мясцох існуюць на паперы; іншыя масавыя віды (даклады, гутаркі і г. д.) праводзяцца толькі ў часе правядзеньня кампаній і ў недастатковай ступені; культмасавая работа ў сталовых і культчайных яшчэ не разгорнута.

Асноўнымі прычынамі такога становішча зьяўляецца тое, што да апошняга часу культмасавая і бытавая праца ў сыстэме спажывецкай коопэрацыі не займае адпаведнага месца. Малады і недастатковы кадр культбытавых працаўнікоў выкарыстоўваецца не па сваёй асноўнай працы, бо заўсёды кіраўнікі коопэрацыі знаходзяць больш „важную работу“, чым культбытавая, таксама і некаторыя парторганізацыі на мясцох мобілізуюць на працяжныя тэрміны (да 6 месяцаў) культурнікаў для правядзеньня кампаній, ня ўлічваючы становішча гэтай працы, а кіраўнікі коопэрацыі задаволены, абы ня бралі работнікаў іншых галін.

Культбудаўніцтва на даным этапе набывае асабліва важнае палітычнае значэньне. на спажывецкую коопэрацыю ўскладзена вялікая адказнасьць за разгортваньне і пастаноўку культмасавай і бытавой працы, асабліва па паасобных яе вучастках.

Трэба неадкладна стварыць рашучы пералом у справе разьвіцьця культпрацы. Вялікія матар'яльныя выдаткі ўскладаюць яшчэ большую адказнасьць за гэту працу на сыстэму. Вызначаныя пляны па кніжнай рабоце: перанясеньне цэнтру цяжару ў раён, устанаўленьне ў райспажтаварыстве штатнай пасады інструктара-кніжніка і падрыхтоўка для гэтай мэты ў бліжэйшыя 2 м-цы кадру гэтых інструктароў, організацыя раённай кніжнай культбазы і цэлы шэраг іншых мерапрыемстваў,—усё гэта павінна забясьпечыць зрух у справе кнігараспаўсюджваньня пры адпаведнай увазе з боку ўсяе сыстэмы да гэтага пытаньня.




Гор. Бабруйск, магазын „Маці і дзіця“

Па лініі кіно і радыёработы неабходна дабіцца поўнага выкананьня намечаных плянаў кінофікацыі і радыёфікацыі.

Выкананьне гэтых плянаў патрабуе павялічэньня тэмпаў працы і прыцягненьня ўдзелу коопэрацыйнай грамадзкасьці. Неабходна таксама разгарнуць больш шырока масавую палітасьветную работу вакол кіно і радыёработы.

Наогул масавая культпраца павінна быць больш шырока разгорнута спажывецкай коопэрацыяй; неабходна пакласьці канец недаацэнцы політычн. значэньня культмасавай работы і бюрократычным адносінам да яе з боку паасобных працаўнікоў сыстэмы. У галіне бытавой работы апошняя пастанова ЦК УсеКП(б) (ад 16/V 30 г.) па пытаньні перабудовы быту на соцыялістычных пачатках ускладае адказьнейшыя задачы па ўзмацненьні ўдзелу спажывецкай коопэрацыі ў перабудове быту на соцыялістычных пачатках. Неабходна гэту работу ўпарадкаваць, разгарнуць організацыю пральняў, лазьняў, пашывачных і пачыначных майстэрняў пераважна ў соцыяліст. сэктары вёскі і рабочых раёнах, мобілізуючы коопэрацыйныя масы вакол гэтых задач і прыцягваючы іх сродкі для ажыцьцяўленьня бытавых мерапрыемстваў.

Пасьпяховае выкананьне задач, ускладзеных па спажывецкую коопэрацыю ў галіне культмасавай і бытавой работы, магчыма толькі тады, калі гэтыя галіны працы стануць неад'емнай часткай усяе коопэрацыйнай працы, калі праўленьні с/т, ЦРК, саюзаў і БКС ўзмоцняць увагу і кіраўніцтва, павялічаць кадры культбытавых працаўнікоў, палепшаць іх якасьці, і коопэрацыйная грамадзкасьць будзе прымаць большы ўдзел у гэтай працы.

IV сход упаўнаважаных БКС павінен сказаць сваё слова па ўсіх гэтых пытаньнях.

---

**І. Ахрэмчык**

## Кнігагандлёвая праца ў спажывецкай коопэрацыі Беларусі

Пастанова 3-га сходу ўпаўнаважаных Белкоопсаюзу ад 7-12 чэрвеня 1928 г. у галіне пашырэньня кнігагандлёвай сеткі як у гарадох, так і на вёсцы, а таксама і павялічэньне звароту продажу кніжак у асноўным выканана (у вёсцы з 390 кнігагандлёвых адзінак на 1/X—28 году—да 775 кнігагандлёвых адзінак на 2/III—30 г., у горадзе з 4 кніжных адзінак на 1/X—28 г.—да 35 кніжных адзінак на 1/III—30 г.; зварот продажу кніжак з 325.007 р. у 1927-28 г.—да 600.000 руб., у 1928-29 г., а па пляну на 1929-30 г. зварот прадугледжаны на 1.100.000 руб.).

Павялічэньне кнігагандлёвай сеткі пайшло, па-першае, за кошт адчыненьня спэцыяльных кніжных крам і аддзелаў у тых мясцох, дзе кніжнага гандлю зусім ня было, і, па-другое, за лік пунктаў, якія прыняты былі ад Белдзяржвыдавецтва і „Кніга вёсцы".

На сёньняшні дзень кнігагандлёвая сетка на вёсцы па колькасьці кніжных адзінак зьяўляецца амаль што дастатковай, але ў большасьці гэтых адзінак формы не адпавядаюць тым запатрабаваньням, якія прад'яўляюцца да кніжнага гандлю: з 775 кніжных адзінак толькі каля 175 адзінак маюць спэцыяльных працаўнікоў, астатнія кніжныя адзінкі кніжную працу ўсклалі на тых працаўнікоў, у якіх асноўная праца зусім іншая.

Калі кніжныя адзінкі, дзе маецца спэцыяльны кніжны працаўнік, яшчэ працуюць слаба, дык кніжныя адзінкі без спэцыяльнага кніжнага працаўніка зусім кепска вядуць кніжную працу. У некаторых пунктах яны існуюць толькі намінальна. Кніжкі знаходзяцца ў недаглядзе і амаль што зусім не прадаюцца. У гарадох таксама яшчэ недастаткова ахоплены прадпрыемствы і рабочыя пункты. Кніжкі незаўсёды

выносяцца на сходы, нарады і конфэрэнцыі.

Вельмі кепскае становіша ў сучасны момант з кадрамі кніжных працаўнікоў, асабліва на вёсцы. Спажывецкія таварыствы часта вызначаюць на гэту працу вельмі слабых таварышоў, адпаведныя ўмовы працы адсутнічаюць, пэнсія вельмі нізкая і г. д.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што сыстэма спажывецкай коопэрацыі яшчэ не зразумела добра вялікіх задач у галіне забесьпячэньня кніжкай працоўнага насельніцтва, ня ўводзіцца спэцыяльны інструкар-кніжнік, пры гэтым жа таварыстве павінна быць гуртова-раздробная кніжная крама, якая забясьпечыць усе кнігагандлёвыя пункты раёну, і ўсе навучальныя і іншыя ўстановы.

Формы кнігагандлёвай сеткі павінны быць перагледжаны і ў большменш буйных пунктах, кніжныя паліцы ў іх неабходна рэорганізаваць у спэцыяльныя кніжныя крамы і кніжныя кіёскі з асобным кніжным працаўнікам, зварочваючы асаблівую ўвагу на абслугоўваньне колгасаў і саўгасаў. Неабходна максымальна



Кніжны кіёск на менскім скверы ў часе кніжнага базару (май месяц 1930 г.)

ўлічвае таго, што кніга зьяўляецца магутнай зброяй у рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і пабудове соцыялізму.

У сучасны момант, калі на спажывецкую коопэрацыю Беларусі ўскладзена поўнае забесьпячэньне вёскі і ўсіх навучальных і іншых устаноў кнігай, неабходна падыйсьці да гэтай працы сур'ёзна. Асноўнае— гэта стварэньне кваліфікаваных кадраў кніжных працаўнікоў і належных умоў для працы.

Згодна пастановы праўленьня БКС, у раённае спажывецкае таварыства

разьвіць актыўныя мэтады прасоўваньня кніжкі праз кнігамістства, якое сябе добра апраўдвае, вынас кнігі на сходы і г. д., прыцягваючы да гэтай справы вучняў, наладзіць кніжнае крэдытаваньне рабочых, колгасьнікаў, батракоў, беднякоў, ствараючы вакол гэтай справы грамадзкую думку.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на распаўсюджваньне літаратуры на белмове і мовах нацменшасьцяй (яўрэйскай, польскай і інш.) Неабходна наладзіць вучот попыту насельніцтва на кнігу, каб мець

магчымасьць даваць папярэднія заказы па тых ці іншых пытаньнях, выпушчаючы кнігу вялікім тыражом.

Трэба ахапіць поўнасьцю ў гарадох усе прадпрыемствы і рабочыя пункты сеткай кніжных кіёскаў, арганізоўваючы пры іх кадры кніганош.

Патрэбна сур'езна заняцца арганізацыяй працы па распаўсюджваньні пэрыодычных і падпісных выданьняў, дзеля чаго зьвязацца з паштовымі пунктамі і мясцовымі арганізацыямі.

Т. Мінін

## Больш увагі політыка-культурнаму выхаваньню вёскі

Лёзунг культурнай рэволюцыі, выкінуты комуністычнай партыяй, яшчэ ня ўсюды (асабліва на вёсцы) праводзіцца ў жыцьцё. Правядзеньне гэтага лёзунгу на вёсцы ў значнай меры ўскладаецца на коопэрацыйныя організацыі.

Доўгачасны вопыт вядзеньня культпрацы на вёсцы ўзбагаціў нас




вельмі рознастайнымі і каштоўнымі мэтодамі. Мэтоды культпрацы на вёсцы—гэта кіноперасоўкі, радыёфікацыя (трансляцыйныя вузлы), распаўсюджваньне літаратуры і г. д. Трэба сказаць, што гэтыя мэтоды даюць добрыя вынікі: імі абслугоўваецца вялікая колькасьць насельніцтва.

Але побач з посьпехамі ў правядзеньні культурнай рэволюцыі на вёсцы ёсьць і некаторыя недахопы: акруговыя коопэрацыйныя саюзы слабавата праводзяць культкіраўніцтва ў ніжэйшых коопэрацыйных організацыях; яны часьцей усяго абмяжоўваюцца цыркулярным кіраўніцтвам, жывой сувязі з нізамі зусім няма.

Праўда, маюцца спэцыяльныя культінструктары, але гэта недастаткова: інструктары бываюць толькі наездам і ў большасьці як рэвізоры.

Патрэбна было-б, каб акруговыя саюзы праз сваіх культінструктароў наладжвалі сыстэматычную організацыйна-мэтодычную нараду з мясцовым культактывам, таму што радыёфікацыя, кінофікацыя і кніжны гандаль патрабуюць сыстэматычнага організацыйна-мэтодолёгічнага кіраўніцтва.

Дзетсады, пляцоўкі, культурныя сталоўкі і інш. таксама патрабуюць ня меншага кіраўніцтва.

Вясковая інтэлігенцыя—настаўнік, агроном, каморнік, урач і др., недастаткова ўцягнута ў культпрацу.

Гэтыя некаторыя хібы ў правядзеньні культпрацы на вёсцы акруговыя коопсаюзы і мясцовыя коопорганізацыі павінны агульнымі сіламі зьнішчыць, уцягнуўшы для непасрэднага ўдзелу ў гэту працу ўсю вясковую інтэлігенцыю, бо перабудова вёскі, перабудова сельскай гаспадаркі на социялістычны лад патрабуюць максымальнай ўвагі да політыка-культурнага выхаваньня мас.

## Літаратурны куток

С. Гаранскі

# Там, дзе куюцца кадры

Вярсты тры ад гораду Менску, на крутым беразе ракі Сьвіслачы, абагнуты з аднага боку хваёвым лесам, а з другога—пяцігэктарным садам, раськінуў свае будынкі былы маёнтак, які належаў нейкаму пану Браўдэру. Маёнтак зваўся „Весялоўка“.

— Пагуляў у ім Браўдэр. Папрацавалі мы на яго. Усё наша... Навокал—наш пот... апавядаюць былыя батракі, якія і зараз знаходзяцца ў гэтым маёнтку.—Зьдзекваўся ён з нас, бездапаможных. Усё жыцьцё ў цемры трымаў...

Зусім іншае ў гэтым маёнтку адбываецца зараз. Другое жыцьцё крынічыць.

Зараз тут саўгас. Зараз тут расквітае новае жыцьцё. Тут цяпер будуе сваю гаспадарку былы прыгнечаны панскі батрак. Тут расквітае зусім інакшая культура—культура савецкай гаспадаркі.

У гэтым-жа саўгасе, у двухпавярховым зялёным доме, куецца другая галіна савецкай культуры.

Тут кожны месяц некалькі дзесяткаў батракоў, батрачак і колгасьнікаў займаюцца вучобай—праходзяць розныя коопэрацыйныя курсы і падрыхтоўваюць з сябе той неабходны кадр нізавых работнікаў, якіх патрабуе сёньняшні соцыялістычны фронт, сёньняшняе соцыялістычнае будаўніцтва. Падрыхтоўваюцца тут розныя коопэрацыйныя работнікі: рахункаводы, члены і старшыні праўленьняў, мясазагатоўшчыкі, кухаркі і загадчыцы для колгасных сталовак...

Зьяжджаюцца на гэтыя курсы з розных раёнаў Менскай акругі. Яны вельмі хутка злучаюцца ў адзін колектыў, вельмі хутка знаходзяць паміж сабой агульную мову, таму што яны ўсе батракі, колгасьнікі, людзі аднолькавага соцыяльнага паходжаньня.

Большасьць з іх амаль няпісьменная, нават некаторыя не пакончалі лікбезу. Аж да апошняга году ўсе цягнулі ярмо кулацкай эксплёатацыі.

— Калі нам было вучыцца?—успамінаючы свае цяжкія дні, расказваюць курсанткі.—Мы толькі адно і ведалі—з раньня да вечара працаваць. У нас і ў думцы ня было, што нейкая цёмная жанчына можа вучыцца, зможа перамагчы цемру і стаць пісьменнай.

Такую гутарку можна было часта чуць, калі толькі прыяжджалі на курсы ў першыя дні заняткаў.

* * *

Праходзіць тыдзень, другі, месяц. Зьмяняецца настрой курсантаў і курсантак. Так скора пачынаюць мяняць свае погляды на саміх сябе. У іх другая гутарка, другія думкі. Ад іх ужо не пачуеш слоў: „цёмная жанчына няздольна вучыцца“, „ня можа стаць пісьменнай“. Яны ўпэўніўшыся, што вучобу можа перамагчы кожны, з усёй шчырасьцю, упарта працуюць над кнігай. Цэлымі днямі—за вучобай.

Можна чуць, як па пакоях агульнага памяшканьня палка абгаварваюцца розныя пытаньні нашай бягучай політыкі: колектывізацыя вёскі, зьнішчэньне кулака, як клясы, і інш.

Кожнае пытаньне, вучобу яны перамагаюць колектыўна—гутаркамі.

За кароткі час, месяц-два, гэтыя самыя цёмныя батрачкі і батракі набываюць тыя неабходныя веды, якія патрабуюцца для працаўніка ніжэйшай сеткі коопэрацыі.



Будынак саўгасу Весялоўка, у якім адбываецца падрыхтоўка коопкадраў

Яны за гэты кароткі час навучаюцца, галоўным чынам, арытмэтыцы; акрамя таго, яны замацоўваюць асноўныя моманты рахункаводзтва і белмовы, а таксама набываюць неабходныя веды па сучаснай партыйна-савецкай політыцы ў галінах нашага будаўніцтва.

— Даражэнькія сястрыцы,—кажа з захапленьнем зварочваючыся да сваіх таварышак, немаладая жанчына Махнач, якая ўсе свае маладыя гады аддала на працу пана і кулака. Сапраўды, я ніколі ня думала, шчто я буду гэта ўсё ведаць. Я-ж сюды прыехала зусім няпісьменнай, а цяпер... Я думала, што мая доля—век быць цёмнай жанчынай служыць без канца батрачкай і працаваць, але савецкая ўлада па іншым рэчышчы накіравала жыцьцё...

І не аднэй толькі спэцыяльнай вучобе аддаюць свой час курсанты. Яны зварочваюць вялікую ўвагу і на грамадзкую працу. Яны добра ведаюць, што на вёсцы яны не абмяжуюцца сваёю вузкаю спэцыяльнасьцю, а прыдзецца быць яшчэ шырокім грамадзкім працаўніком.

Яны выпускаюць сваю насьценгазэту, высьвятляюць у ёй жыцьце курсаў, зьнішчаюць праз яе тыя ці іншыя недахопы, адзначаюць дасягненьні.

Вось што піша курсантка Слаўковіч, былая батрачка:

„Калі мяне пасылалі на курсы, я вельмі баялася, ці змагу я вучыцца. Мне здавалася, што на курсы папрыяжджаюць людзі не такія, як я. А цяпер я ўбачыла іншае. Усе нашы курсанткі—батрачкі,колгасьніцы, і я з імі разам перамагаю вучобу“.

Некаторыя ў насьценгазэце выказваюць сваю радасьць, што Кастрычнік даў ім магчымасьць

выйсьці з векавечнай цемры. Напрыклад, маладая дзяўчына Жоўцік, якая працавала доўгі час батрачкай, так піша:

„І вось за днямі праходзяць гады. Мучыліся людзі, чакаючы пары, і толькі вялікі Кастрычнік, прыйшоўшы да нас, усе хмары цемры

цыі, у залежнасьці ад спэцыяльнасьці, якую яны атрымалі на курсах.

Утрымліваюцца курсы на сродкі менаддзяленьня БКС. Яны забясьпечваюцца ўсім неабходным, якта: агульным памяшканьнем, харчамі, рознымі падручнікамі і кіно.



На занятках коопэрацыйных курсаў жанактыву

разагнаў. З гэтай пары для ўсіх працоўных засьвяціла сонейка“.

І ва ўсіх другіх баках грамадзкага жыцьця курсантак і курсантаў праяўляецца здаровая, творчая клясавая сьвядомасьць.

* * *

У саўгасе „Весялоўка“ курсанты працуюць ня так даўно—чатырыпяць месяцаў, але ўжо за гэты кароткі час падрыхтаваны 120 работнікаў для нізавой сеткі коопэрацыі. Працавалі заўсёды двое курсаў. За гэты час зроблена пяць выпускаў. Выпушчаны курсы вылучэнцаў, курсы раённых мясазагатаўцеляў, двое курсаў кухарак і загадчыц колгасных сталовых і курсы рахункаводаў.

Усе гэтыя 120 асоб зараз працуюць па розных раёнах Менскай акругі, па розных відах коопэравыдаецца яшчэ кожнаму курсанту 5 руб. грашыма на рукі.

Гаспадарчае і пэдагогічнае кіраўніцтва належыць непасрэдна менаддзяленьню БКС. Аддзяленьне звярочвае максымум увагі на падрыхтоўку коопэрацыйных кадраў. Ствараюцца адпаведныя ўмовы, каб атрымаць добраякаснага і ідэолёгічна вытрыманага коопэрацыйнага працаўніка.

У гэтым-жа самым двохпавярховым зялёным доме саўгасу „Весялоўка“ будуць працаваць на працягу двох год такія-ж курсы. Асноўная іх установка—падрыхтаваць і перападрыхтаваць некалькі сот працаўнікоў з батрачак, батракоў і колгасьнікаў для нізавой сеткі рознага віду коопэрацыі. У асноўным курсы даюць добрыя вынікі. Рыхтуецца социяльна здаровае ядро нізавых работнікаў. Куюцца патрэбныя соцбудаўніцтву кадры.




Антон Антонавіч, можа-б, і да сёньняшняга дня быў-бы коопэратарам. Можа-б, чалавек па коопэрацыйнай лініі і ў вылучэнцы выбіўся-б. Усё магло быць, ды вось форменым чынам не павязло чалавеку.

А чалавек ён сам маленькі, усяго прыказчык местачковай коопэрацыйнай крамы. Росту нізенькага. Лысенькі. Стане за прылаўкам — чуць відаць.

Завуць яго ў мястэчку тав. Пупікаў.

Антон Антонавіч, стоячы ў краме за прылаўкам крыху, прыплюшчыўшы сваё вока, пытае:

— А? Чаго жадаеце, так сказаць? А коопэрацыйная кніжка у Вас з сабой?

Жыцьцё Антона Антонавіча Пупікава звычайнае. У апошнія гады яно ня мянялася: роўна а 9 гадзіне адчыняў ён сваю краму, роўна а 1-ай гадзіне зачыняў яе на абед, а з 2 да 5 гадзін крама была адчынена. Так дзень у дзень, і ўжо — пяты год. Жыцьцё было ціхае і спакойнае, калі ня лічыць пазаўчарашні выпадак.

Прышла ў краму Матруна Кавалёва і папрасіла ў Пупікава тры шпулькі нітак.

— Табе, так сказаць, тры не належыць.

— Як не належыць? А каму належыць?.. Тэклі належаць, што ёй на тым тыдні пяць даў? Сама бачыла. Ты не глядзі, што я не прыглядаюся. Давай ніткі.

Тав. Пупікаў адвярнуўся і сказаў:— ні аднае не атрымаеш.

— Ах ты крутасьвет, каму хочаш, таму даеш... Муку пшанічную каму па пяць кілё даваў?.. Усё ведаю.



Антон Антонавіч (справа гэта пры людзях была), вышаўшы з-за прылаўку, узяў Матруну і вывеў з крамы.

Народ запротэставаў.

Пачалі крычаць.

— Ня маеш права.

— Не твая крама.

— У газэту напішам.

Тав. Пупікаў зайшоў за прылавак, пачырванеў і пачаў важыць газу.

Гэты дзень ён помніць. Нутро ные, што прагнаў Матруну.

А Матруна ходзіць цяпер па сяле і розныя паклёпы распускае.

Шмат выпадкаў у жыцьці Антона Антонавіча было. Усё сыходзіла. Быў на фронце, пад суд пападаўся, і ўсё ціха было, а тут вышла горш. На дробязі, можна сказаць.

Якраз назаўтра прышоў у краму старшыня коопэратыву тав. Толікаў

і аб'явіў, што ў сераду 5-га жніўня, а 7 гадзіне ўвечары, у местачковым клюбе пачнецца чыстка савецкага апарату, прачытаў прозьвішчы, у тым ліку і прозьвішча тав. Пупікава.



Апошнія два дні, хто наглядаў, за Пупікавым, можна было заўважыць, што чалавек схудзеў. Стаў больш задуменым. З спажыўцамі зусім не размаўляў.

5-га жніўня ўвечары, перад чысткай, Антон Антонавіч, мабыць у пяршыню за ўвесь час сваёй службы, адмовіўся ад гарбаты.

— Сёньня, Лукер'я Сідараўна, я гарбаты ня п'ю,—сказаў ён жонцы.— Прашу даць мне, так сказаць, шклянку вішнёвай настойкі.

— Што ты, Антон Антонавіч? Як гэта гарбаты ня піць? Ці ня хворы ты?

— Так сказаць, дзела не тваё. Вішнёўкі прашу даць.

Антон Антонавіч выпіў шклянку вішнёўкі, пачырванеў, абцёр хустачкай лысіну, дзесьці дастаў з шафы нейкія паперы, перагледзеў іх і пашоў у клюб.

Народу ў клюбе поўна: першы дзень чысткі. Неспакойна ёкнула сёрца ў Антона Антонавіча, калі ён увайшоў у залю.

У той-жа вечар трэцім чалавекам праходзіў чыстку Пупікаў.

Ён усхвалёвана ўзышоў на сцэну, абцёр твар хустачкай і пачаў:

— Радзіўся я да рэволюцыі (хтосьці ў залі чмыхнуў).

Антон Антонавіч схамянуўся, што не так сказаў. Пачырванеў, закашляўся і зноў пачаў спачатку.

— Радзіўся я ў сям'і парабка. Бацька служыў у пана, так сказаць, аканомам (хтосьці ў залі зноў чмыхнуў). Так, аканомам. Матка, хатняй працаўніцай была. Бацькі не памятаю. Парваў, так сказаць, сувязь. Памёр ён. Сам вучыўся ў духоўным спачатку. Ня скончыўшы, пашоў на фронт. Быў на імпэрыялістычных і грамадзянскіх, так сказаць, фронтох.

— Кім і дзе?—пачулася ззаду.

— Быў, так сказаць, пры Мікалаі пад Коўнай. Здаецца, падпаручыкам, ня помніцца. Пры Чырвоных быў у Самары загадчыкам кухняю. Потым пераехаў у Арол. З Арла ў Драгабуж, а адтуль дамоў, так сказаць. Служыў сумленна, аб чым могуць, так сказаць, сьведчыць дакумэнты. Цяпер пяты год, так сказаць, коопэратарам. Прымерную працу вяду. У Мопры зборшчыкам сяброўскіх адлікаў зьяўляюся. Думаю, што і ў далейшым магу, так сказаць, служыць сумленна...

— Тав. Пупікаў, гэта само сабою, гаварэце аб сабе,—перабіў басам старшыня.

— Я скончыў, так сказаць.

— Пытаньні да тав. Пупікава ёсьць?

— У мяне ёсьць. Скажэце падрабязна, дзе служылі, якім аканомам быў бацька?

— Чаму цукру мне ня выдаў?

— На якія сродкі грамафон куплены?

— Чаму ў тую нядзелю п'яны быў?

І пашло, і пашло...

Антон Антонавіч стаў і бяссэнсава круціў у руках блёкнот.

Здавалася, што ўсё закруцілася і паплыло кудысьці, што ўсе, што сядзяць у залі, рагочуць і імчацца кудысьці ў даль.

Пасьля ён пачуў, як старшыня сказаў: „адказвайце“, а сьледам за ім хтосьці, не дачакаўшыся, заўважыў яшчэ:

— Гаварэце, тав. Пупікаў.

Пупікаў пачаў.

— Тут на мяне некаторыя, так сказаць, навалілися вельмі. Як наконт розных грамафонаў? Ён мне, так сказаць, ад дзядзькі застаўся, што датычыцца цукру, дык колькі

даюць мне, столькі даю і я вам. Норма, так сказаць. Я скончыў.

— Хто хоча выказацца таварышы?—спытаў старшыня ў прысутных, у той час, калі Антон Антонавіч садзіўся на зэдлік.

Першым вышаў бухгальтар Лёкімчык.

— Такія людзі і працаўнікі, як Антон Пупікаў, патрэбны нам. Чалавек ён акуратны, з спажыўцамі добры.

— Паглядзім далей, — крыкнуў хтосьці.

— Я ўсё-ж кажу, таварышы, што чалавек ён добры, і яго можна пакінуць.

У гэты час да сцэны не падышла, а падбегла жанчына.

— Як так пакінуць? Ды ён-жа мяне сам выганяў з крамы. А хіба крама яго? Дзе гэта напісана, каб спажыўцоў выганяць? Ах ты ахвіцэр, нячыстая сіла на цябе! Ніткі Тэклі даваў, а мне не? Ды каму ён патрэбен? Што гэта, сьвет у клін сышоў? А цукар як выдаваў? Сабе, нябось, нанасіў, а як каму, дык няма? Пажыў, хопіць! Тав. старшыня, вы сабе гэта ўсё на вус матайце...

— Гы, гы, гы—зарагаталі ў залі.

Старшыня супакойваў.

Пасьля гаварыла Палагея Пархоменка, былая баптыстка, а цяпер пакінуўшая іх, яна ўжо другі год наведвае сходы партыйнай ячэйкі.

— Ды што тут гаварыць? Чалавек ён такі, як кажуць: любіць выпіць, закусіць, сын аканома,—адразу відаць. Яшчэ калі мы арганізоўвалі колгас, дык ён казаў: „Ну яго к чорту!“ А гэта што значыць? Што гэта за крамар такі?! За гэтакія справы месца яму мала ў мястэчку, ня то што ў краме.

Вось, вось пачалося. Вычысьцяць... Усёроўна вычысьцяць. Што скажа Лукер‘я Сідараўна? Ды гэта-ж і ў хату не паказвайся“.

Антон Антонавіч ужо менш прыслухоўваўся да прамоў. Толькі пачуў, як выступіў Андрэй Акулінчык:

Я ведаю гэтага самага Пупікава. Мы калісь з ім у Самары на службе былі. Самы голад тады быў. Хадзілі нашы чырвонаармейцы галодныя і халодныя. Дык вось гэты самы Галапупікаў...

— Таварыш, без насьмешак,— заўважыў старшыня комісіі па чыстцы.

— Дык тады Пупікаў украў боты ў свайго ж таварыша. А ў той час гэта самае было ўсёроўна, як контррэволюцыя: як ні кажэце, а боты сьцягнуць у свайго таварыша...

Ха, ха, ха, гы, гы—перамяшаліся галасы.

„Не, ня выцерплю... Немагчыма“— круцілася ў галаве Пупікава. Ён закурыў.

Слова папрасіў Агей Лук‘янчык, з атраду якога калісь дэзэртыраваў Пупікаў.

„Вось дзе канец,“—мільганула ў думках Антона Антонавіча. „Скажа... „Усёроўна скажа“.

Антон Антонавіч закашляўся і неўзаметку вышаў за кулісы. Адтуль ён напружана слухаў, як Агей гаварыў:

— Дык ён-жа быў формены дэзэртыр... з Драгабужу...

— Ах, так!.. пачуў Антон Антонавіч, як зашумела ў залі, ён тады ў зьбянтэжанасьці выбег праз чорны ход і зьнік у вячэрнім змроку.

„Куды ісьці?“—паўстала цяпер пытаньне перад Антонам Антонавічам. Ён на хвілінку спыніўся, а потым падумаў: „Няхай чысьцяць, пустое месца“,— і накіраваўся дамоў.

У залі падняўся рогат, шум:

— Чалавек зьбег... не дачакаўся... Мабыць, нешта страшнае адчуў.



Старшыня супакойваў залю і чытаў ужо наступную анкету, а ў гэты час Антон Антонавіч Пупікаў, зачыніўшы вакеніцы ў сваёй хаце, апавядае Лукер'і Сідараўне.

— Ня вытрымаў... Немагчыма... Я, Лукер'я Сідараўна, заўтра на цягнік, а ты скажы так: паехаў кудысь у горад, на скаргу. А там праз тыдзень я пісану, а ты тады да мяне. Разумееш? А цяпер прынясі на сон мне шклянку вішнёўкі і агурчык. Заўтра, Лукер'я Сідараўна, разбудзі, чым раней. Таксама не забудзь чаго-небудзь на дарогу..,

Дзесьці на сяле чуваць было, як сьпявалі пеўні, і хтосьці, ідучы па вуліцы, насьвістваў „яблычка“.



Запалкавая фабрыка „Пролетарская перамога“ ў гор. Барысаве

**У дзень дзесятае гадавіны вызваленьня Савецкае Беларусі ад белапалякаў — наша шчырае прывітаньне ўсім прыгнечаным у капіталістычных краінах**

# На мясцох

Левін

## Нашы хібы і дасягненьні

(*з матар'ялаў справаздачнай кампаніі*)

Праведзеныя сходы ўпаўнаважаных спаж. т-ваў па Брагінскім раёне Гомельскай акругі яскрава паказалі, што большасьць таварystваў, як мікуліцкае, савіцкае і астраглядзкае ня справілася з тымі задачамі, якія пастаўлены партыяй і савецкай уладай у сувязі з колектывізацыяй сельскай гаспадаркі. Адарванасьць ад масы, адсутнічаньне работы з беднатой, крамкомісіямі, актывам, пайнікамі, а таксама адсутнасьць грамадзкасьці—гэтакі пасыў іх працы. Дзякуючы такому становішчу ў шэрагу таварystваў (Астрагляды, Савічы) маюцца растраты. Таксама слаба работа па загатоўках (асабліва злачынна па мясазагатоўцы). Паявая кампанія зусім дрэнна праведзена.

Уся грамадзкасьць і ўпаўнаважаныя спаж. таварystваў вынесьлі пастанову аб зьліяньні таварystваў у адно буйное сельскае з цэнтрам у Брагіне.

### Пачынаем перабудоўваць сваю працу

Сход брагінскага раённага спаж. т-ва констатаваў, што спаж. т-ва пачынае паступова перабудоўваць сваю працу ў адпаведнасьці з задачамі партыі, ў сувязі з колектывізацыяй сельскай гаспадаркі, і адзначыў шэраг дасягненьняў у працы спажывецкіх т-ваў: значнае пашырэньне крамнай сеткі—з 14 да 28. Наладжанасьць развознага гандлю, організацыя асобных магазынаў па продажы гатовай вопраткі, організацыя новых крам у колгасах, як, напрыклад, у шкуранах і інш., паляпшэньне культабслугоўваньня пашырэньня кнігагандлю і г. д.

Але побач з гэтым адзначаны і слабыя месцы ў рабоце, на якія ўсяму райкоопактыву прыдзецца зьвярнуць увагу, каб іх зьнішчыць.

### Грамадзкая праца

Праца з актывам, крамкомісіямі і наогул пайнікамі абстаіць дрэнна. Крамкомісіі, за выключэньнем брагінскай, амаль бязьдзейнічаюць. Пытаньне аб паявых узносах і мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў не абгаворана, у выніку чаго маем вялікае невыкананьне пляну паявых заданьняў (на жаль, сума невядома бо стат.-вучот яшчэ не наладжаны). Пытаньне нарыхтоўкі другарадных відаў сыравіны, распаўсюджаньне пазыкі трактарызацыі не прапрацована сярод пайнікаў, грамадзкасьць ня ўцягнута ў працу коопэрацыі.

### Грамадзкае харчаваньне

У грамадзкім харчаваньні некаторыя дасягненьні ёсьць, але шмат і недахопаў: раённая сталовая працуе дрэнна, антысанітарнасьць ня зьнішчана, апарат недысцыплінаваны і не падрыхтаваны, буфэтчыкаў—два, але яны больш стаяць ды адказваюць аднэй агульнай фразай „няма“, ініцыятывы з іх боку няма, і такія звычайныя блюды, як селядцы ў розных гатунках, вэнігрэт, халаднік, кісель адсутнічаюць, водкіды не скарыстоўваюцца. Зараз памяшканьне гэтай сталовай павялічваецца, і трэба чакаць паляпшэньня. На раёне працуе адна сталовая—у астраглядзкім саўгасе, але

рабочыя скардзяцца на тое, што лепш гэтакую не адчынялі-б, таму што забесьпячэньне продуктамі дрэннае. У колгасах Савічы і Мікулічы падрыхтаваны інвэнтар і памяшканьні, але яны яшчэ не адчынены. Чаму? А таму, што продуктаў для гэтых сталовых Гомрайсаюз не адпускае, а колгасы іх ня маюць. Што-ж, — гавораць колгасьнікі? — „займаюцца толькі пустасловам: рамантавалі памяшканьне, а сталовую не адчыняюць". Райсаюз і ў прыватнасьці інструктар Яноўскі толькі фігуруюць лічбамі, што ў колгасах адчынены сталовыя, а на справе ніякіх захадаў ня прымаюць, каб яны працавалі.

## Абслугоўваньне сэзонных рабочых

У раёне працуе шмат сэзоньнікаў, але пераломy ў іх абслугоўваньні няма. Нават райсаюз у сваім пляне па культбытавой рабоце для спаж. таварыстваў месца для сэзоньнікаў не адвёў. Можа гэта „тэхнічная памылка", але гэта так. Такая-ж памылка і ў заданьнях, складзеных плянавіком т. Мініным для кожнага інструктара спаж. т-ва, дзе сэзоньнікі чамусь-ці прапушчаны?! Лесбел дапускае бюрократызм у справе забесьпячэньня грамадзкім харчаваньнем сэзоньнікаў. Ня гледзячы на шэраг запатрабаваньняў спаж. таварыства аб пабудове памяшканьня для сталовай у Першыцкім, Лесбел нават не адказвае.

## Культпраца

Спаж. таварыства ў культпрацы зрабіла пераломи: організаваны і працуюць два коопэрацыйныя гурткі; адзін у колгасе, другі—нацменаўскі, устаноўлены радыёпрыёмнік. У колгасе праведзены шэраг вечароў пытаньняў і адказаў, праведзена вялікая работа па распаўсюджаньні кнігі, організаван кіёск у савіцкім колгасе, адзін кіёск—у Брагіне, праведзена нарада кнігаяош, адчынена 8 новых кніжных паліц пры вясковых крамах і школа для малапісьменных сэзоньнікаў Малейкаўскага заводу, працуюць ужо тры дзіцячыя пляцоўкі (у колгасах). Але і тут недахопы: кінопрасоўкі працуюць дрэнна, кінопрасоўшчыкі слаба політычна падрыхтаваны, масавая работа вакол кіно слаба праводзіцца, радыёфікацыя вескі праходзіць марудна.



Будынак Мухаедаўскага спажывецкага таварыства

## Соцспаборніцтва і ўдарніцтва

Соцспаборніцтва і ўдарніцтва праходзіць вяла. Формальна заклю-

чана ўмова з веткаўскім спаж.-таварыствам у 1928-29 г., але праверка яе выкананьня ня было, і такім чынам выкананьне ўмовы засталося не правераным. Працаўнікі паміж сабою соцспаборніцтва ня ўжываюць. Бухгальтэрыя запушчана за сем месяцаў. У апараце—рвацтва, уход з работы і іншае. (рахункавод Фішман).

Праўда, у апошні час ударніцтва паміж бухгальтэрыяй разгортваецца і мае свае вынікі.

**Далейшыя задачы**

Неабходна перабудаваць сваю працу. Патрэбна мобілізаваць увагу ўсіх пайнікаў, а ў першую чаргу беднату і актыў на выкананьне стаячых задач па абслугоўваньні пайнікаў (у першую чаргу саўгасы і колгасы), наладзіць справу грамадзкага харчаваньня і ўзьняць на належную вышыню культработу, зьвярнуць асаблівую ўвагу на абслугоўваньне сэзоньнікаў, разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

**Я. Валожын**

# Дняпросаюзаўскія прарывы

(*Прарывы ў організацыі і працы з батрацтвам і беднатою ў Дняпросаюзе*)

Становішча організацыі і працы з батрацтвам і беднатою ў Аршанскай акрузе па лініі спажывецкай сыстэмы кажа аб тым, што кіраўніцтва Дняпросаюзу недаацэньвае ў належнай ступені гэтае працы.

Дырэктывы партыі і Белкоопсаюзу аб вылучэньні спэцыяльнага інструктара ў апараце саюзу на працу з батрацтвам і беднатою Дняпросаюзам ня выкананы. Таксама зусім ня выкананы дырэктывы аб організацыі падраённых груп батрацтва і беднаты.

Дырэктывы, якія даваліся Дняпросаюзам спажывецкім таварыствам, насілі ў большасьці сваёй агульны характар, у іх ні слова ня было аб організацыі груп батрацтва і беднаты ў падраённых спажывецкіх таварыствах, таксама ня была дадзена яскравая ўстаноўка аб колькасным і якасным складзе груп, у выніку чаго атрымалася такое становішча, што, замест організацыі груп батрацтва і беднаты ў падраёнах, гэтакія групы па некаторых раёнах скарачаліся (у Горацкім раёне да організацыі раённай шматкрамы было 3 групы, а зараз засталася адна).

У некаторых спажывецкіх таварыствах у справе організацыі груп атрымалася поўная організацыйная блытаніна: так, у Горацкім спажывецкім таварыстве сход групы пры праўленьні спажывецкага таварыства называюць „конфэрэнцыяй", скліканьне якой па пляне прадугледжана адзін раз у два месяцы, а прававадзімыя агульныя батрацка-бядняцкія сходы па вёсках называюць „сходы груп па мясцох".

Па сваім колькасным складзе групы больш паходзяць на агульныя батрацка-бядняцкія сходы, а не на бядняцка-батрацкія групы. (групы пры Горацкім спаж. таварыстве складаюцца з 74 асоб, пры Чарэйскім—354 і г. д.)

Маюцца выпадкі поўнага скрыўленьня дырэктыў партыі ў падборы батрацка-бядняцкага активу ў склад груп: так, па Аршанскім спажывецкім таварыстве „Чырвоны Араты" група складаецца з 24 асоб, з іх 6 сераднякоў, якія плоцяць падатак ад 9-40 рублёў, служачых—5 чалавек, беднякоў—13 чалавек, з іх 1 сын жандара-лішэнца, які і зараз жыве з бацькам. Характэрна і тое, што ў склад групы не ўваходзіць ніводзін батрак. Вось вам прыклад батрацка-бядняцкай групы. На адбыўшымся сходзе гэтай групы, па пытаньні аб задачах бядняц-

кіх і серадняцкіх груп пры праўленьні спажывецкага таварыства, мелі месца такія выступленьні: Шышкоў Г., серадняк, выказаў такую думку, што бednякі ня прымалі ўдзелу ў лесанарыхтоўках, бо лічылі лепш гуляць і пагэтаму яны і беднякі(!), Градзюшка, настаўнік, казаў: „усе тавары аддаюць рабочым, а беднаце ніякіх тавараў не даюць“. Як у першым, так і ў другім выступленьнях ёсьць уплыў клясавага ворага-кулака.

Наведваньне сходаў груп вельмі дрэннае з прычыны арганізацыі іх у раённым маштабе і кепскага апавяшчэньня.

На сходзе груп Расьнянскага спажывецкага таварыства пры абгаварэньні рашэньня партыі аб працы з батрацтвам і беднатою вынесена рэзолюцыя аб вясеньня-пасяўной кампаніі; па пытаньні аб зборы паёў вынесена рэзолюцыя: „правесьці растлумачальную працу сярод насельніцтва“; па пытаньню аб бытавых мерапрыемствах спажывецкага таварыства прынята рэзолыцыя „правесьці растлумачальную працу сярод насельніцтва аб значэньні бытавых мерапрыемстваў і г. д.“ Усе рэзолюцыі носяць агульны характар.

Такая пастаноўка працы з групамі беднаты і батрацтва ні ў якім разе не забясьпечвае сапраўднага актыўнага ўдзелу батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас у правадзімай спажывецкай кооперацыяй працы.

Вучоту некоопэраванага батрацтва няма ні ў адным спажывецкім таварыстве. Таксама адсутнічае пунктуальны вучот як коопэраванай, гэтак і некоопэраванай беднаты.

Агульны процант коопэраваньня бядняцкіх гаспадарак на І/VІ-30 г. складае 81,4, што зьяўляецца значна ніжэй сярэдняга проценту коопэраваных бядняцкіх гаспадарак па БССР, які складае на І/VІ-30 году 90,9.

Яшчэ горш абстаіць справа з коопэраваньнем беднаты ў асобных раёнах: Аршанскі раён па пляне на І/VІ-30 году коопэраваў 55,6 проц. бядняцкіх гаспадарак, Расьнянскі на І/VІ-30 году—63 проц., Чарэйскі—77 проц.

Скарыстаньне ФКБ у галінах спажывецкага таварыства таксама праходзіць марудна. Аршанскае спажывецкае таварыства за 8 месяцаў (з І/Х-29 году па І/VІ-30 году) з 1445 рублёў скарыстала 115 рублёў.

У справе задавальненьня батрацтва і беднаты таварамі на працягу ўсяго часу Расьнянскім спажывецкім таварыствам часта парушаліся дырэктывы партыі. У гэтым пытаньні некоопэраваная частка беднаты не задавальнялася таварамі.

Што больш усяго абурае—гэта ўчынак старшыні рэвізійнай комісіі Зарэцкага, працаўніка РК КП(б)Б: замест прызнаньня сваіх памылак на адбыўшымся сходзе ўпаўнаважаных спажывецкага таварыства, ён з пенаю ў роце абараняў сваю праваапартуністычную прапанову.

Мясцовыя партыйныя органы кіраўніцтву працай спажывецкіх таварыстваў з батрацтвам і беднатою павінны зьвяртаць больш увагі.

Ёсьць такія разважаньні з боку некаторых партыйных працаўнікоў на мясцох: „там, дзе маюцца комфракцыі пры спажывецкіх таварыствах, патрэбна арганізаваць групы батрацтва і беднаты“. Гэтакія разважаньні азначаюць неразуменьне тых задач, якія ставіць партыя перад групамі батрацтва і беднаты.

У справе падрыхтоўкі і ўцягненьня ў апарат спажывецкага таварыства батрацтва і беднаты маюцца значныя дасягненьні ў Горацкім, Расьнянскім і інш. спажтаварыствах

Брыгадзіры П. і Р.

# Аб працы Плешчаніцкага спажывецкага таварыства

(*з матар'ялаў абсьледваньня*)

Выкананьне пяцігадовага пляну нашага соцыялістычнага будаўніцтва і рост матар'яльна-культурнага ўзроўню мас ставяць востра перад коопэрацыяй пытаньне аб выкананьні ўсіх важнейшых дырэктыў партыі і ўраду, якія накіраваны на пасьпяховае задавальненьне ўсіх спажывецкіх патрэб. Ці заўседы ажыцьцяўляюцца спажывецкай коопэрацыяй пастаўленыя перад ёй задачы?

Пры аглядзе працы асобных спажывецкіх таварыстваў і ў прыватнасьці Плешчаніцкага вельмі важныя дырэктывы ня выкананы, напрыклад, такія важнейшыя пытаньні, як уцягненьне актыву ў працу, разгортваньне грамадзкай думкі вакол збору паёў, укладаў, капітальнага будаўніцтва, грамадзкага харчаваньня і контрактацыі жывёлы.

Як і раней, ніякага зруху ў гэтым не адчуваецца. Усё ідзе самацёкам. Ніякага вучоту актыву няма, ня кажучы ўжо аб якой-небудзь працы сярод яго. Ёсьць выпадкі, калі асобныя члены крамных комісій ня ведаюць аб тым, што яны абраны ў склад комісіі.

Батрацка-бядняцкай групы зусім ня існуе; гэта сьведчыць аб тым, што ніякай штодзённай працы сярод батрацка-бядняцкіх груп не вялося.

Праца з актывам адсутнічае, грамадзкасьць у гэту працу ня ўцягнута, і такім чынам ніякіх належных умоў ня створана для выкананьня галоўнейшых заданьняў і дырэктыў партыі. Возьмем, напрыклад, мобілізацыю ўласных сродкаў. За 1-е паўгодзьдзе 1929/30 году заданьне выканана толькі на 32 проц. пры сярэднім паі ў 7 руб. 58 кап., у той час, як сярэдні пай па ўсёй сыстэме—12 руб. 99 кап. Па збору ўкладаў заданьне выканана толькі на 10 проц., што трэба лічыць як правал гэтай працы. Клясавы падыход у зборы паёў адсутнічаў, і пагэтаму бедната і менш аплачваемыя служачыя па выкананьні паёў ідуць на 1-м месцы: напрыклад, на 6-е студзеня 1930 г. беднякі мелі сярэдні пай 5 руб. 91 кап., ці 59 проц. асноўнага паю, серадннякі—9 руб., ці 36 проц., а кулакі — 19 руб. 76 кап., ці 49,4 проц.; служачыя: група з асноўным паем у 15 руб. выканала 67 проц., 20 руб.—71 проц., 30 руб. — 48 проц. і 40 руб. — 39,5 проц.

Ня гледзячы на вострую патрэбу капітальнага будаўніцтва, ніякіх каштарысаў ні плянаў да апошняга часу ня складзена.

Грамадзкае харчаваньне ў загоне. Ня толькі не пашырана сетка сталовых і не організаваны палявыя ачагі, але і на паляпшэньне працы існуючай местачковай сталовай ня зьвернута ніякай увагі.

У галіне забесьпячэньня насельніцтва хлебам нічога ня зроблена, абмяжоўваюцца толькі задавальненьнем сталовых хлебам, а гэта спрыяе прыватніку разьвіваць сваю дзейнасьць у забесьпячэньні хлебам насельніцтва. Да пабудовы ці пашырэньня пякарні ніякай падрыхтоўкі ня зроблена.

Контрактацыя жывёлы правалена.

Абслугоўваньне колгасьнікаў праходзіць бясплянава. Ніякага вучоту колгасьнікаў не вядзецца, і досыць значная частка сярод іх не коопэравана.

Актыў і грамадзкасьць ня ўцягнуты ў справу контролю дзейнасьці спажтаварыстваў, што садзейнічае растратам. Рэвізійная комісія сыстэматычна працы не вяла (у апошні час гэта выкрылася). Бухгальтэрыя адстала на 4 месяцы. Усё

гэта зьяўляецца прычынай росту растрат, аб чым сьведчаць наступныя лічбы:

| | | |
|---|---|---|
| Растраты мінулых гадоў складаюць | | 3.970 р. |
| „ | 1928/29 г. „ | 3.795 р. |
| „ | 1929/30 г. (за 1-е паўг.) | 3 800 р. |

Кульпрацы ніякай не вядзецца як сярод пайнікаў, гэтак і сярод служачых спажывецкага таварыства.

Праца з кнігай не наладжана як у самым цэнтры спаж. таварыства, так і ў вясковых крамах, у якіх праца амаль адсутнічае. Прыказчыкі вясковых крам лічаць, што праца з кнігай не ўваходзіць ў іх абавязкі, і гэта пры наяўнасьці асобнага працаўніка—інструктара-кніжніка.

Нельга абмінуць такога важнага пытаньня, як рацыяналізацыя, але аб ёй шырокая грамадзкасьць і пайнікі нічога ня ведаюць. Практычна ў гэтай галіне працы спаж.-таварыствам нічога ня зроблена.

Нават такія прымітыўныя паляпшэньні, як штодзённая вымятаньне крам, мыцьцё падлогі, парадак на полках, папярэдняе развažваньне зусім адсутнічаюць.

Соцыялістычнае спаборніцтва распачалі праводзіць паміж асобнымі крамамі, але ў апошні час на гэта забыліся, і соцспаборніцтва не адчуваецца ні ў аднэй галіне працы.

За апошні год ня было ніводнага справаздачнага сходу, не абгаварваліся тыя ці іншыя пытаньні коопэрацыйнай працы, што ня спрыяла разгортваньню самакрытыкі.

Адзначаныя адносіны спаж. таварыстваў да ўцягненьня ў працу працоўных мас былі прычынай невыкананьня ўсіх пералічаных галін працы.

У дадатак да гэтага трэба адзначыць, што ў працы спаж.-таварыстваў дапушчаны выпадак вельмі злачыннага самазабесьпячэньня: перададзеная спажтаварыству маёмасьць раскулачаных асоб была разьмеркавана сярод служачых гэтага т-ва.

Праўда, акрамя недахопаў у працы спаж. т-ва маюцца і дасягненьні: спажывецкае т-ва цалкам справілася з абслугоўваньнем хлебазагатоўчай кампаніі; таксама выканана заданьне па арганізацыі адкорму сьвіней. Справа адкорму пастаўлена добра, і сьвінаадкормачны пункт зьяўляецца прыкладам сьвінагадоўлі для ўсяго раёну. Паказанае сьведчыць, што, пры належнай увазе тэй ці іншай галіне працы, заўсёды будуць посьпехі.

Трэба думаць, што ў далейшым спаж. т-ва ўлічыць адзначаныя недахопы і перабудуе сваю працу: зоймецца ўцягненьнем актыву і грамадзкасьці ў працу, разгорне самакрытыку і соцыялістычнае спаборніцтва, што дасьць магчымасьць цалкам справіцца з вялізарнымі задачамі, якія стаяць у сучасны момант перад спажкоопэрацыяй.

С. Г.

## Прыгарадныя саўгасы Менскага ЦРК

Менскаму ЦРК адведзены тры прыгарадныя саўгасы ў 2.050 гэктараў, з якіх звыш 1000 гэктараў—ральля. Палявыя работы ў саўгасах ужо закончаны. Усяго засеяна 300 га.

Мяркуецца атрымаць з сваіх саўгасаў 1300 тон бульбы і рознай другой гароднiны, у тым ліку і з ранейшых каля 3.000 тон. 50 га вылучана пад садовыя культуры. Закладзена 1.300 парніковых рам. Орґанізавана малочная фэрма.

На сёньняшні дзень ёсьць 700 галоў малочных кароў, якія даюць каля 4.000 літраў малака ў дзень, і 74 штукі маладняку.

Трэба адзначыць, што жывёла ўтрымліваецца ў надзвычайна цесных будынках. Пры прыняцьці саў-

гасаў ЦРК зараз-жа прыступілі да пабудовы для жывёлы будынку. Пры сканчэньні гэтага будынку колькасьць жывёлы будзе даведзена да 1.400 галоў.

Закончана пабудова адкормачных




Гор. Бабруйск. Матка ангельскае пароды ў сьвінаадкормачным пункце

пунктаў. Пастаўлена на адкорм 600 сьвіней.

Прыступлена да пабудовы вялікага будынку для захоўваньня гародніны, які будзе зьмяшчаць да 2.000 тон бульбы.

Заканчваецца пабудова агульнага памяшканьня для рабочых.

Усяго Менскі ЦРК укладае ў буйнае будаўніцтва саўгасаў каля 800.000 руб.

Значным тормазам у разгортваньні будаўніцтва зьяўляецца недахоп будаўнічага матар'ялу. Калі перапынкаў з дастаўкай будаўнічых матар'ялаў ня будзе, дык ўсё вызначанае па пляну будаўніцтва будзе закончана ў тэрмін.

---

Я. А.

## Што паказала абсьледваньне Самахвалавіцкай коопэрацыі

За апошні час менаддзяленьнем БКС праведзены масавы агляд працы дванаццаці спаж. т-ваў акругі.

Агляд паказаў, што і ў нашай спажсыстэме ня ўсё здавальняюча. Маецца шэраг прарываў у рабоце, скрыўленьняў клясавай лініі і дырэктыў вышэйшых організацый, маюцца выпадкі самазабесьпячэньня і г. д. Найбольш характэрны матар'ял, які неабходна ведаць грамадзкасьці, мы маем па Самахвалавіцкаму спаж. т-ву. Праўленьне гэтага спаж. т-ва было чыноўніцкім. У складзе яго ня было ніводнага бедняка, батрака і рабочага. За ўвесь час свае работы праўленьне праявіла поўную бязьдзейнасьць.

Ніякай работы з беднатою і батрацтвам за ўвесь час не праводзілася. Батрацка-бядняцкая група пры спаж. т-ве існуе толькі на паперы з 7 асоб, ніякай работы з ёю не вялося. У коопэраваньні бедняты і батрацтва праўленьне займалася самаашуканствам і гэтым самым заблытвала вышэйстаячыя коопэрацыйныя і савецкія організацыі:

на 1-ае студзеня праўленьнем даюцца зьвесткі аб поўным коопэраваньні батрацтва і беднаты, а фактычна маецца некоопэраваных больш 60 бядняцкіх гаспадарак, няпоўнасьцю коопэраваны і батракі, у той час, калі нескарыстаных сродкаў ФКБ маецца 976 руб. 24 кап. (гэта ў самахвалавіцкіх коопэратараў называецца поўным выканань-нем дырэктыў партыі).

Плян організацыі грамадзкага харчаваньня ў колгасах і саўгасах злачынна сарваны. Дырэктыва мен. аддзяленьня аб адчыненьні сталовых у саўгасе Фаніпаль і Шыкатовічы разгледжана са спазьненьнем на месяц, гэта значыць 19/IV г. г., а сталовыя і дагэтуль не адчынены. Існуючая сталовая ў мястэчку ня вытрымлівае ніякай крытыкі. У сталовай брудна, кухня не абсталявана. Аб правядзеньні агляду грамадзкага харчаваньня праўленьне і ня думала, ня гледзячы на шэраг катэгорычных дырэктыў. Ніякай працы па набліжэньні крам да соцсэктару ня было, ня гледзячы на тое, што ў раёне спажтаварыства ёсьць 4 буйныя саўгасы і шэсьць колгасаў, дзе няма ніводнай крамы.

Таксама сарваны і іншыя асноўныя мерапрыемствы: контрактацыя жывёлы, нарыхтоўка другараднай сыравіны і рацмінімум.

Праўленьне хаўрусавала з кулацтвам. У высланага кулака купілі дом, за які заплачана 2.100 руб., каштоўнасьць дому значна перавышана. У разьмеркаваньні дэфіцытных тавараў практыкавалася ўраўнілаўка. Клябанская крама адпускала ўсім пайнікам па 500 гр. цукру на кніжку, Грычынская крама выдавала пшанічную муку ўсім жадаючым, а бедната, батрацтва і рабочыя заставаліся бяз нормы. Атрыманая пшанічная мука ў колькасьці 80 мяшкоў для ясьляў, дзіцячых пляцовак і больніцы выдаткавана на выпечку булак.

Замест сваячасовага выкананьня дырэктыў вышэйстаячых організацый і выразнага правядзеньня клясавай лініі ў рабоце, праўленьне спажтаварыства займалася асабістымі справамі: члены праўленьня патрабавалі аплаты за ўдзел у паседжаньнях і займаліся самазабесьпячэньнем.

Плашчы і жаночыя паліто былі разьмеркаваны выключна сярод членаў праўленьня і іх знаёмых.

Рэзультаты дзейнасьці праўленьня сказаліся: праўленьне спажтаварыства адарвалася ад грамадзкасьці, і масы пайнікаў, контроль і дапамога з боку менаддзяленьня БКС і мясцовых організацый былі слабыя.

Перавыбары праўленьня спажтаварыства адбыліся 25-га мая. Справа абсьледваньня перададзена ў суд для выкрыцьця вінаватых.

---

Я. Аер

## Вясёлае жыцьцё

Весела жывецца крамару Асінаўскага аддзяленьня Расьнянскага спажыв. т-ва Максімаву Арцёму, сябру с.-г. арцелі. Трэба куды адлучыцца—краму на замок і... едзь ці ідзі, куды табе хочацца. Сьвяты надыйдуць—сьвяткуй колькі табе ўздумаецца.

Прышло першае мая, „сьвяткуй“ тры дні засаб. І мая сьвяткавалі ўсе, 2 мая арцель „Прожэктар“, і ўсе сяляне працавалі на полі, а наш крамар сьвяткуе сабе. 3-га мая—выхадны дзень трапіў, якраз—Максімаў сьвяткуе.

4 мая краму з усіх бакоў абкружылі колгасьнікі і сяляне. Усе чакалі Арцёма, успаміналі яго імя, дзівіліся, чаму так позна няма.

Аж раптам, крыкнуў адзін з чакаўшых:

— Братцы мае, Арцём паехаў некуды!

— Арцём!

— Максімаў!—гукалі сяляне, а ён, весела ўсьміхаючыся, махаў на разьвітаньне рукою.




— А, сястрыцы мае, гэта-ж ён у царкву паехаў — дзіця свайго прыяцеля хрысьціць.

— Мне і казалі: ня ідзі, бо крама будзе зачынена,—размахвалі рукамі, перагаварваліся між сабою сялянкі.

— Глядзі, ты, хаўрусуе з папом як, дарма што колгасьнік — чуліся галасы.

Вярнуўшыся з царквы „па радзінналу“, Арцём Максімаў гаварыў:

— Падумаеш, у царкву паехаць за вамі нельга. Кожны наракаць яшчэ будзе. А што, я не праваслаўны, па-вашаму? Дзень, дзякаваць богу, сьвяты,—часу вам хапае пачакаць.

5 мая, калі быў прывезены ў краму тавар, Максімаў яго раздаў адзінаасобнікам, пакуль колгасьнікі вярнуліся да хаты з поля.

Лепшы тавар разабраць знойдуцца ахвотнікі, толькі акажыся кум, кума, прыяцелі ўсякія.

Вось бачыце, як весела жывецца нашаму крамару, а вы кажаце...

Чаму ён, як сябра сельска-гаспадарчае арцелі не абагульвае свае маёмасьці? Чаго глядзіць праўленьне арцелі і праўленьне Расьнянскага сцаж. т-ва, што ў іх такі загадчык аддзяленьня?

Лепш вы спытайце самі пра гэта ў старшыні арцелі і таварыства, а мы ў сваю чаргу таксама запытаемся і тады праверым, ці правільна яны даюць адказы.

---

## Зьмяніць пастанову

Бялыніцкае праўленьне спаж. копэрацыі (Магілеўшчына) разьбіл-ўсіх пайнікаў раёну па сваіх аддзяленьнях. Але тут праўленьне ня ўлічыла, пайнікам якой вёскі ў якое аддзяленьне бліжэй і зручней хадзіць за пакупкай.

Напрыклад, у Ланькаўскім с/с, у в. Ільновічах, ёсьць аддзяленьне Бялыніцкай коопэрацыі. Да гэтага аддзяленьня далучаны пайнікі вёсак Лубянаў, Чыгіраў, Вуйлова і Ільковіч. Лубянскім пайнікам зусім нязручна і далёка хадзіць у Ільноўскае аддзяленьне. Лубянцы нават ня ведаюць, калі туды прывозіцца тавар, і ніколі нічога ня могуць узяць, бо пакуль яны даступяцца, дык бліжэйшыя пайнікі разьбіраюць усё лепшае.

Лубянскія пайнікі такім раёнаваньнем надзвычайна абураны. Яны напісалі заяву ў Бялыніцкае праўленьне спаж. коопэрацыі, у якой прасілі, каб іх далучылі да бялыніцкай коопэрацыі, але іх просьбу не задаволілі. У выніку пайнікі прасілі аб звароце ім паю.

Трэба яшчэ дадаць тое, што Ільноўскае аддзяленьне, паколькі яно малое і цеснае, ня можа задаволіць усіх пайнікаў. Прыказчык т. Акунёў не спраўляецца з работай. Кніжкі ляжаць па тры дні, пакуль дойдзе чарга.

Трэба бялыніцкаму праўленьню ўсё гэта ўлічыць і Лубяны далучыць да бялыніцкай коопэрацыі.

**„Алесь Стойкі“.**

## Пацікаўцеся працай.

Нідзе, мусіць, няма такога прыказчыка ў краме, як наш Місевіч Андрэй. Яго запрасіў на працу, як вернага таварыша, старшыня праўленьня Ліцягін.

Прыказчык, замест таго, каб трымаць цесную сувязь з колгасьнікамі і беднатою, хаўрусуе ўвесь час з заможнымі гаспадаркамі, выдае ім лепшыя тавары, а колгасьнікам кажа: „організуйце сабе краму ў колектыве“.

Адзін бядняк, які прынёс лён, каб выменяць на махорку, паспрачаўся з прыказчыкам, апошні ня даў яму махоркі, кажучы: „Куры свой лён“. Бядняк, зразумела, аддаў лён другому селяніну, які і ўзяў яму махоркі.

Шмат разоў ужо бедната ставіла гэта пытаньне на сходзе, падавалі заявы ў праўленьне, але яны ляжаць там па году.

Можа, цяпер разварушыцца праўленьне і пацікавіцца працай Місевіча. **Колгасьнік.**

---

## Трэба зьвярнуць увагу

У в. Піркі, Камарынскага раёну, ёсьць аддзяленьне Калыбаньскага спаж. таварыства. Раней Піркаўскае спаж. таварыства было самастойнае, але ўзімку гэтага году яно аб'ядналася з Камарынскім спаж. таварыствам. Як толькі адбылося аб'яднаньне, у аддзяленьні выкрыліся недахопы і адсутнічаньне звычайных тавараў, ня кажучы ўжо аб дэфіцытных.

За 3 месяцы толькі газу адзін раз давалі, цукру ад студзеня месяца ў вочы ня бачылі. Нават запалкі па адней пачцы даюць калі-ні-калі, у той час, як у другіх таварыствах даюць колькі хочаш.

Ёсьць толькі ў краме сярпоў іржавых ад мінулага году штук 100 одэколёну 7 бутэлечак, вілаў жалезных дзесятак які, рыцыны некалькі бутэлечак, шчолаку, закупленага яшчэ ў 25 годзе, пачак 6 і інш. такая дробязь.

Прыказчык крамы Пугаль Кузьма не клапоціцца аб забесьпячэньні свае крамы таварамі, а праўленьне Калыбаньскага спаж. таварыства таксама ня дбае, а 40 рублёў прыказчыку і 20 рублёў вартаўніку ў месяц ідуць.

Неабходна каму належыць гаспадарскім вокам глянуць на гэту справу і зрабіць адно з двух: альбо зачыніць аддзяленьне, альбо забясьпечыць яго таварамі па прыкладу другіх таварystваў.

**А. К-кі.**

---

## Сам сабе гаспадар

У Дудзіцкім аддзяленьні Калінкавіцкага спаж. таварыства зьяўляецца загадчыкам тав. Рабіновіч. Да пакупнікоў ён адносіцца няўважліва. Тавары адпускае тым, хто падабаецца яму. У краме брудна, на прылаўку заўсёды паразьлівана газа. На тых вагах, што важаць газу, важаць і цукар.

Скажаш яму пра гэта, дык ён толькі ўсьміхаецца. Адным словам, парадкуе так, як уздумаецца яму.

**Відавочца**

---

## Аб процантах і надбаўках

Здаецца, бяруць вялікую надбаўку ў нашым Кукавіцкім спаж. таварыстве, Калінкавіцкага раёну, Мазырскай акругі. Так, летняя шапка каштуе 2 руб., а за яе бяруць 2 р. 50 к., гарнітур фабрык „Віцшвей“ — цана гуртавая на ім 30 р., а ў нас ён каштуе 36 р. 50 к.

Як сабе ні кажэце, а усё-ж такія надбаўкі і проценты прызьмяншэньні сабекошту нешта значаць. Варта камусьці пацікавіцца.

**Пайнік.**

---

## З коопэраваньнем у нас добра

Год таму назад у в. Лубянах, Ланькоўскага с.-с., Бялыніцкага раёну, было 10 пайнікаў. За апошні бурны год соцбудаўніцтва ў в. Лубянах мы наглядалі значнае павялічэньне пайнікаў. Цяпер налічваецца 100 пайнікаў, пры наяўнасьці 130 двароў. Прычыны гэтага тыя, што адпаданьне прыватніка і правядзеньне колектывізацыі выклікалі патрэбы бядняцка-серадняцкіх мас і колгасьнікаў у коопэраваньні. Таксама трэба сказаць, што Ланькоўская парт'ячэйка і с/савет шмат прарабілі за зіму, каб коопэраваць вёскі па с/савету.

**„Алесь Стойкі“.**

---

## Распачаць будаўніцтва

8-га мая г.г. у м-ку Капаткевічах быў пажар. Ад пажару згарэла 60 дамоў разам з гаспадаркамі, у тым ліку згарэлі і дзяржаўныя будынкі: чатыры коопэрацыйныя крамы, аптэка, с.-г. таварыства з насеньнем і машынамі.

Мястэчка трэба зноў будаваць; цяпер якраз будаўнічы сэзон, але будаўніцтва не пачынаецца. Чаму гэта так?

А таму, што да гэтага часу акругі ня склалі будаўнічага пляну. Прыехаў інжынэр і абавязаўся скласьці плян пабудовы мястэчка і коопэратыву. Пляну і дагэтуль няма. Плян малюецца нешта надта доўга. Коопэратывы знаходзяцца па хлявох і гумнах, і аб гэтым ніхто не клапоціцца. Адпаведным органам трэба ўзяцца за гэту справу і скласьці плян пабудовы дзяржаўнага будынку, каб у вясеньня летні пэрыод прыступіць да пабудовы.

**П. Гарын.**

---

## Наблізіць да мас

Самахвалаўская местачковая сталоўка, якая належыць мясцовай коопэрацыі, не прыстасоўвае сябе да спажыўца. Вельмі часта сталоўка адчыняецца а 9-й гадзіне раніцы, гэта значыцца ў той час, калі ўсе, якія харчуюцца ў сталоўцы, павінны станавіцца на працу. Пры такім становішчы рабочым і служачым мястэчка прыходзіцца заставацца бяз сьнеданьня, або ўрываць для апошняга рабочы час.

Па-другое, сталоўка адмаўляецца абслугоўваць тых, хто пэрыодычна прыяжджае на працу ў Самахвалавіцкі раён.

Гэтыя недахопы трэба ліквідаваць. Сталоўку патрэбна наблізіць да мас.

**В. А.**

---

## Палепшыць абслугоўваньне

У местачковай сталоўцы Крупцы адміністрацыя няўважліва сочыць за чыстатой. Часта чайныя лыжачкі падаюцца нямытымі; акрамя гэтага, буфэтчык сталоўкі Піліпаў неаднолькава адносіцца да сваіх пайнікаў. Бываюць выпадкі, калі ён адпраўляе спажыўца ад буфэту, кажучы, што нічога няма (калі спажывец незнаёмы), а калі падыходзіць знаёмы, знаходзяцца ў буфэце тыя продукты, якіх раней „ня было“.

Праўленьню на гэтыя факты трэба зьвярнуць увагу.

**Свой.**

# Коопэрацыйная хроніка

Прэзыдыум Белрабсэкцыі прапанаваў Барысаўскаму ЦРК прыняць меры да паляпшэньня харчовага забесьпячэньня рабочых фабрык «Чырвоная Бярэзіна» і «Пролетарская дапамога» шляхам забесьпячэньня іх у першую чаргу харчовымі продуктамі і адчыненьня ў раёне гэтых фабрык коопэрацыйных крам.

Перад адміністрацыяй фабрык пастаўлена пытаньне аб прадастаўленьні для коопэрацыйных крам адпаведных памяшканьняў.

Пакуль што на гэтых фабрыках будуць адчынены ларкі.

◆ Белкоопсаюз атрымоўвае 37 новых кіно-перасовак тыпу «ГОЗ», 30 дынамамашын невялікай магутнасьці і 90 чатырохлямпавых радыёпрыёмнікаў тыпу БЧН.

Радыёпрыёмнікі ў першую чаргу будуць скарыстаны для абслугоўваньня сэзоньнікаў і вясковых трансляцыйных вузлоў. Рэштка прыёмнікаў будзе накіравана ў чырвоныя куткі і клюбы буйных колгасаў.

Дынамамашыны будуць накіраваны ў нээлектрыфікаваныя раёны для пабудовы маленькіх электрастанцый, патрэбных для організацыі стацыянарных кіноўстановак.

◆ Белкоопсаюз атрымаў з Цэнтрасаюзу паведамленьне аб тым, што на імя БКС адгружана 20 фотакамэр (разьм. 13×18 см.); кошт аднае фота-камэры ўстаноўлены ў 110 руб. Атрыманыя фота-камэры будуць разьмеркаваны па рабочай сетцы.

◆ Гэтымі днямі ў Бабруйску адбыўся выпуск 2-месячных курсаў па падрыхтоўцы кіномэханікаў для кіноперасовак. Курсы скончылі 18 чалавек.

◆ На 1 чэрвеня бягучага году ў БКС было 116 кіноперасовак (разам з нанова атрыманымі), у той час, як у пачатку опэрацыйнага году Белкоопсаюз налічваў толькі 126 кіноперасовак. Такім чынам, большасьць раёнаў БССР на сёньняшні дзень мае па дзьве кіноперасоўкі. Апрача гэтага, Белкоопсаюз наладжвае па раёнах стацыянарныя кіноперасоўкі. На сёньняшні дзень адчуваецца некаторы недахоп у кіномэханіках, асабліва для кіноперасовак.

◆ У пачатку чэрвеня месяца пачалі працаваць 3-месячныя курсы па падрыхтоўцы радыёмантэраў і загадчыкаў трансляцыйнымі вузламі. Курсы організаваны Белкоопсаюзам разам з Радыёцэнтрам і ОДР. Радыёкурсы разьлічаны на 90 асоб.

◆ Каб лепш разгарнуць работу з кнігай і больш наблізіць яе да працоўных мас, прэзыдыум Белрабсэкцыі ўхваліў увесьці ў гэтым годзе па рабочай сетцы коопэрацыйнай сыстэмы крэдытаваньне на кнігі, якое будзе праводзіцца па прынцыпе «рабочага крэдытаваньня».

Галоўная маса кніг, на якія мяркуецца вызначыць крэдытаваньне, гэта падручнікі, кнігі культпалітасьветнага зьместу, кнігі па тэхніцы і танная бэлетрыстыка.

На справу крэдытаваньня прэзыдыум Белрабсэкцыі вызначыў адпусьціць 59 тыс. рублёй. Па ЦРК гэтыя сродкі разьмеркаваны наступным чынам: менскі ЦРК атрымоўвае 17500 руб., барысаўскі—4000 руб., бабруйскі—6000 руб., гомельскі і віцебскі—па 10000 руб., аршанскі, полацкі і рэчыцкі—па 1500 руб. кожны, шклоўскі і добрускі—па 500 руб. кожны.

ЦРКопам прапанавана разьмеркаваць вызначаныя сродкі па прадпрыемствах, пры чым у першую чаргу крэдытаваньне даецца рабочым нізкааплачваемых груп.

Пры пакупцы кніг па талёнах крэдытаваньня ўстанаўляецца 10-процантная скідка.

Для таго, каб талёны на пакупку літаратуры ў крэдыт спажыўцамі не скарыстоўваліся на іншыя патрэбы, на гэтыя талёны будзе накладзены штамп «на кнігі».

Гэта мерапрыемства значна дапаможа больш пасьпяховай рэалізацыі кніг з магазынаў і кніжных базаў ЦРК, а таксама дасьць магчымасьць рабочаму спажыўцу танна і з растэрміноўкай набыць патрэбныя яму кнігі і падручнікі.

◆ У канцы мая месяца Белсампрамсаюзам была праведзена нарада-курсы плянава-фінансавых працаўнікоў.

На нараду зьявіліся прадстаўнікі ўсіх акруговых саюзаў і Белсампрамсаюзу. Ад Усекоопрамсавету на нарадзе-курсах прысутнічаў тав. Афонскі, які быў абраны старшынёй нарады.

Нарада-курсы распрацавала парадак складаньня прамфінплянаў па нізавой сетцы, акрсаюзах і сыстэме, устанавіла тэрміны здачы промфінплянаў па кварталах, распрацавала пытаньні, якія зьвязаны з тэхнікай простага фінансаваньня, капіталанакапленьнем, калькуляцыяй і правядзеньнем зьніжэньня сабекошту.

Такі парадак абмену думак дапамагае высьвятленьню шэрагу момантаў бягучай работы і дае ўсе магчымасьці

пасьпяхова выканаць задачы, якія стаяць перад сыстэмай прамкоопэрацыі БССР.

Нарада выказала пажаданьне, каб такія кароткатэрміновыя курсы фінансавапляновых працаўнікоў склікаць сыстэматычна перад пачаткам кожнага кварталу.

---

У бліжэйшыя дні выходзіць пераапрацаваны прыкладны статут рыбацкіх арцеляй Статут для рыбацкіх арцеляй Белсампрамсаюзу ўжо вышаў з друку і разасланы арцелям для карыстаньня.

---

## Буйная сеткавязальная арцель у Віцебскай акрузе

Белсампрамсаюз прапанаваў віцебскаму аддзяленьню БСПС арганізаваць коопэрацыйную арцель па вязаньні сетак. Арцель ахопіць звыш 4000 вясковых саматужнікаў. Мяркуецца, што сеткавязальная арцель будзе выпускаць па 60 невадаў у дзень. Кошт неваду—звыш 3000 рублёў.

Для азнаямленьня з пастаноўкай працы ў вытворчасьці сеткавязаньня, віцебскае аддзяленьне БСПС командыравала свайго прадстаўніка ў горад Асташкаў.

---

## Падрыхтоўка кіномэханікаў

У Гомлі, Віцебску і Магілеве адчыніліся двухмесячныя курсы па падрыхтоўцы кіномэханікаў для вясковай сеткі. Курсы падрыхтоўваюць кіномэханікаў - перасоўнікаў для Гомельскай, Мазырскай, Магілеўскай, Аршанскай, Віцебскай і Полацкай акруг.

У сярэднім на кожных курсах навучаецца каля 30 чалавек.

Гэта мерапрыемства зьменшыць недахоп у кіномэханіках, які асабліва востра адчуваўся ў апошні час у сувязі з набыцьцём новых кіно-перасовак.

---

## Суднабудаўніцтва па Дняпроўскай сыстэме перададзена Белсампрамсаюзу

Згодна пастановы эканомнарады БССР, усё будаўніцтва па Дняпроўскай сыстэме перададзена сыстэме прамкоопэрацыі БССР. Зараз на суднабудаўнічых вэрфах у Пятрыкове, Мазырскае акругі, і Горацку, Гомельскае акругі, разгорнута будаўніцтва невялічкіх суднаў. Цэнтральны рачны флёт СССР адпусьціў на гэтую справу БСПС 210 тыс. руб.

У параўнаньні з мінулым годам тонаж суднаў Белсампрамсаюзу павялічыўся больш, чымся ў два разы. У наступны і далейшыя гады намечана павялічэньне тонажу на 100-150 проц. штогодна.

Зараз па лініі ВСНГ БССР распрацоўваецца проэкт мэханізацыі суднабудаўнічых вэрфаў.

---

**Мобілізуем масы на павялічэньне мясцовых харчовых рэсурсаў**

**Няхай жыве Міжнародны Дзень Коопэрацыі!**

# БІБЛІОГРАФІЯ

**М. Драздоў. «Сіласныя культуры».** Стар. 48. Ц. 15 кап. Выданьне БДВ.

Пры разгортваньні працы па сіласаваньні кармоў мала пабудаваць прыгожую вежу ці накапаць тысячы ям: трэба загадзя прыняць усе меры, каб забясьпечыць сілосьні зелянінай, каб яны ўвосень не засталіся пустымі, каб было што засіласаваць. Фактычна ў пытаньні сіласаваньня два асноўных фактары: 1) пабудова, 2) зялёная маса на сілос. Наяўнасьць іх цалкам вырашае проблему.

У якасьці зялёнай масы на сілос могуць ісьці водкіды караняплодаў, бульбоўнік, пустазельле і г. д. Але гэтай зеляніны, бязумоўна, ня хопіць, і таму зараз у кожнай гаспадарцы трэба ставіць пытаньне аб засеве спэцыяльных культур на сілос, якія даюць многа зеляніны. Сярод такіх культур ёсьць расьліны, у якіх шмат бялку (палюшка, віка, лубін, канюшына), і расьліны, у якіх многа крухмалу (сланечік, кіяхі, сарго, магар і інш.).

Большасьць з гэтых культур слаба пашыраны ў БССР. Вось чаму трэба вітаць працу т. Драздова, які, грунтуючыся па дадзеных Тураўскай дасьледчай станцыі, падрабязна апісвае памянёныя культуры на сілос ва ўмовах БССР. Для кожнай культуры разглядаюцца выраб глебы, угнаеньне, тэрмін засеву, догляд, уборка і кармавая вартасьць засіляванай культуры.

Усе гэтыя пытаньні так актуальны зараз у саўгасах і колгасах, што кніжка т. Драздова бязумоўна сустрэне самыя спагадныя адносіны з боку цэлага шэрагу чытачоў.

**С. К.**

---

**Праф. Мэдзіш. «Хваробы лёну і канапель».** Стар. 24. Ц. 15 кап. БДВ 1930 г.

Толькі заскарузласьць думкі і дрэнныя традыцыі маглі быць прычынай, што да гэтага часу лічаць пытаньне аб хваробах тэхнічных культур выключна пытаньнем, якім павінны займацца агрономы і спэцыялістыя па хваробах расьлін. Штогадовыя страты, якія мае народная гаспадарка ад хвароб лёну і канапель, такія вялікія, што пытаньне барацьбы з хваробамі заслугоўвае ўвагі ўсяе савецкай грамадзкасьці. Мы ня маем падрабязных лічбаў ад страт праз хваробы лёну і канапель ў Савецкім Саюзе, але лічбы ў ПАЗШ паказваюць, што там ад хвароб траціцца штогод 36 проц. нормальнага ўраджаю лёну, а пры пераводзе на грошы—20,8 мільёнаў доляраў.

Разгортваньне колгаснага і саўгаснага будаўніцтва патрабуе з усёй рашучасьцю заняцца барацьбой з хваробамі тэхнічных культур. Кніжка проф. Мэдзіша апісвае найбольш пашыраныя хваробы лёну (антракноз, фузарыёз, полiспора, рудая плямістасьць) і раіць спосабы барацьбы з імі. З хвароб канапель даецца апісаньне рака канапель, плямістасьць лісьця і з кветкавых чужаедаў і заразіха.

Кніжку трэба раіць ня толькі колгасьнікам, саўгасным рабочым, бядняцкасерадняцкаму сялянству, але і ўсім працаўнікам організацый, якія непасрэдна ведаюць вагатоўкай валакна і насеньня ільну і канапель. Менавіта і праз гэтых працаўнікоў трэба пашырыць веды аб хваробах тэхнічных культур і барацьбе з імі.

**Х. Л-кі.**

---

**Р. С. Гуржы.—«За будаўніцтва індустрый па пераапрацоўцы садовіны і гародніны».** Стар. 28. Ц. 18 кап. БДВ. 1930 г.

Садовіна і гародніна зьяўляюцца вельмі каштоўным дадаткам да харчу чалавека. Багатыя каштоўнымі органічнымі кіслотамі, садовінным цукрам, мінэральнымі солямі, вітамінамі, прадукты садоўніцтва і гародніцтва дужа добра ўплываюць на здароўе. Замежная практыка паказвае, што там з кожным годам насельніцтва ўсё больш і больш ужывае ў харч садовіны і гародніны.

Вырашэньне проблемы грамадзкага харчаваньня ў СССР не магчыма бяз сталага карыстаньня продуктаў садоўніцтва і гародніцтва. Але разьвіцьцё садоў-

ніцтва і гародніцвта ня можа меиць посьпеху без разьвіцьця індустрыі па пераапрацоўцы садовіны і гародніны. Гэта трэба цьвёрда памятаць як установам і організацыям, непасрэдна кіруючым рэконструкцыяй сельскай гаспадаркі, гэтак і ўстановам, па абавязку якіх ляжыць наладжваньне грамадзкага харчаваньня ў гарадох (Цэрабкоопы).

Разьвіцьцё-ж індустрыі па пераапрацоўцы садовіны і гародніны, апрача таго, што дае грунт для разьвіцьця садоўніцтва і гародніцтва, зьмяняе склад пладовых і гародных культур, яшчэ і дае магчымасьць шырока выкарыстаць прыродныя багацьці (у БССР мясныя ягады, якія выкарыстоўваюцца мала і дужа прымітыўна). Нетранспортабэльныя продукты пасьля пераапрацоўкі на індустрыяльных прадпрыемствах могуць перавозіцца без жаднай страты на тысячы кілёмэтраў.

Індустрыяльная пераапрацоўка дае магчымасьць таксама больш поўна выкарыстаць сырэц, частка якога гіне толькі таму, што ня можа быць выкарыстана ў звычайным выглядзе.

Усё гэта прымушае тэрмінова паставіць у парадак дню справу пераапрацоўкі і будаўніцтва індустрыяльных прадпрыемстваў.

З розных відаў пераапрацоўкі аўтар разглядае ва ўмовах БССР наступныя: 1) пладова-ягаднае вінаробства, 2) натуральныя садавінныя сокі і концэнтраты, 3) консэрваваньне з дапамогай цукру, 4) сушка, 5) консэрвавая вытворчасьць, 6) паўфабрыкаты (пульп, цеста) і 7) квашэньне і засолка.

Усе паказаныя віды пераапрацоўкі могуць быць з посьпехам разьвіты ў БССР. Гэтыя магчымасьці адчыняюцца і ў справе пераапрацоўкі садовіны і гародніны. Кніжка тав. Гуржы гэта грунтоўна даводзіць. Мы раім азнаёміцца з кніжкай т. Гуржы ўсім работнікам коопэрацыі і асабліва работнікам, організуючым грамадзкае харчаваньне.

**К. Ляўчук.**

---

**І. М. Серада.—«Тэхніка сіласаваньня і кармленьне жывёлы сіласам».** Стар. 50. Ц. 25 кап. Выданьне БДзВ 1930 г.

Пасьпяховае вырашэньне кармовага пытаньня—грунт для разьвіцьця жывёлагадоўлі. Соцыялістычная рэконструкцыя жывёлагадоўлі ставіць зараз, як ударную задачу, вырашэньне кармавога пытаньня. З вядомых кармоў сілос расцэньваецца вельмі высока, як корм для малочнай і мясной жывёлы. Жывёла з усіх грубых кармоў найбольш любіць сілос. З экономічнага боку сілос ня толькі выгодны зімовы корм, але ў той-жа час найбольш танны корм. У гэтым годзе ў БССР павінны быць пабудаваны сотні веж-сілосьняў і дзесяткі тысяч ям для сілосу. Паколькі гэта праца вельмі вялікая і праводзіцца ў БССР першы раз, важна, каб пытаньні сіласавньня былі популярызаваны і каб шырокія колы бядняцка-серадняцкага сялянства дакладна ведалі, як будаваць сілосьні, якая зеляніна ідзе на сілос, як сіласаваць зеляніну і як карміць жывёлу сілосам.

Пытаньні будаўніцтва сілосаў высьветлены ў надрукаванай раней кніжцы таго-ж аўтара «Пабудова сілосаў». Пытаньне сіласаваньня разьбіраецца ў рэцэнзуемай кніжцы, якая фактычна ёсьць працяг першай. Аўтар разьбірае два спосабы сіласаваньня: халодны і гарачы; высьвятляе пытаньне аб гатунках сілосу, зьменах зеляніны пры сіласаваньні і кармовую вартасьць сілосу.

Тэхніка сіласаваньня разглядаецца, галоўным чынам, з пункту погляду мэханізацыі яе (што важна пры загрузцы зелянінай высокіх веж-сілосьняў).

У разьдзеле аб кармленьні жывёлы сілосам вызначаецца рацыён для кармленьня мясной жывёлы, кормнае жывёлы, авечак, коняй і сьвіней.

Аўтар карыстаўся пры ўкладаньні, галоўным чынам, амэрыканскімі дадзенымі, але ў некаторай частцы ён скарыстаў дадзеныя колгасаў і саўгасаў нашага Саюзу. Кніжка вельмі карысна пры правядзеньні кампаніі па сіласаваньні, якая ў гэта лета і восень разгортваецца ў БССР.

**Г. Саўчык.**

---

*Рэдакцыйная калегія—Рэдактар* **Гінзбург**
*Выдавец:*—**Белкаапсаюз і Белсампрамсаюз**